ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

13 мая 1994 г. № 19 (3741) Кошт 150 руб.

## XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

**Васіль ЗУЁНАК: «Гістарычна ў нас склалася такая сітуацыя, што і ў Саюзе пісьменнікаў і ў дзяржавы, у нашай улады, павінна быць адна ідэя, адна задача — нацыянальнае Адраджэнне Беларусі, адраджэнне ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. І бяда не ў тым, што мы, «вольныя мастакі», лезем «пад скіпетр улады», а ў тым: што ўлада нашая не заўсёды і не так балюча і шчыра адчувае і бярэ на душу ўсе беды нашага нацыянальнага жыцця».**

**5—6**

**Ніл ГІЛЕВІЧ: «Ці чулі вы, каб дзе-небудзь у свеце прэзідэнт незалежнай дзяржавы не валодаў дзяржаўнай мовай гэтай дзяржавы — мовай народа, якому ён бацька і правадыр? Калі нам, беларусам, не хапіла зведанай за стагоддзі ганьбы — то мы можам зведаць і гэтую».**

**9**

**Вячаслаў АДАМЧЫК: «Наш урад не хоча мець ні ўласнай прыгожай манеты, якую пасля нас маглі б знайсці нашыя нашчадкі, як нараіў Дзідро, ні прыгожых збудаванняў, якія маюць Парыж, Нью-Йорк, Токіо. Ды і нашыя аднастайна-шэрыя дамы, найбольш знакамітыя хрушчобы, могуць, барані Божа, ператварыцца ў чорныя і мёртвыя руіны.., бо мы ведаем, што ядзерная зброя пры сённяшнім бязмежным лайдацтве і п'янстве, дзікай безадказнасці, нізкай тэхнічнай бяспецы робіцца грознай найперш для той тэрыторыі, на якой яна размешчана».**

**11**

**Аляксей ДУДАРАЎ: «Расійскі прэм'ер не дурань, ніводнага пункта дамовы на карысць Беларусі ён выконваць не будзе. А мы — ужо выконваем... Масква заўсёды давала прытулак дзяржаўным нацыянальным банкрутам, калі іх пачынаў ненавідзець уласны народ. Але падумайце: ці дасць яна яго на гэты раз».**

**13**

Гэты нумар «ЛіМа» амаль цалкам прысвечаны XI з'езду пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся 27-28 красавіка г.г. У сённяшні трывожны, пераломны, вырашальны час гаварылі пісьменнікі, натуральна, не толькі пра справы творчыя...



*Актрыса праменіць любоў, актрыса спавядае любоў, здаецца, што любоў — яна сама. Здаецца, толькі яна магла на самым няпростым, са шматлікімі падтэкстамі і пакручастымі матывіроўкамі матэрыяле п'есы К. Хігінса і Ж.-К. Кар'ера «Гаральд і Мод» увасобіць Само Захапленне Любоўю. Рэжысёр Мікалай Пінігін прыдумаў ды стварыў гэты спектакль для яе і толькі для яе: для Стэфаніі Міхайлаўны Станюты.*

*Учора адбыўся яе бенефіс, і менавіта «Гаральд і Мод» стаўся бенефісным. Паставіць у нумар здымак з яго мы, натуральна, не маглі. Сюжэт спектакля, аднак, невыпадкова паўтарыўся ў здымку, зробленым на фестывалі «Маладзечанская Сакавіца» нашым фотакарэспандэнтам Віктарам СТРАЛКОЎСКІМ: Стэфанія Міхайлаўна, на якую з захапленнем пазірае сама Тэатральная Маладосць, і ўлюбёная актрыса нібы бласлаўляе яе... Віталю Рэдзьку яшчэ не даводзілася быць партнёрам Стэфаніі Міхайлаўны на сцэне, але нагадаць аўдыторыі пра амаль семдзесят пяць гадоў яе сцэнічнай дзейнасці ўжо выпала. Учора семдзесят пяць — споўнілася...*

ЛіМ КОЛА ДЗЁН



***Маскоўскае тэлебачанне паведаміла 10 траўня, што «сёння ў праваслаўных краінах святкуюць Радаўніцу». Гэта інфармацыя была праілюстравана тэлесюжэтам з Беларусі, з Мінска. Свядома ці несвядома, але тэлегледачоў увялі ў зман. Беларусь не з'яўляецца ні праваслаўнай, ні каталіцкай, ні мусульманскай краінай. Ніводная рэлігія, дзякуй Богу, не мае ў нашай краіне статуса дзяржаўнай. Быць ці не быць вернікам — асабістая справа грамадзян Беларусі. У нас Радуніца — па-за палітыкай.***

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

Прэс-сакратар ініцыятыўнай групы С.Шушкевіча зрабіў заяву, у якой адзначыў, што прапагандысцкая ўрадавая машына запушчана на поўную магутнасць задоўга да прэзідэнцкіх выбараў. Кебіч і яговая каманда ў самых розных формах атрымліваюць эфірны час практычна ў неабмежаванай колькасці. Для ўсіх астатніх прэтэндэнтаў створаны штучныя цяжкасці, а журналістам, якія маюць смеласць мець сваю думку, адрозную ад думкі ўрада, пагражае звальненне з працы. «Такога не было нават пры камуністычным праўленні», — сцвярджаецца ў заяве.

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Газета «Культура» паведаміла, што расійскі класік Аляксандр Сяргеевіч Пушкін выводзіў свой радавод ад «Григория Пушки, который в XIII веке пришел из Новугородка». Прыводзіцца цытата з выдадзенай у 1990 годзе ў Санкт-Пецярбургу кнігі «Heraldyka», дзе, у прыватнасці, быў надрукаваны «Гербовник Витебского дворянства»: «Пушкины роду «Шелига» владели оседлостями в Новогородском, Минском, Мстиславском воеводствах». Не толькі афрыканская кроў цякла ў жылах аўтара «Яўгенія Анегіна»...

## НАШЭСЦЕ ТЫДНЯ

Не паспелі жыхары паўднёвых рэгіёнаў Беларусі акрыяць ад паводкі, як прыйшла новая бяда — машкара. Як у той прымаўцы: адна бяда ідзе, другую за руку вядзе. У некаторых мясцінах мошкі пакрываюць зямлю слоем у сантыметр. Ахвярамі навалы ўжо сталі дзесяткі кароў і коней.

## АБЯЦАНАК ТЫДНЯ

Сустрэўшыся з інвалідамі вайны ў Рэспубліканскім шпіталі ў Бараўлянах, прэм'ер В.Кебіч паабяцаў ім, што з сённяшняга дня не будуць расці цэны на харчовыя прадукты, а будзе расці толькі зарплата. І ўсё гэта дзякуючы паперам, якія ён падпісаў у Маскве 12 красавіка. Зразумела, час такі — прэзідэнцкая кампанія. Трэба абяцаць, інакш не выберуць. Відаць, у наступны раз сп. Кебіч будзе запэўніваць выбаршчыкаў, што не будуць расці цэны білетаў на гарадскі і прыгарадны транспарт (а будзе расці толькі зарплата ў расійскіх рублях).

## АБАЧЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Пасля таго, як на будынку Вярхоўнага Савета Беларусі ў сталіцы дзяржавы з'явілася «Пагоня», улады Гародні і Гарадзенскай вобласці вырашылі, што наспеў час замяніць БССРаўскі сімвал на фасадзе аблвыканкама на дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь. Знайшлі мясцовага скульптара, афармілі заказ. Днямі скульптару паведамілі, што заказ на барэльеф «Пагоні» ў святле апошніх палітычных падзей можна лічыць скасаваным. Гарадзенскае кіраўніцтва не выключае, што ў бліжэйшы час фасад іхняга будынка трэба будзе ўпрыгожваць двухгаловым арлом.

## АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ

Адкрыццё чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі было запланавана на 17 траўня, але дэпутаты прыйшлі да думкі, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў збірацца не мае сэнсу. Спікер парламента М.Грыб мяркуе, што наступная сесія адбудзецца не раней 10 чэрвеня. Каб прыняць прысягу першага прэзідэнта РБ. Такім чынам, маем яшчэ адно сведчанне недзеяздольнасці Вярхоўнага Савета гэтага складу. Ці не прасцей было б замест чарговых вакацый узяць ды і пайсці ў адстаўку?

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

10 траўня прэзідэнцкую прысягу прыняў першы чарнаскуры прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, лідэр Афрыканскага нацыянальнага Кангрэса Нельсан Мандэла. Гэта азначае канец палітыкі апартэіду ў ПАР і дае надзею на нацыянальную згоду ў гэтай краіне.

## БЕНЕФІС ТЫДНЯ

12 траўня на Купалаўскай сцэне прайшоў бенефіс Стэфаніі Станюты, прысвечаны 75-годдзю творчай дзейнасці актрысы.

## ІНТЭРВ'Ю ТЫДНЯ

«Мы не павінны губляць свой твар, свой суверэнітэт», — заявіў Мечаслаў Грыб у размове з палітычным аглядальнікам «Народнай газеты». Спікер парламента лічыць, што, далучыўшыся да сістэмы «калектыўнай бяспекі», урад і Вярхоўны Савет не здрадзілі прынцыпам нейтралітэту. І ўдакладніў, што пакуль ніякага нейтралітэту няма і да 2000 года наўрад ці будзе: «Які гэта нейтралітэт, калі на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца 30 тысяч расійскага войска з ядзернай зброяй».

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

Васіль Быкаў: «Перамогу над фашызмам імкнуцца прыватызаваць з гэткім жа поспехам, як прыватызуецца ўсё астатняе. Народу ж прапануецца звыклая, спрацаваная дэмагогія з колішняга «блакнота агітатара», задача якой (па словах Салжаніцына) — пераканаць, «як рускі Іван бег на вайну, каб хутчэй аддаць жыццё за радзіму, і як цяжка было генералам вадзіць пальцам па карце».

*(«Свабода», 11—16 траўня г.г.).*

## МЕМАРЫЯЛ ТЫДНЯ

У горадзе Вятка (Расія) адкрыты помнік герою Вялікай Айчыннай вайны маршалу Коневу. Раней бронзавы маршал стаяў у Кракаве як знак удзячнасці палякаў Савецкай Арміі за вызваленне ад знішчэння гэтай пярліны сярод польскіх гарадоў. Пасля таго, як Польшча змяніла палітычную арыентацыю, помнік савецкаму палкаводцу быў дэмантаваны. Раней у Расію быў перавезены віленскі помнік генералу арміі Чарняхоўскаму.

З нагоды

# РАСІЙСКІЯ КАМАНДЫ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ

Каб зразумець краіну, трэба не адзін год пражыць разам з яе народам, а каб атрымаць уяўленне аб дзяржаве, дастаткова аднойчы пабачыць, як у сталіцы адзначаецца дзяржаўнае свята. Паглядзі на аздобу вуліц і плошчаў, на афіцыйныя мерапрыемствы і паслухай афіцыйныя прамовы — і ўсё зразумееш: хто ў гэтай краіне пры ўладзе, якая ідэалогія пануе, якія прыярытэты ва ўнутранай і знешняй палітыцы. У таго, хто бачыў Мінск 9 траўня, магло скласціся ўражанне, што гэта — губернскі горад Расійскай Федэрацыі, але аніяк не сталіца суверэннай краіны. Найперш таму, што ў афармленні горада адсутнічаў галоўны элемент, які надае свату афіцыйны, дзяржаўны характар — дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь. Не было і мастацкіх кампазіцый, зробленых на колеравай (бел-чырвона-белай) гаме сцяга. Адна частка праспекта Францішка Скарыны, цэнтральнай магістралі сталіцы, мела аздобу ў жоўта-зялёна-чырвонай гаме сцяга Жамойці, другая — у гаме румынскага сцяга (сіне-жоўта-чырвонай), недзе былі жоўтыя і блакітныя сцяжкі (колеры Украіны), недзе ўвогуле нешта незразумелае (ёсць колеры, якія нельга ставіць побач, бо гэта неэстэтычна). Было ўсё, што заўгодна, акрамя таго, што пазінна было быць, — адсутнічалі нацыянальныя колеры Беларусі.

Вянок, які прэзідэнт Расіі Б.Ельцын ускладаў 9 траўня да магілы Невядомага салдата ля Крамлёўскай сцяны, быў аздоблены трохколернай стужкай дзяржаўнага сцяга Расіі. Такая традыцыя існуе ва ўсім свеце: аздабляць вянкі, што ўскладаюцца да помнікаў ад імя афіцыйных асоб, колерамі краіны, якую гэтыя асобы прадстаўляюць. Вянкі, ускладзеныя ў той дзень да падножжа абеліска на мінскай плошчы Перамогі ад урада і Вярхоўнага Савета РБ, былі са стужкамі белага колеру. Не было ніводнага дзяржаўнага сцяга ў аздабленні плошчы Перамогі. А раней (дакладна памятаю, два гады таму) бел-чырвона-белыя сцягі ў святочныя дні замацоўвалі на ліхтарных слупах вакол абеліска. Сёлета ж 9 траўня бел-чырвона-белы сцяг быў толькі над шэрагам ганаровай варты (але вайсковыя каманды над плошчай гучалі на расійскай мове). А яшчэ колеры нашага сцяга былі на стужках вянкоў ад Беларускага народнага фронту і ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў.

Дарэчы, калі калона ветэранаў пад дзяржаўнымі сцягамі Рэспублікі Беларусь з'явілася на плошчы, іх сустрэў узвод міліцыі асобага прызначэння (АМАП) — хлопцы ў чорных берэтах і з ястрабам на нарукаўнай нашыўцы. Ветэраны ад Дэмакратычнага аб'яднання ішлі па тратуары, а амапаўцы — паралельным курсам па праезджай частцы. Спыніліся ветэраны — спыніліся побач амапаўцы. Не думаю, каб гэта спрыяла добраму настрою людзей, што прыйшлі з кветкамі да помніка. Сённяшняму становішчу ветэранаў і інвалідаў вайны не пазайздросціш, але каб так абражаць абаронцаў Айчыны ў дзень свята Перамогі?!.

Прагучаў БССРаўскі гімн Рэспублікі Беларусь, прайшла ля помніка парадным крокам рота ганаровай варты, скончылася афіцыйная імпрэза і з рэпрадуктараў загучала песня: «А я в Россию, домой хочу!..», дадаючы яшчэ адзін палітычны штрых у карціну святочнага афіцыёзу.

А героем дня і галоўнай дзеючай асобай 9 траўня на Беларускім тэлебачанні быў сп. Кебіч. Кожны крок прэм'ера ў гэты дзень падрабязна асвятляўся. Прэм'ер ускладаў вянок, гутарыў з ветэранамі, сустракаўся з інвалідамі вайны. І ўсім абяцаў цудоўнае жыццё з расійскім рублём у кішэні. Каманда Кебіча скарыстала свята як нагоду лішні раз паказаць народу, хто болей за ўсіх думае пра Беларусь, рупіцца аб дабрабыце беларускага народа, хто павінен быць першым прэзідэнтам Беларусі.

Шануючы тых, каму пашчасціла выжыць у той вайне, памятаючы пра палеглых, нельга абмінуць пытанне, што Беларусь страціла і што набыла ў Другой сусветнай вайне, за што пралівалі кроў нашы бацькі і дзяды. Згубіла Беларусь кожнага чацвёртага жыхара і частку сваіх заходніх земляў. Набыла, вельмі дорага за гэта заплаціўшы, гістарычны вопыт, разуменне, што небяспечна быць залежным ад імперскіх амбіцый суседзяў, што не трэба лезці ў чужыя бойкі і абслугоўваць гэтую палітыку, што нельга трымаць на сваёй зямлі чужое войска.

Пабудова незалежнай дзяржавы — лепшае шанаванне палеглых у 1941—1945 гадах сыноў і дачок Беларусі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# «ЗА ВОЛЬНАСЦЬ НАШУ І ВАШУ»

Выстава пад такой назвай, прысвечаная 200-годдзю паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, адкрылася ў Доме культуры горада Браслава. Два раздзелы — дакументальны і мастацкі —складаюць экспазіцыю. Наведвальнікі знаёмяцца з гістарычнымі матэрыяламі з фондаў мясцовага музея пра паўстанне 1794 года на Браслаўшчыне, пра паплечнікаў Тадэвуша Касцюшкі Томаша Ваўжэцкага, Казіміра Беліковіча, Юзэфа Копата і іншых паўстанцаў.

У другой частцы выстаўкі — работы мясцовых мастакоў. Сярод іх — цудоўная разьба па дрэве Валерыя Зінкевіча «Героям паўстання 1794 года» з партрэтамі Тадэвуша Касцюшкі, Томаша Ваўжэцкага, Міхала Агінскага, жывапісные палатно Івана Рыдзіка «Змагарам за незалежнасць Айчыны».

Сапраўдный творчай знаходкай з'яўляецца трыпціх Элеаноры Зінкевіч «Песня паўстанцкаму каню». Гэта праца напоўнена філасофскім зместам і раскрывае вялікія магчымасці старадаўняга народнага мастацтва саломапляцення.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**



*На здымку: знаёмства з выстаўкай. Фота аўтара.*

Адгалоскі

# МОЖА, ВАРТА ПАВУЧЫЦЦА?

***Дазвольце выказаць сваё думкі наконт допіса «Без крыніц — гульня фантазіі» («ЛіМ» за 14.01.94 г.). Я прынцыпова не згодны з шаноўным сп. В. Грыцкевічам, які заклікае да дакладнасці і абавязковасці спасылак на крыніцы ў кожным нарысе па гісторыі. Міфалогія — адзін з мацнейшых чыннікаў кансалідацыі нацыі, калі не наймацнейшы. Нейкая нацыянальная ідэя (як правіла ментальнасці) дазваляе кожнаму народу абраць у мінулым найбольш прыдатныя постаці. Яны ж, у сваю чаргу, дастаткова апрацаваныя, аздобленыя фантазіяй, падтрымліваюць і жывяць гэту ідэю.***

Прыкладам, возьмем міфы расійскай гісторыі, на якіх выхавана многія пакаленні.

Міф першы: Аляксандр Неўскі, ратавальнік рускай зямлі, перамогі якога паверпулі напрамак гістарычных падзей. Але калі трымацца гістарычнай праўды, ягоныя бойкі са шведска-крыжацкімі войскамі мелі лакальны характар, яны датычылі толькі аднаго фланга гэтай барацьбы і аднай часткі Русі. Дый памеры так званага «лядовага пабоішча» выклікаюць сумненне, бо дасюль, нягледзячы на пільныя пошукі з ужываннем сучаснай апаратуры, не давялося адшукаць аніякіх слядоў гэтай, як нас запэўніваюць, грандыёзнай гістарычнай бітвы. Дарэчы, яна не магла адбіцца на магутнасці Ордэна, які быў у той час на ўздыме, і на месца кожнага загінуўшага рыцара з Еўропы прыязджала некалькі.

Значна большыя заслугі перад Руссю меў Дзмітры Данскі. Але ён кананізаваны толькі некалькі год таму, між тым як Аляксандр Неўскі — ужо некалькі стагоддзяў. Крыжакоў білі і другія князі, затое з Ардой у Аляксандра Неўскага былі такія адносіны, што Л. Гумілёў называў яго «золатаардынскім князем».

У чым тут справа? Адказ, думаю, можна знайсці ў Салаўёва, які дае вытрымкі са сказання аб подзвігах Аляксандра («История России с древнейших времен», т. 3, гл. 3). Там шведы называюцца не інакш, як «рымляны» (г. зн. каталікі), Аляксандр адрынуў прапанову Папы Рымскага далучыцца да каталіцызму і ўвогуле аддаў «живот свой за правоверную веру». Натуральна, што царква ставіць на першае месца пытанні веравызнання, а небяспека ў гэтым сэнсе ішла з захаду, бо ардынцы праваслаўную веру не прыціскалі, і нават існавалі ў Ардзе біскупствы Сарскае і Данскае. А з

# ПАБАЧЫЛІ СВЕТ У САКАВІКУ

Традыцыйная кніжная выстаўка (а іх штомесячна наладжвала Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а цяпер праводзіць Міністэрства культуры і друку) працавала ў Доме кнігі ў Мінску. На ёй былі прадстаўлены выданні, што пабачылі свет у сакавіку сёлетняга года.

У рамках выстаўкі прайшла прэзентацыя «Кнігі жыцій і хаджэнняў», якой, як мы паведамлялі ўжо, выдавецтва «Мастацкая літаратура» адкрыла серыю «Літаратурныя помнікі Беларусі», што дагэтуль выходзіла толькі ў выдавецтве «Полымя».

Пра новае выданне, яго ролю ў нацыянальным Адраджэнні гаварылі галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Кусянкоў і рэдактар кнігі У. Арлоў.

Адбылася і прэзентацыя новай газеты «Рэкламнае акно», а таксама сустрэча з супрацоўнікамі часопіса Беларускага таварыства інвалідаў «Акно», які і распачаў гэтае выданне. «Акно» выдаецца з 1992 года. Выйшла пяць нумароў. Хоць наклад і невялікі, усяго 2 тысячы экземпляраў, але часопіс мае свайго чытача, атрымалі магчымасць друкавацца многія здольныя аўтары-інваліды.

Пра гэта на сустрэчы з наведвальнікамі выстаўкі гаварылі галоўны рэдактар часопіса «Акно» Р. Галіцкі, галоўны рэдактар газеты «Рэкламнае акно» А. Скаромны, кіраўнік літаратурна-выдавецкага аддзела Інвацэнтра А. Майсееў і іншыя.

# ФЕСТЫВАЛЬ АДНАГО ДНЯ



28 красавіка ў актавай зале філфака БДУ адбыўся Велікодны фестываль фальклорных калектываў Мінска. Усе ўдзельнікі выступілі на высокім прафесійным узроўні, нягледзячы на аматарскі статус многіх калектываў. А дзіцячыя ансамблі проста ўразілі вышынёй артыстызму і майстэрства. Варта пералічыць удзельнікаў фестывалю: «Гармонія», «Дзянніца», «Квецень», «Крэсіва», «Неруш», «Тутэйшая Анка», «Шляхта», «Свята». Адметнай рысай фестывалю была адсутнасць псеўданароднага вульгарнага фальклору. Падчас фестывалю працавала выстаўка мастацкіх вырабаў, на якой можна было і паназіраць за працэсам стварэння гэтых вырабаў рукамі народных майстроў. Гэтае сапраўды пышнае і яскравае фальклорнае свята наведалі спадары С. Шушкевіч, Н. Гілевіч, А. Трусаў, А.Лойка ды іншыя вядомыя асобы, якія сваёй прысутнасцю падкрэслілі важнасць правядзення такіх фестываляў у справе адраджэння нацыянальнай культуры.



**Тэкст і фота**
**С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА**



# РАДЗІМ ГАРЭЦКІ — ЧЛЕН РАН

На агульным сходзе Расійскай акадэміі навук аднагалосна замежным членам яе выбраны віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, акадэмік Радзім Гарэцкі. Віншуючы Радзіма Гарэцкага, нельга не згадаць, што ён прымае самы чынны ўдзел у нацыянальным Адраджэнні, выступае з адраджэнскімі артыкуламі ў друку, нямала робіць па прапагандзе творчай спадчыны свайго дзядзькі, класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага.



# ХТО ВЫРАТУЕ МЛЫН?

Гадоў дзесяць таму пад Клецк быў перавезены адрэстаўраваны, самы вялікі ў рэспубліцы вятрак, які пазначаны ў «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» як помнік народнага драўлянага дойлідства. Вежападобная пабудова была пакрыта гонтай і завяршалася шатровым ярусам з чатырма крыламі.

Добра вядома ўласцівая нашай дзяржаўнай сістэме звычка ставіць калёсы паперадзе каня. Нешта падобнае здарылася і з млыном. Спярша яго адрэстаўравалі, перавезлі з вёскі, дзе быў пабудаваны, у «зону адпачынку» — на бераг вадасховішча. І толькі пасля ў Клецкім гарсавеце, за якім замацавалі адказнасць за млын, пачалі думаць — пад што яго прыстасаваць?

Хацелі размясціць у ім філіял гісторыка-этнаграфічнага музея. Але ідэя не ажыццявілася, і тады вырашылі абсталяваць у млыне маладзёжнае кафэ. Але і да кафэ справа не дайшла. Гадоў шэсць таму, ноччу, нейкія п'янюгі, прыйшоўшы «адпачыць на прыродзе», распалілі вогнішча ля млына ды падпалілі яго.

Пажарнікі здолелі ўратаваць ад агню дах млына, другі ярус і драўляны механізм, які складаўся з сістэмы перадаючых колаў і шасцерняў. Але наступныя гады, пакуль ацалелы млын стаяў недагледжаным, нанеслі шкоды болей за пажар.

Я бачыў млын месяц таму. Ад драўляных сцен амаль нічога не засталося, з чатырох крылаў ветрака захаваліся два, цалкам знік другі ярус.

Але, як бы там ні было, захавалася галоўнае — магчымасць аднавіць млын яшчэ раз. Будавалі майстры мінулага стагоддзя надзейна. Таму Інспекцыя па захаванні помнікаў культуры пры Савеце Міністраў прапанавала Беларускаму дзяржаўнаму музею народнай архітэктуры і побыту набыць рэшткі млына, бо за свой кошт Клецкі гарсавет наўрад ці здолее аднавіць яго, а ў «экспазіцыі» музея пад адкрытым небам якраз ёсць патрэба менавіта ў такім тыпе драўлянага млына.

Лёс млына плануецца вырашыць неўзабаве на адным з пасяджэнняў гарсавета. Падыход да яго вырашэння не такі адназначны, як можа здацца на першы погляд. З аднаго боку — тут не хочацца кешкацца з тымі драўлянымі рэшткамі, спраў па гарадской гаспадарцы без іх хапае. З другога боку — аддаваць шкада, маўляў, хоць і занядбаны, але ж наш!

Пры сустрэчы з прадстаўніком музея, на якой я прысутнічаў, намеснік старшыні Клецкага гарсавета сказаў, што, магчыма, яны не пажадаюць развітвацца з млыном і паспрабуюць яго самі аднавіць: трэба ж, маўляў, і Клецку нечым ганарыцца. Намер, прызнаем, неблагі, але пры сённяшніх тэмпах інфляцыі аптымізму не ўсяляе. Няўжо, урэшце, дачакаемся, што гонта канчаткова рассыплецца з даху млына і сам ён дагніе?

**Ягор КОНЕЎ**

цягам часу ардынская пагроза знікла цалкам.

Але гэткі герой на заходнім «фронце» патрабаваўся дзяржаве. Тут ацэнкі царквы і дзяржавы сышліся, і Пётр І засноўвае ў Пецярбурзе Аляксандра-Неўскую лаўру і ордэн Аляксандра Неўскага. Шматвекавая прапаганда зрабіла з другараднага князя маяк расійскай гісторыі, вялікага змагара за веру і айчыну.

Яшчэ больш яскравы прыклад — з Суворавым. Хто з нас не ведае з дзяцінства, што гэты чалавек з народа адно сваім талентам дасягнуў найвышэйшых вышынь славы і гонару, быў заўсёды побач з простым салдатам, дасціпны і вясёлы. Такі міф — светлы і радасны, міф пра непераможнага абаронцу рускай зямлі.

У супраўднасці сям'я Суворавых належала да вышэйшых колаў Расійскай імперыі. Ягоны дзед быў галоўным інтэндантам войска Пятра І ад першых крокаў «пацешнага войска» да скону ў 1715 годзе. Бацька быў хроснікам і выхаванцам Пятра І (разам са славутым «арапам» Ганібалам). Пры Елізавеце генерал-аншэф Васілій Сувораў стаў генерал-губернатарам захопленай Усходняй Прусіі. Кацярына ІІ, ад'язджаючы на каранацыю ў Маскву разам з усёй гвардыяй, пакінула толькі што атрыманую і яшчэ ненадзейную сталіцу на Суворава-бацьку, а гарнізон ачольваў Сувораў-сын. Пры такіх адносінах не дзіўна, што калі малады Сувораў дзеля пацехі ўздумаў штурмаваць манастыр і тое здарэнне давялі да імператрыцы, яна сказала: «Ах, пакіньце яго, ён жартаўнік, я яго ведаю, ха-ха-ха!» За гэткія жартачкі, што лічыліся святатацтвам, тады належала біць бізуном і пасылаць у Сібір...

Аляксандр Сувораў безупынна атрымліваў узнагароды, чыны, падарункі: за перамогі над польскімі канфедэратамі на Валыні, над туркамі, якіх, зрэшты, у той час не біў хіба лянівы — і аўстрыйцы, і рускія (Румянцаў раней Суворава, Кутузаў пазней). Але ён быў стала незадаволены і закідваў імператрыцу скаргамі на тое, што яго абыходзяць, што ўзнагароды замалыя.

Зорны час наступіў для Суворава ў час Пугачоўскага паўстання. Ён здолеў усмірыць самы асяродак паўстання, а самога Пугачова паланіць. Апалагеты «народнага палкаводца» кажуць, што Пугачова паланіў падпалкоўнік Міхельсон, але дазвольце спытацца: каму здаўся фельдмаршал Паўлюс са сваім штабам? Найбліжэйшаму старшаму афіцэру, а ўжо потым яго прывезлі ў вышэйшы штаб. Невыпадкова Сувораў сам вёз палонніка ў клетцы да Казані, дзе здаў Паніну. Пугачоўшчына для расійскага дваранства была самай жахлівай і значнай з'явай за ўсё XVIII стагоддзе. За Пугачова дваранства гатова было насіць Суворава на руках і ахінуць яго цеплынёй «усенароднай любові». Калі не ўлічваць гэтую акалічнасць, дык не зразумець, чаму за Суворавым замацавалася слава абаронца Расіі, хаця ўсё жыццё ён браў удзел у захопніцкіх войнах.

Усе перамогі Суворава звязаны з барацьбой супраць дрэнна ўзброеных, кепска ўладкаваных, хаця і шматлікіх нерэгулярных войск. Гэта датычыць таксама і турак. Але калі чарга дайшла да Банапарта — не невялікіх дапаможных аддзелаў, а самога Банапарта, — Сувораў ледзь уцёк праз Альпы. Усю віну ён усклаў на аўстрыйцаў. Павел І, «апошні рыцар на троне», прастадушна верыў скаргам свайго палкаводца, пасварыўся з аўстрыйцамі і выйшаў з кааліцыі, што каштавала яму жыцця. У апошні момант ён, здаецца, нешта ўцяміў, бо адмовіў навастворанаму генералісімусу ва ўрачыстым уездзе ў сталіцу, дыпламатычна прычапіўшыся да нейкай дробязі.

Сувораў быў хваравіта самаўлюбёны чалавек. Ён не цярпеў ніякіх пярэчанняў, назаляў свайму войску, штодзённа з ранку чытаючы яму сваю «Навуку перамагаць» (месяцамі!), ягоныя жарты над залежнымі людзьмі часта пераходзілі ў бязлітасны здзек.

Але ж міф зусім іншы! Створаны і распаўсюджаны з дапамогаю мастацкай літаратуры, дзіцячых кніжак, навукова-папулярных брашур, кінафільмаў, школьных падручнікаў, гэты міф-байка мае вялізны ўплыў на свядомасць не толькі многіх пакаленняў рускіх, але ж і іншых былых «рускападданых», у тым ліку беларусаў. Можа, варта павучыцца? Простыя, даступныя, на самым прымітыўным узроўні байкі, без спасылак на крыніцы і без прэтэнзій на праўдзівасць даюць магчымасць кожнаму рускаму сказаць, хто ўвасабляе годнасць і характар рускага народа: Сувораў, Ламаносаў і г. д. Але спытайцеся пра тое ж у беларуса? Ён пачухае патыліцу дый прыгадае хіба Янку Купалу і Скарыну (калі адукаваны). Мы папракаем Саверчанку за кніжку пра Сапегу ці патрабуем аб'ектыўнасці і дакладнасці ў гістарычных творах і працах, а ў выніку «Лядовае пабоішча» для беларуса непараўнальна значнейшая падзея за Грунвальдскую бітву, а Сувораў — волат у параўнанні з Касцюшкам.

Прабачце, шаноўны Валянцін Пятровіч, я не нападаю на вас асабіста і не абараняю сп. Кляўчэню, але разважаю пра тое, як нам усё ж зрабіць так, каб беларусы мелі свае агульнанародныя гістарычныя ідэалы, што ядналі б іх з рыхлага паўфабрыкату ў грамаду супляменнікаў.

**Алесь ДРАЯНКОЎ,**
**этнолаг**

*г. Масква*

ЛіМ
ЧАСАПІС



Пошта

# МАГІЛЁЎЦЫ, АДГУКНІЦЕСЯ!

Другі год у Магілёве вядзецца збор экспанатаў для Музея гісторыі Магілёва. Гарадскія ўлады, глыбока зацікаўленыя ў аднаўленні гістарычнай памяці, гонару за свой горад, выхаванні моладзі, вырашылі стварыць музей, размясціўшы экспазіцыю ў будынку-помніку архітэктуры XVIII ст., пабудаваным у 1762—85 гг. па праекце архітэктара І. Глаўбіца ў стылі позняга барока і вядомым у горадзе як Архірэйскі палац. Згодна канцэпцыі музея плануецца аднавіць інтэр'еры і фасад будынка, якія яны былі ў XVIII ст. Мяркуецца, што гэта будзе музей гарадской культуры Беларусі, якая яшчэ мала даследавана і прадстаўлена ў нас ва ўсім комплексе і ўзаемасувязях.

Але аднаго жадання мала. Цяжкае эканамічнае становішча ў краіне прывяло да змяншэння фінансавання на патрэбы музея. Каб знайсці выйсце, супрацоўнікі музея гісторыі Магілёва звяртаюцца з просьбай да гараджан, ураджэнцаў горада, якія жывуць у розных куточках Беларусі і за яе межамі, дапамагчы ў справе стварэння музея. Будзем удзячны ўсім, хто зможа даслаць кнігі, паштоўкі, буклеты, успаміны, фотаздымкі, альбомы па гісторыі, мастацтве, археалогіі, нумізматыцы, балістыцы, а таксама прадметы быту мінулых часоў, дакументы — усё, што мае дачыненне да Магілёва.

Усіх, каму неабыякавыя культурныя здабыткі магілёўцаў, гісторыя горада, просім адгукнуцца. Чакаем дапамогі і добрай парады па адрасе: 212034, г. Магілёў, вул. Ленінская, д. 11 «А». Музей гісторыі Магілёва, тэл. 22-99-46.

**Ігар ПУШКІН,**
**дырэктар музея гісторыі Магілёва**

# АДВОЛЬНЫ ПЕРАНОС — НЕБЯСКРЫЎДНЫ

Мой ліст падыктаваны трывожнымі разважамі пра мову — як беларускую, так і рускую.

На працягу апошніх гадоў з лёгкай рукі Міністэрства друку СССР у газетах практыкуецца вольны перанос слоў. Як быццам бяскрыўдная памылка — чаго спрачацца? Затое эканомім паперу — статысты дакладна скажуць, колькі сантыметраў у год. А што на самой справе стаіць за заганнай практыкай няправільнага пераносу? За бесцырымонным расчляненнем слова хаваецца разбурэнне каранёвай сістэмы і парушэнне сувязі з роднаснымі яму словамі. Зрокава засвойваючы бязглузды перанос, чытач міжволі скажона асэнсоўвае парaненае слова, якое згубіла спрадвечны нацыянальны дух. Нават адукаваны чытач не-не дый спатыкнецца аб непісьменны перанос, спыніцца, яшчэ раз прачытае слова, якому не пашанцавала, пашкадуе яго і прадоўжыць сваё чытанне.

Дазволены свабодны перанос на газетных палосах прывядзе да няведання мовы, да яго паверхоўнага ўспрымання. Людзі ў сваёй дзяржаве павінны разумець сваю мову, ведаць сэнс кожнага яе слова.

**Алена КАПАЧОВА**

*г. Брэст.*

# ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ЮБІЛЕЯЎ

*Пры юнацтве, што здалёк звініць,*
*і арлы садзіліся ахвоча,*
*часам — каб на лёту заманіць,*
*часам — каб выдзёўбваць вочы.*

*Але мы, улюбіўшыся насмерць*
*у шляхі, пракладзеныя ў заўтра,*
*навучылі песню разумець,*
*што ў змаганні і загінуць варта.*

***Валянцін ТАЎЛАЙ***

Што ні кажыце, а паэт і барацьбіт за шчасце народнае Валянцін Таўлай упісаў сваё імя ў гісторыю і літаратуру Беларусі. Яно з годнасцю ўшанавана і ў Слоніме, і ў Лідзе, і ў Маладзечне, і ў Мінску... Вядома, аднак, што ён нарадзіўся ў Баранавічах — у 1914 годзе. Адразу зазначу, што 8 лютага, у дзень 80-годдзя В. Таўлая, у горадзе ніякіх мерапрыемстваў у яго гонар не праводзілася...

А цяпер адхілімся ад юбілею. І падумаем над тым, чаму ў мясцовай бібліятэцы імя Валянціна Таўлая ў апошнія гады нават выставы яго твораў ніводнага разу не арганізоўваліся. Як гэта ўсё разумець? Я не знаходжу адказу. Такія ж адносіны ў бібліятэцы і да другога слыннага сына Беларусі — ганаровага грамадзяніна трох гарадоў — Баранавічаў, Геленджыка, Брацілавы, Героя Савецкага Саюза адмірала Г. Халасцякова.

У мінулым годзе грамадскасць адзначала 75-гадовы юбілей паэта Алеся Бажко. Як вядома, журналісцкія і паэтычныя крылы А. Бажко даў горад чыгуначнікаў — Баранавічы. Ніводнага, падкрэсліваю, ніводнага мерапрыемства бібліятэчныя работнікі не прысвяцілі творчасці паэта.

4 студзеня гэтага года споўнілася 265 гадоў з дня нараджэння Іаахіма Літавора Храптовіча (таксама нашага земляка), публіцыста, паэта, перакладчыка, грамадскага і палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, заснавальніка першай грамадскай бібліятэкі ў Шчорсах. Ды зноў спрацавала абыякавасць мясцовых бібліятэкараў да сваіх землякоў і слынных сыноў Беларусі.

І такія прыклады з працы бібліятэкараў г. Баранавічы я магу доўжыць і доўжыць. Адна з загадчыц філіяла бібліятэкі наогул не ведала, хто такі І. Храптовіч, а тут яшчэ і нейкія мерапрыемствы па ім праводзіць трэба...

Увосень мінулага года аб работах гарадскога аддзела культуры і яго падраздзяленняў я гаварыў старшыні гарвыканкама. Ён тады адказаў, што становішча будзе выпраўлена. Заняты рознымі справамі ды яшчэ пасяджэннямі ў Вярхоўным Савеце, «галава» горада, мабыць, забыўся на нашу гаворку...

І яшчэ: дзіўныя гульні з дырэктарамі Баранавіцкай ЦГБС праводзіць гарадскі аддзел культуры. Зусім нядаўна тут кіраваў былы вайсковец, якога рэдка бачылі ў бібліятэцы. У 65 год ён памяняў свой кабінет, на яго месца прыйшла яго намесніца Л. Максімовіч, якая не вызначалася ні дбайнасцю, ні энтузіязмам, ні руплівасцю, і таму доўга не пратрымалася. Зусім нядаўна прыйшоў пенсіянер-міліцыянер без спецыяльнай бібліятэчнай адукацыі... Дык як тады весці размову аб стане бібліятэчнай працы, калі не вядуць не спецыялісты?! Чаму на пасаду дырэктара ЦГБС не правесці было конкурснага адбору?

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член**
**Геаграфічнага таварыства**

*г. Баранавічы*

# ЗАПРАШАЕ ЛЕАНІД ШЧАМЯЛЁЎ



**Новая выстава мастака працуе на «Шостай лініі» — у мастацкай галерэі, што знаходзіцца ў адным з будынкаў Беларускай політэхнічнай акадэміі. На ёй прадстаўлены, у асноўным, апошнія работы Шчамялёва.**

**Хочацца падкрэсліць адну важную тэндэнцыю, што абумоўлена светапоглядам майстра. Адкрыцці яго выставаў, якія, як правіла, камерныя, ператвараюцца ў імправізаваную сяброўскую вечарыну. Шчырых размоў, менавіта гэтага, на думку самога мастака, не хапае сёння людзям. І таму выставы Леаніда Шчамялёва — не толькі экспазіцыя, гэта спроба аб'яднаць людзей словам, аўтарытэтам, душэўнай цеплынёй і любоўю, што сыходзяць з яго работ.**

**Н. Ш.**

*На здымку: Л. ШЧАМЯЛЁЎ.*
*Фота А. МАЦЮША*

# НЕ ТОЛЬКІ Ў ТЭАТРАЛЬНЫХ СЦЕНАХ...



**Снежаньская прэм'ера «Беласнежкі і сямі гномаў» у Магілёўскім абласным тэатры імя В. Дуніна-Марцінкевіча як мага прыдалася да вясенніх школьных вакацый. А перадусім таму, што рэжысёр спектакля Л. Падбярозкіна паруплілася падрыхтаваць для школьнай публікі два склады выканаўцаў: першы з прадстаўнікоў трупы, вядомых у горадзе акцёраў, а другі — з навучэнцаў Харэаграфічнай школы (агульнаадукацыйныя прадметы дзеці вывучаюць на базе школы N 9 горада Бабруйска). Уявіце цудоўных гномаў, Беласнежку, кветачак, пчолак, гасцей на адмысловым бале і нават маленькіх пракудаў-нячысцікаў, што аддана і старанна працуюць на самай сапраўднай тэатральнай сцэне! Казка, перапісаная калісьці для патрэб маскоўскай дзятвы Л. Усцінавым і А. Табаковым, свежа і радасна зазвяла на бабруйскіх падмостках, пры гэтым цэнтральныя («дарослыя») ролі проста з дзіцячым энтузіязмам ды педагагічным імпэтам выконваюць Ж. Зарэмба (Каралева), А. Слышкоў (Галоўны выканаўца каралеўскіх жаданняў), Б. Баеў (Кактус) ды П. Камінскі (Прынц). А што да маленькіх выхаванцаў-танцоўшчыкаў (імі кіруе К. Лукашэвіч), дык яны паспяхова вывучаюць і гісторыю тэатра, і сцэнічную мову, і эстэтыку і яшчэ шмат што з таго, чым мусіць валодаць чалавек, які часпочас з'яўляецца на сапраўднай сцэне ў сапраўдным тэатры.**

**Ж. Л.**

*На здымку: М. Башыкоўская (Беласнежка) і П. Камінскі (Прынц).*

# «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ», НАПІСАНАЯ Ў 1918 ГОДЗЕ

***Годам Мітрафана Доўнар-Запольскага можа стаць сёлетні год. Як мы паведамлялі ўжо, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла яго «Гісторыю Беларусі», падрыхтаваную ў свой час аўтарам да друку, але так і не выдадзеную. І вось яшчэ адна прыемная навіна: толькі што з небыцця вернута яшчэ адна праца Мітрафана Віктаравіча — брашура «Асновы дзяржаўнасці».***

Праўда, ёй, у адрозненне ад «Гісторыі Беларусі», у свой час пашанцавала. Напісаная ў 1918 годзе і адразу ж перакладзеная на некалькі замежных моў, яна была ўхвалена ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі і распаўсюджана ў многіх краінах свету, каб тыя атрымалі ўяўленне аб беларускай дзяржаве, а значыць і падтрымалі БНР афіцыйна.

Цяперашні перадрук зроблены па выданні: «Доўнар-Запольскі М. В. Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Горадно, Міністэрства Беларускіх спраў, 1919».

Колькі часу прайшло, а як актуальна гучаць развагі М. Доўнар-Запольскага: «Часамі даводзіцца чуць як быццам вагаючыяся і сумлеваючыяся галасы: ці можа беларускі народ стварыць сваю асобную і ні ад каго незалежную дзяржаву, або прынамсі ўвайсці ў саюз дзяржаў як федэрацыйная частка? Гэткія ваганні і сумлеванні вынікаюць з незнаёмства людзей з роднай мінуўшчынай і з не даволі поўнай ацэнкі культурнай стойкасці беларускага народу».

З замілаваннем піша Мітрафан Віктаравіч пра суайчыннікаў «Беларусы — гэта бадай адзіны народ (мо толькі апрача палякаў), які з прадвечных часоў жыве ў сваёй староньцы, ніскуль сюды не прыходзіў, дык і не набраўся чужацкіх элементаў. З гэтай прычыны паводлуг сваіх гістарычных і этнаграфічных асобнасцей беларусы становяць найбольш чыстае славянскае племя, захаваўшае і звярхні выгляд славяніна, і шмат адзнак яго псіхікі і быту».

Згаданая брашура М. Доўнар-Запольскага вернута з небыцця (адказны за выпуск і аўтар прадмовы «Слова ад аўтары» А. Гануш) дзякуючы Агенцтву «Геронт-А» Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. «Геронт-А» ажыццяўляе навукова-даследчую дзейнасць па пытаннях гісторыі, генеалогіі, краязнаўства, этнаграфіі, мае намер выпускаць раз у паўгода інфармацыйны бюлетэнь, у якім бы змяшчаліся звесткі аб усіх публікацыях па гісторыі Беларусі, змешчаных у часопісах і газетах Рэспублікі Беларусь.

**Н.К.**

# «З ПАДАРОЖЖАЎ ПА ВЯКАХ»




Так назваў праграму свайго аўтарскага канцэрта кампазітар Віктар Войцік. У зале, што на Залатой Горцы, гучала музыка, напісаная вядомым творцам яшчэ ў гады студэнцтва і — летась. Удзельнічалі ў канцэрце вядучыя беларускія выканаўцы: Дзяржаўны камерны аркестр, Ансамбль салістаў «Класік-Авангард», вакалісты Любоў Каспорская, Анатоль Шчарбакоў, інструменталісты Яўген Гладкоў, Валеры Жывалеўскі, Генадзь Забара. За дырыжорскім пультам быў у гэты вечар сам В. Войцік, ён жа і каменціраваў праграму. Якія ўражанні? Пра гэта — іншым разам. Бо аўтарскі канцэрт кампазітара даў магчымасць пабываць у насычаным эмоцыямі музычным падарожжы, падчас якога было што слухаць, пра што разважаць — а цяпер будзе пра што і пагаварыць на старонках «ЛіМа».

**С. ВЕТКА**

*На здымку: кампазітар В. ВОЙЦІК (у цэнтры) з салістамі А. ШЧАРБАКОВЫМ ды Л. КАСПОРСКАЙ.*
*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

## XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

# САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ: ПЫТАННІ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ

### З ДАКЛАДА СТАРШЫНІ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ ВАСІЛЯ ЗУЁНКА

Быць ці не быць творчаму саюзу — гэтае пытанне апошнім часам гучыць з вуснаў некаторых літаратараў. Сапраўды, ёсць над чым задумацца і паразважаць. І не толькі таму, што, не атрымаўшы пэўнага адказу на яго, наўрад ці можна вызначыць, як жыць далей, як працаваць. Ёсць яшчэ адна нагода, каб звярнуцца да гэтага пытання. Мы ўсе знаходзімся напярэдадні 60-годдзя Саюза пісьменнікаў Беларусі, які, як вядома, быў утвораны ў чэрвені 1934 года на першым сваім з'ездзе. Што ж засведчыў гэты вялікі шлях? Безумоўна, нельга не згадаць усё негатыўнае, але ж не трэба закрэсліваць добрае, што было здзейснена. Літаратура ж не стаяла на месцы, яна рухалася наперад. Як не ўспомніць пры гэтым тых, хто закладваў падмурак яе! Як не згадаць нашых папярэднікаў!

Але ўсё ж такі, ці патрэбен Саюз пісьменнікаў сёння? Калі мы ўсе разняволіліся, калі не адчуваецца больш партыйнага дыктату на творчую асобу, калі кожны можа пісаць не азіраючыся, не прыгадваючы рагаткі ідэалагічнай цэнзуры? Здавалася б, паколькі для кожнага з'явілася шырокае поле дзейнасці, узнікла сапраўдная свабода мастакоўскай дзейнасці, можна абысціся і без саюза. Але ці так гэта, ці вельмі ж ужо неабходна руйнаваць яго?

Напярэдадні з'езда мне давялося гутарыць па гэтым пытанні з П. Панчанкам. Шаноўны Пімен Емяльянавіч адказаў, што ён абедзвюма рукамі за моцны, трывалы, але сяброўскі творчы саюз. Без гэтага саюза, гаварыў П. Панчанка, ён не ўяўляе сабе творчага жыцця.

Ды і на самай справе гэта так. Прыгадайма, як шмат зроблена намі ў абарону нашай гісторыі, нашай Бацькаўшчыны, нашай мовы. Хто гэта рабіў? Канечне ж, Саюз пісьменнікаў. Магчыма, не так шмат, як хацелася б, але гэта ўжо іншая справа.



Ды не будзем забываць пра тое, што ёсць цяга творцаў — пры ўсім індывідуальна-інтымным характары іх працы да згуртавання, жыве імкненне знайсці, пачуць водгук роднаснай душы. Разам мы, у гурце — вялікая сіла, а калі «раскідаемся», ператворымся ў адзінкі — менш таленавітыя, больш таленавітыя, мы згубімся. Дарэчы, нават у такой рыначна-выверанай краіне, як Паўднёвая Карэя, ёсць Інстытут паэзіі, у полі прыцягнення якога працуе 1800 прызнаных, пазначаных нацыянальнай увагай і павагай паэтаў.

Па-другое: ідэя кансалідацыі, адзінства, пакуль ёсць патрэба змагацца за нашу нацыянальную ідэю, павінна быць у нас галоўнай, вызначальнай. Мы не можам дазволіць сабе раскошы «раздвойваць», «распалавіньваць», «распілоўваць» ці «распылоўваць» наш саюз, як, напрыклад, гэта робіцца цяпер у Расіі. У Расіі іншыя абставіны. Там вялікія нацыянальныя традыцыі. Мы ж заўсёды знаходзімся, так сказаць, на лініі агню, пастаянна змагаемся за сваё, адстойваем яго перад чужынцамі.

Духоўная сутнасць нашага паяднання — нацыянальнае Адраджэнне. Гэта асноватворны стрыжань — быць разам на шляху да нашай нацыянальнай дзяржаўнасці, дапамагаць сваім пісьменніцкім словам яе ўмацаванню, яе ўсенароднаму ўсведамленню. Дарэчы, трэба перагледзець само разуменне паняцця нацыяналізм. Гэта ж высокае патрыятычнае, светлае пачуццё, а яно ж у нас зганьбілася, ці не ў лаянку ператварылася.

Корань нашых бед і ў тым (нашай культуры і літаратуры ў прыватнасці), што мы не маем нацыянальнай дзяржавы, нацыянальна зарыентаванай урадавай палітыкі. І ў сувязі з гэтым паўстае вечная тэма: паэт і ўлада, творца і ўлада, а калі браць шырэй і ў стасунку да нашай сітуацыі — дык Саюз пісьменнікаў і ўлада.

Нас папікаюць іншы раз — часцей з так званага левага крыла, што мы самі, просячы дзяржаўнай падтрымкі, лезем у «хамут». Што наконт гэтага адказаць? Ды, бадай, лепей зноў зазірнуць у гісторыю. Найбольш красамоўны прыклад — узаемаадносіны Пушкіна і цара. Паэт знаходзіўся ў апале, але калі ўзнікла патрэба напісання «Гісторыі пугачоўскага бунту», дык цар выдзеліў на гэтыя мэты 10 тысяч рублёў золатам.

Гістарычна ў нас склалася такая сітуацыя, што і ў Саюза пісьменнікаў і ў дзяржавы, у нашай улады, павінна быць адна ідэя, адна задача — нацыянальнае Адраджэнне Беларусі, адраджэнне ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. І бяда не ў тым, што мы, «вольныя мастакі», лезем «пад скіпетр улады», а ў тым, што ўлада нашая не заўсёды і не так балюча і шчыра адчувае і бярэ на душу ўсе беды нашага нацыянальнага жыцця. Толькі пад націскам Саюза пісьменнікаў ды яшчэ іншы раз з кан'юнктурных меркаванняў бюракратычны апарат, хоць і са скрыпам, паварочваецца да нашых праблем (ганарар, датацыі выданням). Але ж толькі там, дзе ёсць з боку ўладных структур разуменне, ёсць і плён. І тут толькі добрым словам неабходна згадаць нядаўняе Міністэрства інфармацыі, якое вельмі шмат зрабіла (а цяпер робіць Міністэрства культуры і друку), каб жыла беларуская кніга, каб у цяжкіх умовах выжывалі беларускамоўныя перыядычныя выданні.

І, па-трэцяе, адзначым, што Саюз пісьменнікаў памнажае нашы сілы ў барацьбе за нацыянальнае Адраджэнне. Голас творчай грамады па любым важным пытанні чуцен далёка. І трэба раз і назаўсёды выкінуць з галавы думку, каму б яна ні належала, аб «апаратным кіраўніцтве» літаратурай. Гэта не тая гаспадарка, дзе можна раздаваць дзялянкі і заводзіць нормы і планы. Тут кожны працуе так, як Бог на душу паклаў. І абавязак Саюза пісьменнікаў і яго служб — дапамагчы творцу як мага паўней і глыбей здзейсніць свае задумы, выявіць свой талент, стварыць яму спрыяльныя магчымасці для свабоднай працы, абараняць ад нялітасцівай да сапраўднага мастацтва рынкавай кан'юнктуры.

Мы не стаім і не хочам стаяць з па-жабрацку працягнутай рукой. Мы спадзяёмся, ды і патрабуем, каб у нацыянальнай дзяржаве былі створаны такія ўмовы, панавала мэтанакіраваная дзяржаўная палітыка, каб нашы творы былі запатрабаваныя штодзённай практыкай дзейнасці школ, навучальных устаноў, каб нашы думкі і мастацкія пошукі рэалізоўваліся ў духоўным жыцці народа, каб яны не заставаліся «самі па сабе», «рэччу ў сабе», — неспазнанымі. І тут ужо выснова паўстае ясна і неаспрэчна: нашы высілкі павінны супадаць у гэтым пытанні з мэтамі дзяржаўнымі.

Нельга не сказаць і пра тое, нельга з горыччу не канстатаваць, з якімі цяжкасцямі, са свядомым і несвядомым, проста цёмным, супраціўленнем рэалізуецца ў нашых дзяржаўных структурах Закон аб мовах. А гэта ж наш прамы шлях да чытача, шлях мастацкага слова да людскіх сэрцаў. І пакуль не будзе ў нас нацыянальна зарыентаванага ўрада, абнадзейваючых зрухаў тут наўрад ці варта чакаць. З гэтай нагоды дарэчы будзе заўважыць, што ў Нарвегіі, напрыклад, кожная новая кніжка нарвежскага аўтара павінна быць заказана кожнай кнігарняй і бібліятэкай — хаця б у адным экземпляры.

У нас някепскія творчыя стасункі — нягледзячы на эканамічныя цяжкасці — з дзяржаўнымі выдавецтвамі «Мастацкая літаратура», «Юнацтва». Аднак пакуль што дужа далёкія ад нашых спраў, ад нашага нацыянальнага Адраджэння дзесяткі і дзесяткі камерцыйных выдавецтваў. Калі яны думаюць, што ўзбагачаюць нашу духоўнасць, нашу культуру друкаваным шырспажывам заходняга і ўсходняга ўзору, то, мякка кажучы, яны ўсё ж памыляюцца. Не памыляюцца яны, аднак, у адным: ва ўзбагачэнні сваёй кішэні.

Кажуць, што беларуская кніга для іх нявыгадная, не прыносіць прыбытку, у той час як ім толькі і мроіцца звышпрыбытак. Калі ўжо гэта так, то, можа, тады наша дзяржава пакарысталася б ужо неаднойчы згаданым вопытам стогадовай даўнасці. Калі ў канцы XIX стагоддзя на кніжны рынак ЗША хлынула вось такая — трэцяга і пятага гатунку — прадукцыя з Еўропы, то кангрэс адразу ж адрэагаваў на гэта адпаведнай пастановай: адлічваць пэўны працэнт з прыбытку ад гэтай «прадукцыі» на карысць і дзеля падтрымкі і развіцця сур'ёзнай нацыянальнай літаратуры. А то ж робяць бізнес на нашых вытворчых магутнасцях, а самі ў наш бок і не глядзяць. Ды яшчэ і выступаюць публічна з кондава антыбеларускіх пазіцый, як, для прыкладу, спадар Патупа.

Творчае і арганізацыйнае будучае нашага пісьменніцкага саюза — у прытоку маладога таленавітага папаўнення. Ёсць два спосабы сцвердзіць сябе: праз адмаўленне і праз узбагачэнне набытага папярэднікамі. Першы, як ужо не раз пацверджана гістарычным вопытам, — тупіковы, ізаляцыяністкі, нічога добрага не абяцае, і, зрэшты, лепшыя з маладых творцаў, найбольш таленавітыя, звяртаюцца да шляху другога.

Прыгадаем нашых «Тутэйшых», як пачыналі яны ў «рожкі са старымі». А цяпер, глядзіш, многія сталі членамі творчага саюза. Хораша пачынаюць і маладыя літаратары, якія групуюцца вакол рэдакцыі часопіса «Першацвет», што ўзнік дзякуючы А. Масарэнку. Саюз пісьменнікаў пайшоў насустрач першацветаўцам, і калі ў іх з'явіліся цяжкасці з памяшканнем, узяў іх пад «сваё крыло». Цяпер рэдакцыя знаходзіцца ў Доме літаратара.

Безумоўна, пастаянна адбываецца пераацэнка каштоўнасцей. Найперш маладзейшымі пакаленнямі, але ж пераацэнка — не значыць адмаўленне ўсяго таго лепшага, што было да цябе. Ды і маральнае права неабходна мець, каб крытыкаваць іншых. У дачыненні да літаратуры права гэтае даецца талентам. Як тут не прыгадаць словы старога Данілы з «Дзённікаў» М. Прышвіна, які пра калектывізацыю сказаў так: «... вот я остарел на своем хозяйстве и землю постиг, а теперь приходит чужой мальчишка, лошадь не умеет запрячь, а учит тебя... Хуже этого ничего нет. Я об этом думаю: для чего такая напасть?..»

Зразумейце мяне правільна. Я, безумоўна, за маладых і мы павінны радавацца, што ў наш саюз ідуць маладыя, таленавітыя аўтары. Таленавітыя і розныя, што засведчылі і прыёмы ў СП напярэдадні з'езда. Навабранцы плячо да пляча, ці пяро да пяра працуюць, творча спаборнічаюць з ветэранамі. Хай шырацца і развіваюцца і суполкі і аб'яднанні маладых — зрэшты, гэта прадугледжана і статутам Саюза пісьменнікаў. Толькі ў пошуку сваіх адметных шляхоў можа рэалізавацца творчая асоба. Аднак мы не павінны паступіцца галоўным: усё гэтае разнаквецце і рознагалоссе не павінна падарваць нашага адзінства ў змаганні за Адраджэнне Беларусі.

У сувязі з пазначанымі акалічнасцямі ды і шырэй — жыццё падказвае: у сваёй дзейнасці Саюз пісьменнікаў Беларусі павінен скіраваць намаганні па двух асноўных накірунках.

Першы, творчы, думаецца, варта грунтаваць на дзейнасці Дома літаратара. Не сакрэт, што нашы секцыі ў сваім «класічным» праяўленні выглядаюць закансерваванымі, заштампаванымі, не выклікаюць інтарэсу — ні эмацыянальнага, ні інтэлектуальнага. Пасяджэнні толькі і збіраюць людзей, калі трэба даць рэкамендацыі ў Саюз пісьменнікаў. А калі намаганні творчых секцый ды спалучыць з намаганнямі Дома літаратара, то колькі цікавых форм творчых стасункаў можа нарадзіцца. І творчая справаздача, і вечар новага верша, і тая ж прэзентацыя (хоць і неважнецкае слова) кнігі.

Дарэчы, прэзентацыя першай кнігі можа стацца і рэкамендацыяй у СП. Але ж гэта будзе ў форме нязмушанай, неказённай. Між іншым, нядаўна хораша прайшла прэзентацыя кнігі А. Зэкава «Дуэль», што адзначалі многія, калі аўтара прымалі ў творчы саюз.

Пад страхой будынка Дома літаратара павінны ў добрай згодзе і ў творчых спрэчках ужывацца самыя розныя — няхай сабе і палярныя, але таленавітыя — мастацкія інтарэсы і накірункі. Усім павінна вольна дыхацца і працавацца ў гэтай хаце. Дом літаратара — цэнтр нашай пісьменніцкай працы на ніве Адраджэння. Да нашых вузкацэхавых інтарэсаў не лішне падключаць людзей проста зацікаўленых літаратурай. Пра гэта шырэй будзе сказана ў дакладзе А. Пісьмянкова.

Сюды ж, у рэчышча планаў Дома літаратара, мусіць скіраваць свае намаганні і служба прапаганды мастацкай літаратуры. Крок да гэтага збліжэння — пераўтварэнне Бюро прапаганды мастацкай літаратуры ў аддзел прапаганды мастацкай літаратуры пры Доме літаратара. З ранейшым правам гаспадарча-разліковай дзейнасці, са сваім субрахункам.

Другі накірунак у нашых захадах звязаны з арганізацыйным умацаваннем і пашырэннем сферы дзейнасці Літфонду — як асновы і апірышча сацыяльна-эканамічнага жыцця пісьменніцкай арганізацыі. Вы добра помніце, як агульны пісьменніцкі сход прыняў рашэнне аб аддзяленні Літфонду ад Саюза пісьменнікаў, аб выключнай яго самастойнасці, што было засведчана і юрыдычна шляхам рэгістрацыі ў Мінюсце. Рашэннем рады СП Літфонду былі выдзелены плошчы ў

(Працяг на стар. 6)

## XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

# САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ: ПЫТАННІ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ

*(Пачатак на стар. 5)*

будынку Дома літаратара для разгортвання гаспадарчай дзейнасці — кафэ, камінная зала пад бар, памяшканне ў якасці долевага ўзносу ў выдавецкае прадпрыемства «Дайджэст».

Аднак гэтага аказалася недастаткова. Літфонд фінансава не акрэп. А ён жа павінен быць не пустой кішэнню, а ФОНДАМ! І трэба шукаць самыя розныя шляхі яго папаўнення: і гаспадарчая дзейнасць, і спонсарскія паступленні, і дзяржаўная падтрымка. Галоўнае — патрэбна камерцыйная хватка, добрая эканамічная жылка ў кіраўніцтва...

Наколькі было правільным рашэнне аб аддзяленні Літфонду ад Саюза пісьменнікаў, паказаў час. Кіраўніцтва Літфонду правяло апытанне аб вяртанні пад эгіду творчага саюза. Апытанне, бо не аказалася нават грошай на тое, каб правесці агульны сход.

Чаму ж нежыццяздольнай аказалася спроба абсалютнай незалежнасці Літфонду? Магчыма, таму, што ў падмурак, у аснову была пакладзена ідэя раздзялення, раздраблення, а не кансалідацыі, згуртаванасці нашых пісьменніцкіх сіл, нашых намаганняў (помніце асноўны аргумент: хай будзе незалежны Літфонд як бы «навырост» пад будучае, мяркуемае з'яўленне некалькіх самастойных пісьменніцкіх арганізацый, як бы пад гіпатэтычны развал Саюза пісьменнікаў Беларусі).

Зрэшты, больш падрабязны аналіз гэтых працэсаў мы, відаць, пачуем у справаздачы праўлення Літфонду, бо кіраўніцтва СП было як бы штучна адлучана ад іх.

Скажу толькі, каб падтрымаць фінансава паліклініку Літфонду, бюро рады вымушана было пайсці на ссяленне службаў СП і здачу ў арэнду памяшканняў у Доме літаратара камерцыйным структурам. Неабходнасць гэтага кроку вымушалася і чыста тэхнічнымі патрэбамі забеспячэння жыццядзейнасці Дома літаратара, яго нармальнага функцыянавання. Тых мізэрных сродкаў, што выдзяляліся з бюджэту, не хапала на мінімальную зарплату супрацоўнікам Дома літаратара.

Я гавару аб цяжкасцях у дзейнасці і Дома літаратара, і Літфонду не дзеля таго, каб выклікаць спачуванне, а каб пэўным чынам абгрунтаваць і вынесці на вашу развагу прапанову па ўмацаванні мэтанакіраванай арганізацыі нашых высілкаў на гэтых накірунках.

Перш за ўсё адзін з наноў абраных намеснікаў старшыні Саюза пісьменнікаў павінен узначаліць праўленне Дома літаратара, другі — праўленне Літфонду. Гэта будуць іх асноўныя службовыя абавязкі. Яны стануць каардынаваць дзейнасць гэтых службаў.

Тым самым адбудзецца і пэўная «пераадрасоўка» бюджэтных ставак з апарату СП на Дом літаратара і Літфонд. Сэканоміўшы (хай сабе і невялікія) сродкі для іншых мэт (Літфонду, напрыклад, для аказання дапамогі маладым літаратарам ці ветэранам). Трэба пераарыентаваць і стаўкі так званага «корпуса кансультантаў» на ўмацаванне службаў Літфонду і Дома літаратара. Не сакрэт, што творчая кансультацыя чым далей, тым болей робіцца анахранізмам. Ды і справу гэтую прафесійна і талкова вядуць нашы друкаваныя выданні.

Далей... Літфонду трэба мець не проста дырэктара, а камерцыйнага дырэктара. Дырэктар Дома літаратара, паколькі ўзначаліць усю творча-арганізацыйную дзейнасць гэтай службы, скіруе свае намаганні на тэхнічным забеспячэнні работы Дома літаратара. У апараце СП варта захаваць арганізацыйны вузел — намесніка старшыні ці сакратара па арганізацыйных пытаннях і кансультанта. Не лішнім будзе тут і адміністратар па арэндзе. Усю фінансавую дзейнасць варта сканцэнтраваць у адной цэнтралізаванай бухгалтэрыі.

Неабходны асобныя ўдакладненні і па статуце СП Беларусі. У самым пачатку трэба апусціць слова «грамадская» ў дачыненні да нашай арганізацыі. Яна ўсё ж творчая. Неабходна пазнімаць тыя месцы, што тычацца ўзаемаадносін з ужо неіснуючым Саюзам пісьменнікаў СССР.

(В. Зуёнак гаварыў і пра іншыя моманты ўдакладнення статута творчай арганізацыі).

Дарагія сябры! Я наўмысна не крануўся таго, што было зроблена Саюзам пісьменнікаў за справаздачны перыяд. Я стараўся ўнікнуць пералікаў, каб засяродзіць вашу ўвагу на тым, што трэба зрабіць і як зрабіць. Зрабіць таленавіта — у імя нашага Адраджэння.

Будзем жа помніць: «Спачатку было Слова» і «Слова ёсць Бог».

Пакуль жыве беларускае слова — жыве Беларусь!

# СЁННЯ І ЛІТАРАТУРА

## З ДАКЛАДА НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ СПБ УЛАДЗІМІРА ПАЎЛАВА

За чатыры гады, што прайшлі паміж дзесятым і адзінаццатым з'ездамі пісьменнікаў Беларусі, літаральна перавярнуўся свет. Сціхлі размовы пра сацыялізм з чалавечым абліччам.Цяпер мы на Беларусі жывём не ў капіталізме, не ў сацыялізме, не ў краіне рыначных адносін, а ў грамадстве бязладдзя, базарнага хаосу, нястрымных інфляцый і цэн, рэзкага зніжэння вытворчасці.

Дзвесце гадоў назад, у 1795 годзе, царскім «повелением» была забаронена беларуская мова і Беларусь як дзяржава перастала існаваць. Усе гэтыя дзвесце гадоў нам было адмоўлена мацнейшымі за нас у нашай культуры і літаратуры. Асабліва стараліся бальшавікі. У 20—30-ыя гады яны амаль абезгаловілі беларускі этнас, выбіўшы яго інтэлігенцыю, якая ў любым грамадстве лічыцца мозгам нацыі. Астатнія жылі ў пастаянным страху рэпрэсій. Першымі сакратарамі ЦК КПБ былі розныя людзі, адны больш здатныя, другія менш. Але пры кожным з іх паспяхова зачыняліся беларускія школы. Іх не асталося ў рэшце рэшт ніводнай у Мінску, абласных і раённых цэнтрах, у многіх сельсаветах. Вучань, калі і канчаў сем, а пасля восем класаў па-беларуску, то ўжо ў сярэдняй амаль паўсюдна перавучваўся па-руску. За гэта старанне Хрушчоў у свой час паабяцаў беларусам першым камунізм. Праўда, невядома толькі каму — народу ці начальству над ім? Ну, дык начальства і тады жыло пры камунізме.

Уся савецкая гістарыяграфія, і ў першую чаргу на Беларусі, сцвярджала, што мы пачаліся з 1917 года. Нас свядома пазбаўлялі памяці. Большасці вучняў і студэнтаў ніхто ніколі не гаварыў, што да ўтварэння Маскоўскай дзяржавы, за дзвесце з паловай гадоў да адкрыцця Амерыкі на ўвесь астатні свет быў вядомы старажытнарускі пісьменнік-прапаведнік, майстар аратарскай прозы Кірыла Тураўскі (1130—1182). А перад тым — ігумення-асветніца перыяду Кіеўскай Русі Ефрасіння Полацкая (1110—1173), першая жанчына на Русі, якую царква кананізавала ў святыя. Па граматыцы Мялеція Сматрыцкага вучыўся вялікі рускі вучоны Міхайла Ламаносаў, а Сімяон Полацкі вучыў грамаце дзяцей цара Аляксея Міхайлавіча, у тым ліку і будучага Пятра Першага.

Неўміручы ўклад у сусветную культуру ўнеслі асветнікі Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, вялікая кагорта паэтаў-лацiністаў сярэднявечча, многія іншыя. Мы ў свет ішлі з кнігай, да нас, на жаль, — з агнём і мячом. На тэрыторыі Беларусі вырашаліся спрэчкі чужых дзяржаў, і ў гэтых войнах гінуў калі кожны чацвёрты, калі трэці, а калі і кожны другі наш продак.

За наша Адраджэнне, за незалежнасць пралілося нямала крыві лепшых сыноў і дачок. А тут незалежнасць прыпаднеслі нібы на сподачку з блакітнай каёмачкай. І многія не ведаюць, што з ёю рабіць, як распарадзіцца. Ну, тыя, хто на паўсагнутых каленях служыў і служыць старэйшаму брату, хацелі б утапіць яе ў лыжцы вады, што паспяхова і робяць. А як жа быць астатнім, хто жадае дабра і здароўя Беларусі, хто рупіцца пра адраджэнне роднай мовы, культуры? Трэба ўзмоцнена вывучаць родную гісторыю, пісаць пра яе праўдзіва, не перагінаючы палкі ні ў адзін, ні ў другі бок, не ўзвышаючы нікога ні перад кім. Нам, літаратарам, — сумленна працаваць на занятай ніве, каб не чырванець перад далёкімі пачынальнікамі, згаданымі ўперадзе, і больш блізкімі да нашага часу...

Сталасць, відаць, кожнай літаратуры вызначае раман. Беларуская раманістыка сярод сваіх набыткаў мае і раман-эпапею, і раман-паэму, і раман у вершах, і фантастычны раман, нават серыю раманаў, і, калі можна сказаць, звычайны, радавы раман у адной кнізе. За чатыры гады ў перыёдыцы надрукавана да трох дзесяткаў раманаў розных па вопыце і ўзросце аўтараў. Не кожны з іх раскрывае сакрэты сваёй творчай лабараторыі, свае задумы. Але, мабыць, раманам «Вяртанне да віны» народны пісьменнік Іван Чыгрынаў завяршыў свой знакаміты цыкл раманаў пра Верамейкі і верамейкаўцаў. Не магу не зазначыць тут і яшчэ адной асаблівасці ў творчасці І.Чыгрынава. Ён звярнуўся да драматургіі, і небеспаспяхова. У апошні час вынес на суд чытача і гледача некалькі сваіх п'ес, прысвечаных нашай мінуўшчыне.

Штосьці падобнае і ў творчасці Вячаслава Адамчыка, аўтара цыкла раманаў пра былую заходнебеларускую вёску перад вайной і ў вайну. Гэта раман «Голас крыві брата твайго», драматычная аповесць у сямі дзеях «Чорны цмок, або Яблык спакусы», а таксама «неверагодна-праўдзівая і фантастычна-рэальная аповесць», як ён назваў «Падарожжа на Буцафале».

Зайздросна здзіўляюць сваёй працаздольнасцю нашы старэйшыя пісьменнікі. Яны даюць прыклад грамадзянскага асэнсавання не толькі дня нядаўняга, але і сённяшняга, у якім мы жывём побач з чарнобыльскай бядой, у чарнобыльскай духоўнай бядзе. Маю на ўвазе раман народнага пісьменніка Івана Шамякіна «Злая зорка», аповесці «Ахвяры», «Сатанінскі тур», «Аповесці Івана Андрэевіча», дзённікі... Нібы акунаешся ў крыніцу мудрай развагі, добрай усмешкі і лірыкі, калі чытаеш «Трохі смяшней», «З новых старонак», «Вячэрняе», «Свае старонкі», «З новай кнігі», «З розных гадоў» Янкі Брыля.

Далей прамоўца згадваў творы А.Асіпенкі, У.Дамашэвіча, В.Карамазава, А.Рыбака, В.Супрунчука, Г.Далідовіча, П.Місько, А.Сульянава, Т.Бондар, І.Капыловіча, А.Марціновіча, Л.Дайнекі, Я.Міклашэўскага, В.Гігевіча, Л.Левановіча, У.Рубанава, М.Кусянкова, М.Кругавых.

Яшчэ больш, чым раманаў, напісана аповесцяў. Усе іх пералічваць наўрад ці трэба. Мабыць, і не мая гэта задача, а задача крытыкі і літаратуразнаўства, якія разбяруцца грунтоўна і прафесійна. І ўсё ж лічу патрэбным спыніцца на некаторых з іх. Найперш, гэта аповесць народнага пісьменніка Васіля Быкава «Сцюжа». У першым нумары «Полымя» за гэты год надрукаваны тры апавяданні Васіля Уладзіміравіча. Першае з іх «На Чорных лядах» — пра слуцкіх паўстанцаў, іх самаахвярнасць пры абароне годнасці і незалежнасці Беларусі, пра пакручасты чалавечы лёс. Апавяданні напісаны бліскуча, як гэта ўмее рабіць В.Быкаў. Гэта класічныя творы.

На розныя тэмы жыцця і быцця напісаны многія аповесці. У іх — і вайна, і Чарнобыль, сівая мінуў-





*У зале пасяджэнняў.*



*У зале пасяджэнняў — Васіль БЫКАЎ і Таіса БОНДАР.*

шчына і сённяшні дзень, смутак і каханне. Будзе няправільна, калі не згадаць твораў незабыўнага А.Адамовіча, М.Лужаніна, І.Навуменкі, В.Казько, А.Жука, А.Кудраўца, У.Арлова, А.Карпюка, Н.Маеўскай, В.Гардзея, М.Даніленкі, А.Казлова, У.Саламахі, М.Сердзюкова, М.Воранава, У.Глушакова, М.Корзуна, М.Парахневіча, Н.Гублера, М.Клебановіча, М.Лук'янава і шмат іншых.

Цікава і таленавіта напісана «Кніга прыпавясцяў» Янкі Сіпакова і яго ж «Ахвярны дом» — паэма ў прозе. Па апошніх публікацыях відаць, што арыгінальную кнігу пра жанчыну і каханне стварыў Генрых Далідовіч.

У жанры апавядання паспяхова працавалі многія згаданыя ўжо літаратары, і да іх я далучыў бы імёны, якія бясспрэчна заслугоўваюць таго сваімі поспехамі. Гэта А.Васілевіч, І.Пташнікаў, Б.Сачанка, Я.Пархута, В.Хомчанка, А.Федарэнка, А.Кажадуб, І.Жарнасек, Г.Багданава, А.Варановіч, М.Зарэмба, В.Ткачоў, Ю.Станкевіч, А.Бадак, З.Дудзюк, Г.Шыловіч, Л.Філімонава, А.Ждан, А.Наварыч, А.Масарэнка, Х.Лялько, А.Глобус, У.Сцяпан і іншыя.

З вопыту папярэдніх пісьменніцкіх з'ездаў вядома наступнае. Калі заканчваўся даклад і пачыналася яго абмеркаванне, многія выступоўцы крытыкавалі і дакладчыка і даклад. Называлі яго «памінальніцай», неглыбокім па змесце, нецікавым па форме і г.д. Мой даклад нікольки не лепшы за даклады маіх папярэднікаў. І я, — адчуваю востра, — не пазбег «памінальніцы». Многія з нашых пісьменнікаў паспяхова працуюць у розных жанрах — прозе, паэзіі, драматургіі, дзіцячай літаратуры, публіцыстыцы. Як, скажам, рабіў гэта У.Караткевіч, як удала робяць Н.Гілевіч, Я.Сіпакоў, Я.Пархута, В.Коўтун, У.Ягоўдзік, Г.Каржанеўская, Т.Бондар, В.Іпатава. То я ўжо — бяру грэх на душу — стараюся ўспамянуць іх хаця б па разу, ды не заўсёды так атрымліваецца, бо яны дамагаюцца поспеху ледзь не ў кожным жанры і, значыць, «вінаваты» ў «памінальніцы». Але скажыце, якія яшчэ ёсць формы расказу пра пісьменніцкую працу, як не назова яго прозвішча і твора ці твораў, што ён напісаў?!

Цяпер пра паэзію, самы аператыўны літаратурны жанр, калі не прапускаць уперад публіцыстыку. І зноў пачынаю са старэйшын, бо яны маюць найбольшае права на гэта не толькі з-за сваіх шаноўных гадоў, а па зробленым імі. Вялікія майстры нашага паэтычнага слова Максім Танк і Пімен Панчанка, нястомныя працаўнікі і мудрыя беларускія дзядзькі, маладзейшыя бачаць у вашай працы прыклад высокай ахвярнасці ў справе служэння Бацькаўшчыне. Добрага вам і моцнага здароўя!.. Найлепшыя пажаданні шлём мы Яўгеніі Пфляўмбаўм і Максіму Лужаніну, Ганне Новік, Ніне Тарас, Васілю Вітку, Эдзі Агняцвет, Марыне Барсток, Паўлу Кавалёву, Сяргею Новіку-Пеюну, Ігнату Дуброўскаму, Васілю Івашыну, Анатолю Іверсу, Анатолю Іванову, Янку Казеку, Паўлу Прудніккаву, Леаніду Прокшу, Веніяміну Рудаву, Рыгору Рэлесу, Антону Семяновічу, Уладзіміру Юрэвічу — усім, каму жывецца сёння цяжэй, чым астатнім. Жадаем вам дабра і моцнага здароўя.

Думаю, што згадка пра ветэранаў не надта надоўга перапыніла гаворку пра паэзію. У прамежку паміж з'ездамі двум майстрам паэтычнага слова — Нілу Гілевічу і Рыгору Барадуліну — было нададзена званне «народнага». Гэтак, як і празаіку Івану Чыгрынаву — званне народнага пісьменніка Беларусі. Павіншуем нашых таварышаў, пажадаем ім усяго найлепшага.

Побач з імі плённа працавалі на паэтычнай ніве М.Лужанін, Я.Пфляўмбаўм, А.Звонак, М.Аўрамчык, А.Вялюгін, П.Прыходзька, П.Макаль, А.Вярцінскі, А.Лойка, Г.Бураўкін, Д.Сімановіч, Н.Мацяш, М.Арочка, Д.Бічэль-Загнетава, Н.Кіслік, Ю.Свірка, С.Законнікаў, А.Дракахруст, К.Цвірка, В.Тарас, М.Смагаровіч, Р.Тармола, К.Камейша, Ф.Яфімаў, Б.Спрынчан, М.Маляўка, В.Ракаў, Р.Баравікова, В.Жуковіч, В.Макарэвіч, Э.Скобелеў, С.Панізнік, М.Дукса, П.Шруб, А.Тулупава, Ю.Голуб, А.Салтук, М.Шэлехаў, А.Каско, М.Пракаповіч, З.Марозаў, Т.Мельчанка, Х.Гурыновіч, С.Яўсеева, А.Камароўскі, Н.Гальпяровіч, У.Марук, І.Кірэйчык, Л.Рублеўская, В.Шніп і многія-многія іншыя, як члены саюза, так і тыя, што групуюцца пры часопісах «Маладосць», «Першацвет», літаратурных аб'яднаннях. Але тут услед за пахвалой напрошваецца і папрок. А ён вось у чым.

Паэтаў многа, а Дзяржаўнага гімна дасюль няма. Не ведаю, можа, Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны аб'явіць новы тур конкурсу, можа, рассакрэціць аўтараў лепшых тэкстаў папярэдняга і паспрабаваць стварыць сааўтарства? Але як бы там ні было, нягожа, таварышы паэты, заставацца рэспубліцы без гімна.

Шмат чаго з даўняй даўніны і нядаўняга часу за гады між з'ездамі вернута і ўспомнена, адшукана даследчыкамі. Наша літаратура пабагацела на многія творы.

З'явіліся цікавыя нарысы, цікавая публіцыстыка. Найперш адзначу працы пра нашу нацыянальную трагедыю — чарнобыльскую бяду, яе сённяшнія вынікі і наступствы. (У.Паўлаў назваў творы А.Крыгі, В.Гігевіча і А.Чарнова, А.Петрашкевіча, В.Лапціка, А.Новік, У.Ліпскага, Г.Бубнова, нарысы пра замежжа, успрыманне яго К.Шэрмана, С.Законнікава, Б.Сачанкі.) І ўсё ж публіцыстычнае слова пісьменніка гучыць яшчэ прыглушана. У нас столькі праблем, столькі болю, што іншы раз трэба крычма крычаць, а мы рэдкія госці на старонках газет, на радыё і тэлебачанні.

Пералічаным, вядома, не вычэрпваецца ўсё тое з жанру нарыса і публіцыстыкі. Было нямала публікацый па Адраджэнні, культуры, мастацтве і побыце. Асабліва хочацца адзначыць падзвіжніцкую працу па гісторыі Беларусі, што працягваюць рабіць Мікола Ермаловіч, Міхась Чарняўскі, Генадзь Кісялёў, Арсень Ліс, Алесь Каўрус, Уладзімір Конан і іншыя.

У Саюзе пісьменнікаў не малалікі атрад і крытыкаў. І, як у кожным жанры, ёсць сярод іх больш актыўныя, і менш актыўныя або зусім не актыўныя. Гэта могуць пацвердзіць супрацоўнікі рэдакцый, якім цяжка заказаць звычайную рэцэнзію. Дарэчы, пра «звычайную рэцэнзію». Яна — не частая госця на старонках часопісаў, акрамя «Полымя», і ўжо амаль знікла са старонак штотыднёвіка «ЛіМ». Рэцэнзію як жанр трэба адрадзіць.

Па-ранейшаму ў крытыцы працуюць Уладзімір Калеснік, Рыгор Шкраба, Дзмітрый Бугаёў, Віктар Каваленка, Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Мушынскі, Мікола Арочка, Мікола Грынчык, Павел Дзюбайла, Уладзімір Казбярук, Міхась Тычына, Вячаслаў Рагойша, Генадзь Шупенька, маладзейшыя Міхась Кенька, Пятро Васючэнка, Галіна Тычка, Іван Афанасьеў.

Але ў апошні час крытыка як бы разгубілася. Ды, шчыра кажучы, і нямала хто з нас разгубіўся. Бо многае з таго, што ўхвалялася былым рэжымам, не вытрымала праверкі часам. Аказалася спалітызаваным і непрыдатным для сённяшняга дня. Шмат што з напісанага трэба перагледзець, а крытыцы даць аб'ектыўную ацэнку кожнаму твору і яго творцу. Я не заклікаю, аднак, каб некага закрэсліваць, а некага заднім чыслом узвышаць. Я заклікаю да аб'ектыўнасці, паважлівых адносін да кожнага, помнячы, што ўсе мы — прадукт свайго часу, і не наша віна, а наша бяда, што шмат інтэлектуальных сіл патрачана на ўхваленне камуністычнай партыі і яе ідэй, а не на ўслаўленне спрадвечнага валадара зямлі — чалавека. Многія былі забылі, што літаратура — гэта чалавеказнаўства, і займаліся ўхвалой монстра, які адвёў ролю кожнаму быць вінцікам у страшнай машыне падаўлення чалавека як асобы, пазбаўлення яго Богам дадзенай свабоды, а ў мільёнах выпадкаў пазбаўлення і самога жыцця.

Па традыцыі, уласцівай, мабыць, кожнай літаратуры, у нас колькасна больш паэтаў і празаікаў, чым драматургаў і сатырыкаў. Але, як часта бывае, не колькасць аказваецца вызначальнай, а якасць. Так і ў драматургіі. Вельмі цікавыя п'есы пісалі А.Петрашкевіч, А.Дудараў, М.Арахоўскі, У.Бутрамееў, В.Аколава, У.Дзюба, С.Кавалёў, У.Савуліч і іншыя.

У жанры сатыры і літаратурнай пародыі актыўнымі сталі Э.Валасевіч, Г.Юрчанка, Р.Яўсееў, В.Блакіт, В.Найдзін, М.Скобла, М.Пазнякоў, М.Вяршынін, А.Зэкаў.

Ёсць набыткі і ў галіне ўспамінаў, публікацыі дзённікаў, дакументаў, мастацкага перакладу, у справе прапаганды літаратуры. Тут рупіліся С.Грахоўскі, П.Пруднікаў, А.Слесарэнка, У.Мехаў, В.Сёмуха, В.Рабкевіч, К.Цвірка, І.Чарота, Н.Загорская, А.Траяноўскі, Г.Кісялёў, Г.Колас, У.Няфёд, Г.Каханоўскі, Я.Казека, Л.Казыра, У.Мархель і іншыя.

Колькі слоў пра дзіцячую літаратуру. Не таму, што яна для маленькіх і сама маленькая, дык трапіла пад канец даклада. З яе, можа, варта было пачынаць гаворку, калі мы кажам, што вельмі любім дзяцей. Цяжка знайсці пісьменніка, які б не працаваў у гэтым жанры. І сёння нашы дзеткі маюць мудрага дзеда Васіля — Цімоха Васільевіча Вітку — і яго займальныя і разумныя кнігі, што навучаюць змалку дабру, спагадзе да слабейшага, любові да дрэва, звера, рыбы і птушкі. Па-ранейшаму плённа працуюць Э.Агняцвет, І.Муравейка, А.Вольскі, В.Лукша, М.Чарняўскі, Л.Шырын, Н.Галіноўская, У.Ягоўдзік, Д.Слаўковіч, У.Мацвеенка, А.Якімовіч, У.Мазго, Я.Хвалей, В.Кудлачоў. Выдаюцца часопісы «Вясёлка», «Пралеска», «Бярозка», выпускаюцца дзіцячыя кнігі. Але тут трэба зрабіць паўзу і сказаць, што выпускаюцца кнігі з вялікімі пераносамі ў часе, паліцы з дзіцячай літаратурай у кнігарнях выглядаюць бедна. Гэтаксама, дарэчы, як наогул з беларускай кнігай. У «Кнігарні пісьменніка» яшчэ сяк-так, але ж яна адна на рэспубліку. А што мы бачым у астатніх кніжных магазінах? Бачым трусы, майкі, касметыку на самых прыкметных месцах і прэстыжных паліцах.

Зараз у рэспубліцы больш 700 розных арганізацый, якія маюць права выпускаць літаратуру. Яны скупляюць ці перакупляюць паперу, паліграфічныя магутнасці і гоняць у большасці бульваршчыну — кнігі пра секс, дэтэктыўшчыну, містыку. У свой час мы звярталіся з прапановай, каб пэўны працэнт ад выручкі гэтыя выдавецтвы адлічвалі на карысць беларускай кнігі з тым, каб яна выходзіла своечасова і ў добрым паліграфічным выкананні, была танней, мела належныя тыражы. Да гэтай ідэі трэба вярнуцца.

Напачатку я гаварыў, што новы час вярнуў нам многа імёнаў, нямала твораў, якіх раней і ўспамінаць было нельга. Нам жа гаварылі, што ўсе яны нацыяналісты, ворагі радзімы. Але ж чалавекам часта кіравалі абставіны, якіх ён сам сабе не ствараў. З павагай вымаўляем мы сёння імёны Н.Арсенневай, А.Салаўя, У.Клішэвіча, У.Глыбіннага, Ю.Віцьбіча, Я.Золака, М.Сяднёва.... У тым, што яны захавалі там мову, пісалі кнігі на ёй, уклад згаданых і іншых пісьменнікаў-эмігрантаў бясспрэчны.

Вельмі балючае пытанне пра мову. Ворагі беларушчыны, як іх назваў Купала, відаць, ужо акрыялі духам: маўляў, пераседзелі, адсапліся, цяпер будзем аднаўляць «адзіны і магутны», а Беларусь, як незалежнасць — цьфу і разатром. Ці многа такіх? Вельмі многа, скрытых і адкрытых. Думаю, што самыя адкрытыя — у Вярхоўным Савеце, якія сядзяць з дэпутацкімі значкамі былой БССР. Можа, скажа хто, дзе такое можа быць, каб, «состоя на денежном и вещевом довольствии» ў дзяржавы, заставацца ёй непрыяцелем? У Беларусі, аказваецца, можна. Чаму? Ды таму, што Беларусь, сапраўдная Беларусь, іх не выбірала. Яны ішлі то па партыйным спісе, то па спісе арганізацый ветэранаў, інвалідаў. Але ішлі тыя, хто патрэбен быў наменклатуры. Вось чаму ў заканадаўчым Вярхоўным Савеце іх большасць. Вось чаму быў задушаны рэферэндум пра датэрміновыя выбары. Вось чаму ніяк нельга адправіць у адстаўку Савет Міністраў, што плаціць Расіі за тону нафты значна вышэй сусветных цэнаў, а за праход яе газу і нафтаправодаў па нашай тэрыторыі, знаходжанне яе войскаў, праезд паяздоў, пралёт самалётаў у небе не бярэ ні капейкі. Ну, а цяпер яшчэ і рублёвая зона! Лагічны фінал папяровай незалежнасці. Пасля гэтага і той ужо, што не можа і двух слоў звязаць на мове карэннага насельніцтва, гэта значыць, па-беларуску, лічыць, што мае права вылучаць сваю кандыдатуру ў прэзідэнты...

Некалькі слоў пра творчыя секцыі. Мы найбольш задаволены работай секцыі дзіцячай літаратуры, якую ўзначальвае А.Вольскі, педагагічнай на чале з А.Яскевічам і ваенна-шэфскай, якой кіруе Я.Каршукоў.

Хацеў бы сказаць наступнае. У асяроддзі навукоўцаў, работнікаў друку, літаратараў ідзе дыскусія, што і як нам вярнуць у мове пасля рэформ 30-х і 50-х гадоў. Створана аўтарытэтная камісія. Пачакаем, што яна скажа, які закон будзе прыняты. Некаторыя ж сродкі масавай інфармацыі ўжо сёння часткова ці цалкам перайшлі на правапіс 30-х гадоў, чым блытаюць настаўнікаў, школьнікаў, якія той мовы і таго правапісу не ведаюць. Мова — рухомая матэрыя, а не нешта застыглае. Я і сам не магу сёння гаварыць і нават не прымаю шмат чаго, як, скажам, Ангельшчына, Гішпанія, філёлёгія, глёбус, газэта. Я, як любы чалавек, магу памыляцца. Але не трэба ламаць дроў, падліваць алею ў агонь, бо любую прамашку ворагі беларушчыны выкарыстаюць спраўна. Як пісаў Якуб Колас у ЦК КПБ, заступаючыся за беларускую мову 38 гадоў таму назад, «хачу, каб зразумелі мяне правільна».

Работа прыёмнай камісіі. За чатыры гады разгледжана 114 заяў. Не ўсе яны атрымалі нашу падтрымку або падтрымку рады. У Саюз пісьменнікаў прыняты 79 чалавек. Цяпер у Саюзе пісьменнікаў 454 чалавекі. За чатыры гады праведзены дзве рэспубліканскія нарады маладых. Перад імі праходзілі абласныя нарады.

Не ўсім, але некаторым маладым ёсць папрок. Ён вось у чым. Пакуль чалавек без білета, ён актыўны і ў друку і ў мерапрыемствах, што праводзіць Саюз. Як паступіў — мала актыўны, мала друкуецца. Няўжо мэта толькі ў тым, каб стаць членам саюза? Білет жа не дае права чалавеку стаць пісьменнікам, ён толькі сведчыць аб далучэнні яго да арганізацыі творцаў фармальна, а пісьменніка пісьменнікам робіць праца, выяўляе грамадская пазіцыя.

Пэўны час назад у Наваполацку арганізавалася суполка незалежных літаратараў пад старшынствам Алеся Аркуша — па звестках друку. У свой час А.Аркуш разглядаўся на прыёмнай камісіі і недабраў аднаго ці двух галасоў. Вырашылі яго справу вынесці на раду, на якую быў запрошаны і А.Аркуш, але не прыехаў. Відаць, усё ж не таму ён арганізаваў суполку незалежных літаратараў. Мабыць, нешта яго не задавальняла ў нашай структуры, якую лічыць ад некага залежнай. Ад каго? За чатыры гады мяне, як намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, ніхто з адміністрацыйных органаў нікуды не выклікаў, не даваў «каштоўных указанняў», не аб'яўляў спагнанняў. Гэтак і з маімі таварышамі. Адзначыў бы такі нюанс. Калі нехта ўваходзіць у арганізацыю, якая мае праграму і статут, то ён ужо залежны. Кожны ад кожнага. І назва са словам «незалежны» не адлюстроўвае сапраўднага стану.

Ёсць яшчэ дзве рэчы, каб і пра іх сказаць. Першае — такая з'ява, як дзённікавая літаратура, запісы, занатоўкі. Гэты дробнафарматны жанр з высокім насычэннем думак пачаўся ў нас з кнігі «Жменя сонечных промняў» Янкі Брыля, якая з'явілася гадоў дваццаць назад, а, можа, і больш. Іван Антонавіч працягвае збіраць гэтыя промні і цяпер. І мае паслядоўнікаў. А яны паспяхова пашыраюць жанр. Гэта І.Шамякін, І.Пташнікаў, В.Адамчык, Б.Сачанка, В.Карамазаў, маладзейшыя А.Асташонак, Л.Галубовіч.

Другое. Многія кнігі, што чыталіся гадоў дваццаць-трыццаць назад, забыліся, выпалі з памяці. А вось адна тоненькая, у два друкаваныя аркушы, выдадзеныя ў «Бібліятэцы часопіса «Вожык», помніцца, мяркую, усімі. Гэта — аддадзім належнае належнаму! — вельмі цікавы твор. Прынамсі, нашаму пакаленню. Маю на ўвазе «Сказ пра Лысую гару» Ведзьмака Лысагорскага. На жаль, ён адмовіўся адкрыцца на гэтым з'ездзе, а я спадзяваўся на маленькую сенсацыю.

І апошняе, а мо і найпершаснае, пра што мы павінны помніць і ўдзень і ўначы. Мы тады паможам Беларусі, адраджэнню яе мовы, культуры, вяртанню слаўнай гісторыі Бацькаўшчыны, калі будзем пісаць таленавітыя кнігі. Да гэтага заклікаю ўсіх і кожнага і спадзяюся на наш агульны поспех.

## XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

# ПАД ЗНАКАМ АДРАДЖЭННЯ

### З ДАКЛАДА НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ СПБ АЛЕСЯ ПІСЬМЯНКОВА

Я пачну з трохі аддаленай асацыяцыі: калі гаспадар будуе дом, ён заўсёды думае пра тое, што гэты дом — надоўга, ён спадзяецца, што ў гэтым доме будзе жыць не толькі ён, але і ягоныя дзеці і ўнукі. І таму будуе трывала і ўпэўнена, з разлікам на доўгі век. І, вядома ж, у сваім доме ён усталёўвае пэўны парадак і лад, лад, якім жылі яго продкі: прадзеды, дзяды, бацькі. Ён не толькі беражэ памяць пра іх, свята шануе родную мову, але з гонарам працягвае і развівае іхнія традыцыі.

Ставячы і ладкуючы дом, думае ён і пра суседзяў, і, натуральна, ставіцца да іх з павагай, але пры гэтым не прыніжае ўласнай годнасці, бо разумее, што толькі такім чынам можна спадзявацца на павагу ўзаемную.

На вялікі жаль, сёння мы з сумам можам канстатаваць зусім іншае. Тыя, хто вызначае наша жыццё-быццё ў нашым яшчэ новым беларускім доме, або не разумее гэтых спрадвечных ісцін, або свядома ігнаруе іх, спавядаючы бесперспектыўную філасофію манкуртаў. Бесперспектыўную, бо, як любіў казаць апошні генсек, «працэс пайшоў». Хочацца некаму ці не хочацца, нацыянальная свядомасць беларусаў, хоць і марудна, але расце. На мінулым пісьменніцкім з'ездзе А. Лойка вельмі ўдала параўноўваў наша Адраджэнне з травой: «Яе косяць, а яна расце, яе косяць, а яна расце...» Такі закон прыроды, такі закон дыялектыкі. Менавіта пад знакам Адраджэння планаваў і праводзіў сваю творчую работу Дом літаратара. І была яна накіравана на прапаганду роднага слова, на ўшанаванне значных гістарычных дат, умацаванне сувязей творчай інтэлігенцыі, прапаганду нашых кніг, падтрымку маладых талентаў. Нягледзячы на складанае матэрыяльнае становішча Дома літаратара, за перыяд між з'ездамі было праведзена больш як 250 вечарын. Многія з іх перадаваліся па радыё, тэлебачанні, пра іх пісалі ў газетах. Варта падкрэсліць, што значная частка мерапрыемстваў мела не толькі чыста літаратурнае, а і грамадска-палітычнае значэнне і праводзілася сумесна з грамадскімі рухамі, іншымі творчымі саюзамі, фондамі, Міністэрствам культуры. Гэта вечары, прысвечаныя Вялікаму Вітаўту, угодкам Слуцкага паўстання, вечар памяці рэпрэсаваных пісьменнікаў, юбілейныя вечары славутых дзеячаў Адраджэння Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Кастуся Езавітава, Язэпа Драздовіча і іншых.

На працягу ўсяго перыяду вялікая ўвага надавалася нашым традыцыйным мерапрыемствам — творчым вечарынам і прэм'ерам новых кніг. Думаецца, што наведвальнікаў Дома літаратара не пакінулі раўнадушнымі вечары «Браты Ермаловічы», «Браты Грыцкевічы», творчыя вечары Вячаслава Адамчыка, Ніны Мацяш, Петруся Макаля, Алеся Ставера, Людмілы Паўлікавай, Міколы Мятліцкага, Аляксея Слесарэнкі, Валянціны Аколавай, прэм'еры кніг Ніла Гілевіча «Жыта, сосны і валуны», Сяргея Законнікава «Заклінанне», Юрася Свіркі «Узаемнасць», Леаніда Дранько-Майсюка «Тут», Паўла Пруднікава «За калючым дротам», Раісы Баравіковай «Люстэрка для самотнай», Івана Капыловіча «Пасынак», Віктара Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Дарэчы, многія з гэтых кніг былі вылучаны на атрыманне прэмій.

Дом літаратара не толькі шанаваў старыя традыцыі, але і шукаліся і развіваліся новыя формы работы. Карысталіся папулярнасцю вечары з цыкла «Гасцёўня двух Алегаў» (паэт А. Лойка і бард А. Атаманаў), сумесны вечар паэтаў з Бярэсця Алеся Каско і Міколы Пракаповіча, сямейны творчы вечар Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа. Пералік можна доўжыць. Усхвалявана і ўзрушана прайшлі вечары памяці Яўгеніі Янішчыц, Фёдара Янкоўскага, Веры Палтаран... Добры плён давала супрацоўніцтва з мастакамі і кампазітарамі.



*Генадзь БУРАЎКІН і Анатоль БУТЭВІЧ.*

Мы ўсе сёння жывём у складаны і нялёгкі час, я сказаў бы — у час асэнсавання, калі адбываецца перагляд і пераацэнка духоўных каштоўнасцей, калі ў кантэкст нашай літаратуры актыўна ўваходзяць новыя імёны, на якія ў недалёкім мінулым было накладзена «табу»!. Гэты аспект таксама не застаўся па-за ўвагай. Сведчанне гэтаму — вечары Алеся Гаруна, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсеневай, сустрэча з паэтам-эмігрантам Масеем Сяднёвым.

Зразумела, што кожны вечар патрабуе пэўных матэрыяльных выдаткаў: запрашальны білет, ганарар артыстам, транспарт, афармленне сцэны і г. д. На жаль, нашы Савы Марозавы і Траццяковы толькі нараджаюцца і культура ў сферы іхніх інтарэсаў займае далёка не першае месца. І ўсё ж было б несправядліва не запыніць увагу на даволі прыемным факце: дапамаглі ладзіць прэм'еру кнігі Змітрака Марозава — фірма «Пасад», Анатоля Зэкава — «Дэсці». Хочацца спадзявацца, што гэтыя, пакуль адзінкавыя прыклады, з цягам часу стануць нормай.

Я разумею, што стаміў вас пералікам нашых дасягненняў, і абсалютна натуральна ўзнікае пытанне: няўжо сапраўды так гладка, так ідэальна ў творчай рабоце Дома літаратара? Вядома ж, не! Хоць і прыемна адзначаць, што апошнім часам у наш Дом ідуць людзі розных узростаў і розных прафесій, хоць рэгулярна нашы анонсы друкуюць «ЛіМ», «Добры вечар», «Наша слова», а таксама рэгулярна перадае «Радыёфакт». Дому літаратара неабходна на належны ўзровень узняць рэкламу, устанавіць больш цесныя кантакты з працоўнымі калектывамі і ў першую чаргу з інтэлігенцыяй Мінска. (Дарэчы, такі вопыт у нас ёсць — вось ужо колькі гадоў, як плённа супрацоўнічаем з інстытутамі павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і ўрачоў). Толькі праз цесную духоўную сувязь з інтэлігенцыяй Дом літаратара зможа стаць сапраўдным цэнтрам Адраджэння.

Мне здаецца, што безнадзейна ўстарэлі формы работы нашых творчых секцый — яны павінны працаваць у цесным кантакце з метадычным аддзелам і сумесна ладзіць такія мерапрыемствы, як, скажам, «Вечар аднаго верша», «Вечар кароткага апавядання». Не так келейна маглі б праводзіцца і абмеркаванні рукапісаў першых кніг. У некаторых краінах, напрыклад, у Польшчы, паэт, перш чым выдаць першы зборнік, выходзіць з ім на людзі і ўжо затым, з улікам заўваг калег і прыхільнікаў, прапануе рукапіс выдавецтву.

Відаць, было б няблага, каб пры метадычным аддзеле стварыць пададдзел па прапагандзе мастацкай літаратуры. Чаму б прэм'еру кніжкі паэта ці празаіка, якая адбылася ў пісьменніцкім доме, не наладзіць у нейкай навучальнай установе ці на радзіме аўтара? Зразумела, на ўсё гэта патрэбны сродкі.

Варта падтрымліваць Дому літаратара сяброўскія адносіны з аналагічнымі дамамі ў блізкім і далёкім замежжы. Беларуска-ўкраінскі вечар, які нядаўна прайшоў з вялікім поспехам, гаворыць пра тое, што гэта карысна, цікава і патрэбна.

І самае галоўнае — нам патрэбна пачынаць з сябе, з пераадолення ўласнай нямоты і інертнасці, і тады мы не будзем забываць прыйсці і пакланіцца сваім настаўнікам і сказаць шчырае і цёплае слова пра сваіх сяброў-равеснікаў.

Сёння, карыстаючыся выпадкам, хочацца падзякаваць нашым старэйшынам Максіму Танку, Янку Брылю, Васілю Быкаву, Івану Шамякіну, Сяргею Грахоўскаму, Міколу Аўрамчыку, Уладзіміру Юрэвічу (пералік можна доўжыць), якія, нягледзячы на шаноўны ўзрост, заўсёды ўмеюць знайсці час для гэтай высакароднай справы. Давайце будзем вучыцца ў іх высокаму служэнню слову і помніць наказ класіка: «Наша сіла ў грамадзе».

# ПРАЦАВАЛАСЯ І ЖЫЛОСЯ ЦЯЖКА

### З ДАКЛАДА СТАРШЫНІ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ СПБ ВЯЧАСЛАВА РАГОЙШЫ

Працаваць Рэвізійнай камісіі СПБ на працягу справаздачнага перыяду было і лягчэй, і цяжэй, чым у мінулае чатырохгоддзе. Лягчэй — таму што пасля эйфарычнага «разводу» з Літфондам большая палова абавязкаў нашай камісіі адпала. Разам з тым працавалася і жылося як ніколі цяжка, складана. Як, дарэчы, і ўсёй нашай маладой незалежнай дзяржаве, кіраўніцтва якой не магло, а, можа, і не захацела ступіць на шлях радыкальных эканамічных рэформ.

У такой сітуацыі выклікае радаснае здзіўленне, што амаль пры поўнай адсутнасці сродкаў, пры здрадзе Літфонду Саюз пісьменнікаў не раскалоўся, як у Расіі, не раздрабіўся, не ліквідаваўся. Хаця, трэба сказаць, што пэўныя сілы жадалі гэтага, імкнуліся да гэтага. І тут трэба аддаць належнае цяперашняму кіраўніцтву СПБ — радзе, бюро рады, асабіста Васілю Зуёнку.

На пасяджэннях рады — а яны праходзілі ўвогуле рэгулярна, бадай, штомесяц — ставіліся, абмяркоўваліся і вырашаліся многія актуальныя пытанні пісьменніцкага жыцця. Даволі рэгулярна праводзіліся і пасяджэнні бюро рады. Радзей, чым запісана ў статуце СПБ, але праходзілі агульныя пісьменніцкія з'езды. Галоўным чынам з-за недахопу сродкаў на іх правядзенне.

Разам з тым добра бачны і пэўныя, а часам і значныя пралікі нашага вышэйшага кіраўнічага органа. З аднаго боку, большасць сяброў рады занялі прынцыповую пазіцыю недалучэння ні да аднаго з так званых супольных пісьменніцкіх саюзаў, што несумненна папярэдзіла развал СПБ. У той жа час, з другога боку, бюро рады і сама рада не змаглі своечасова пагасіць эйфарычны стан пэўнай часткі праўлення Літфонду і не дапусціць згубнага для пісьменнікаў выхаду Літфонду з-пад даху Саюза пісьменнікаў.

Больш таго, як здаецца, асобныя нашы пісьменніцкія сакратары нават унутрана радаваліся: выходзьце, выходзьце, нам менш будзе клопатаў, калі застануцца толькі творчыя пытанні і адыдуць самыя непрыемныя — сацыяльна-бытавыя.

Але ж у нашым жыцці — і гэта адчуваецца асабліва востра ў апошні час — пытанні сацыяльна-бытавыя, матэрыяльныя цесна звязаны з творчымі. Зрэшты, калі мы не вырашым першыя, то не здолеем вырашыць і другія. Бо праблемы друкавання, прапаганды, нават напісання мастацкіх твораў немагчыма вырашыць без той злашчаснай матэрыяльнай базы, якая ў апошні час катастрафічна збяднела. І збяднела — трэба сказаць прама — у значнай ступені ў выніку пэўнай інфантыльнасці, безыніцыятыўнасці, абыякавасці нашага пісьменніцкага кіраўніцтва, недастатковага ўмення, а падчас і яго нежадання працаваць у новых сацыяльна-палітычных і эканамічных умовах.

(Дакладчык далей гаварыў аб рабоце Дома літаратара, здачы ім памяшканняў у арэнду, закрануў пытанні прапаганды мастацкай літаратуры, адпачынку, лячэння пісьменнікаў, ролі ў вырашэнні іх кіраўніцтва творчага саюза).

Прааналізаваўшы працу кіраўніцтва СПБ, Рэвізійная камісія прыйшла да высновы аб неабходнасці карэннай рэарганізацыі структуры нашай пісьменніцкай арганізацыі з улікам сучаснай сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі. Справа з'езда — прапанаваць канкрэтныя рашэнні. Але без такой хуткай і эфектыўнай рэарганізацыі ў цяперашніх эканамічных і палітычных умовах нам не выжыць як творчаму калектыву, ад якога многае залежыць, у тым ліку — лёс беларускай мовы, культуры і нават шырэй — нацыі, дзяржавы...

(В. Рагойша ўнёс некаторыя прапановы па рэарганізацыі СП Беларусі і яго падраздзяленняў).

У заключэнне — пра тыя рашэнні, якія мы прымалі на мінулым з'ездзе. Хацеў тут сказаць, як помніцца, але не магу. Рэч у тым, што стэнаграмы разам з рашэннямі з'езда Рэвізійная камісія ў СП знайсці не змагла — усё ўжо даўно здалі ў архіў. Магчыма, таму ні на радзе, ні на бюро рады ні разу не ставілася пытанне аб выкананні рашэнняў Х з'езда пісьменнікаў. У той жа час некаторыя з іх, як гэта ні дзіўна, выкананы. Выкананы, можна сказаць, самі сабою.

Так, з'езд ухваляў ідэю стварэння Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Як мы ведаем, яна плённа працуе ўжо чацвёрты год. З'езд вітаў і ўтварэнне новых творчых аб'яднанняў у рамках статута, патрабаваў павысіць патрабавальнасць да прыёму ў СПБ.

Ёсць Асацыяцыя пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў. Праўда, ні рада, ні бюро рады так і не разгледзелі высілкі гэтай асацыяцыі, адпаведнасць яе працы статутным патрабаванням нашай пісьменніцкай арганізацыі. Прыёмная камісія за справаздачны перыяд разгледзела 125 заяў, рэкамендавала прыняць у лік сяброў СПБ 92 чалавекі. Патрабавальнасць, думаецца, дастаткова высокая. Ажно настолькі, што падчас нават рада «папраўляла» прыёмную камісію і прымала тых, хто не дабраў на камісіі адзін або два галасы.

Мінулы з'езд палічыў патрэбным стварыць сваё пісьменніцкае выдавецтва, сваю асобную «Літаратурную газету», аднавіць часопіс «Узвышша» як орган СПБ. Нічога з гэтага, на жаль, не выканана. Зразумела, на шляху рэалізацыі гэтых рашэнняў былі немалыя аб'ектыўныя цяжкасці, найперш фінансавыя. Але ж пры тых самых цяжкасцях пачалі выходзіць газета «Культура», некаторыя іншыя выданні.

Кнігі і альманахі выдаюцца нават у асобных раённых цэнтрах. А некаторыя пісьменнікі, у тым ліку і члены рады СПБ, самі ўзначалілі камерцыйныя выдавецтвы ці ахвотна пайшлі працаваць у іх. Толькі, на жаль, уласна пісьменніцкага выдавецтва як не было, так дагэтуль і няма.

А магло б і яшчэ зможа быць! Думаецца, ім магло б стаць камерцыйнае выдавецтва «Золак», заснаванае часткова на грошы СПБ. Яно знаходзіцца ў Доме літаратара, дарэчы, бясплатна карыстаецца яго плошчамі. Узначальвае яго намеснік старшыні СП Віктар Супрунчук. «Золак» пералічыў на патрэбы СПБ даволі значную суму. Але яго не толькі фінансавы, але і творчы ўклад у развіццё беларускай літаратуры быў бы непараўнана большы, калі б выдавецтва юрыдычна стала нашым, пісьменніцкім. Той жа Супрунчук мог бы стаць дырэктарам пісьменніцкага выдавецтва. Усе якасці ў яго для гэтага ёсць.

І апошняе. На кожным пісьменніцкім з'ездзе мы наракаем: своечасова не расшыфроўваюцца і зусім не выдаюцца стэнаграмы нашых пісьменніцкіх з'ездаў. А значыць — няма шырокага пісьменніцкага кантролю за іх рашэннямі. Давайце, нарэшце, прыпынім гэту заганную традыцыю і выдадзім з дапамогаю камп'ютэра хаця б пару дзесяткаў стэнаграм нашага XI з'езда. І для гісторыі. І для чытачоў буйнейшых нашых бібліятэк. І для тых, хто захоча паглядзець, якія ж рашэнні з'ездам прыняты і як яны выконваюцца.

# БЕЛЛІТФОНД І ПІСЬМЕННІК

## З ВЫСТУПЛЕННЯ В. А. СТАРШЫНІ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛЛІТФОНДУ ЯЎГЕНА КАРШУКОВА

У тым выглядзе, у якім Беллітфонд існуе на сённяшні дзень, ён быў створаны ўстаноўчым сходам 19 сакавіка 1992 года і вылучаны ў самастойную арганізацыю. Праўда, у сувязі з тым, што па ініцыятыве старшыні праўлення Н. Пашкевіча, а таксама бюро рады, у канцы 1993 года было праведзена самае моднае ў сучасным палітычным жыцці мерапрыемства — рэферэндум, Літфонд нібыта зноў, як блудны сын, вярнуўся ў лона Саюза пісьменнікаў, але з пэўнымі стратамі як у маральным, так і ў матэрыяльным плане.

Вядома, выдаткі можна тлумачыць і аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі прычынамі на гэтай горкай дарозе літфондаўскага гаспадарання. Што тычыцца аб'ектыўных прычын — вы іх ведаеце: нежаданне ўлад падтрымаць фінансава пісьменніцкую арганізацыю, якая ў пэўнай меры на працягу апошніх дзесяцігоддзяў сацыяльна абараняла, дапамагала пісьменнікам у іх увогуле і тады не даведзеным да сацыяльна слабых жыцці.

А вось суб'ектыўныя прычыны, на маю думку, тлумачацца адсутнасцю вынікова ініцыятывы, якая залежыць ужо ад тых людзей, што працуюць у Літфондзе. Мы, як вядома, даверылі справы Літфонду пасля шматгадовай працы В. Вільтоўскага спачатку спадару М. Хамякову, потым — спадару У. Толаку... Але спадзяванні на разваротлівасць гэтых людзей у новых, так званых «рынчачных», умовах так і не здзейсніліся. Толькі два факты: паўгода ездзілі гэтыя гаспадарнікі ў Стаўбцоўскі раён дамаўляцца накот дачных участкаў для пісьменнікаў, нібыта ўсё ішло нармальна, ужо і заявы прымалі, але напрыканцы — нуль... Тое ж самае атрымалася і з арганізацыяй сумеснага прадпрыемства ў Заслаўі. Існавала яно пад добрым імем Беллітфонду з год, але ніякіх прыбыткаў мы так і не атрымалі.

Не сказаць, каб праўленне Беллітфонду было безуважным да ўсіх вострых і набалелых пытанняў сацыяльнай абароны пісьменнікаў. Пасяджэнні ў большасці праходзілі па-дзелавому, зацікаўлена, але не ўсе рашэнні, на вялікі жаль, рэалізоўваліся. Напрыклад, я да гэтага часу шкадую, што прапанова аб стварэнні пры Беллітфондзе выдавецтва па выпуску дзіцячай літаратуры, ідэя якога належала і мне, і А. Вольскаму, і К. Цвірку, так і не атрымала падтрымкі, пабаяліся рызыкі...

З-за адсутнасці фінансавых датацый з боку Літфонду былога Саюза пісьменнікаў СССР і ўрада, міззэрнасці тых грашовых паступленняў, якія выплачваліся камерцыйнымі групамі, што знаходзіліся пад крылом Беллітфонду, давялося здаць Дом творчасці «Іслач» у арэнду Міністэрству культуры. Але ўжо і ў 1992, і тым больш у 1993 годзе стала зразумела, што перспектывы безнадзейныя...

Заўсёды ў цэнтры ўвагі Беллітфонду было кватэрнае пытанне. Іншая справа, што раней усё ішло даволі гладка. У посткамуністычны перыяд умовы змяніліся. Спачатку мы яшчэ спрабавалі выкупляць кватэры для пісьменнікаў, але сёння сродкаў няма ні ў Літфондзе, ні ў саюзе. У чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаіць больш за дваццаць пісьменнікаў.

Рашэнні па выдзяленні жылплошчы прымаліся праўленнем Беллітфонду па прапанове жыллёвай камісіі. У 1992—1993 гг. за кошт сродкаў Літфонду, Саўміна РБ, Міністэрства абароны было пабудавана для пісьменнікаў 424 кв. м жыллёвай плошчы. Палепшылі свае кватэрныя ўмовы В. Карамазаў, А. Разанаў, К. Ільюшчыц, І. Клімянкоў і іншыя. Уключаны ў план будаўніцтва кватэр па лініі ЖБК А. Кудравец, У. Паўлаў, Г. Далідовіч, А. Казлоў, У. Саламаха, Е. Тумас.

У 1993 годзе Беллітфонд павінен быў за кошт долевага ўдзелу ў будаўніцтве атрымаць ад Упраўлення капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама жылля ў памеры 320 кв. м. Першапачатковы ўзнос за жыллё пісьменнікі ўнеслі. Рашэннем праўлення Беллітфонду былі вызначаны прэтэндэнты на жыллё — У. Арлоў, А. Трушко, Б. Сачанка, А. Станюта, В. Мешчаракова. Але замест пяці кватэр была выдзелена ўсяго адна двухпакаёўка. У выніку апытання членаў праўлення (як заўсёды, звесткі даць гарвыканкам патрабаваў тэрмінова) кватэру аддалі Б. Сачанку, у якога былі перавагі: ён — вязень фашысцкай Германіі, і ў яго хаце пражывалі дзве пісьменніцкія сям'і.

Тым не менш, да гэтага часу не ўдалося высветліць, чаму ў праўленні капітальнага будаўніцтва так бесцырымонна і нахабна пазбавілі астатніх пісьменнікаў жылля. Спрабуюць тлумачыць гэтую трагічную сітуацыю тым, што нібыта ўсё «прашляпілі» службы нашага Літфонду. Мая думка, як, дарэчы, і старшыні СПБ В. Зуёнка: нягледзячы на адсутнасць нейкага спецыяльнага закона па індэксацыі, мы павінны памагчы так недарэчна пацярпелым пісьменнікам, у першую чаргу — матэрыяльна, як толькі можам. Першачарговасць на атрыманне кватэр за імі застаецца: яна была пацверджана праўленнем Беллітфонду.

І ўсё ж закончыць выступленне мне хацелася б на больш аптымістычнай ноце.

Адносна «Іслачы». Не вытрымаўшы фінансавых расходаў, былое Міністэрства культуры скасавала ў аднабаковым парадку дагавор, які быў заключаны на пяць гадоў, і паставіла Беллітфонд у страшэнна цяжкія ўмовы: як утрымаць Дом творчасці ў зімовы перыяд? Дзе ўзяць грошай на паліва, якое каштуе мільёны? І тут я павінен сказаць шчыры дзякуй А. Дудараву: ён падказаў адзінае на той час выйсце. Мы падпісалі пагадненне аб стварэнні аб'яднанага кіраўніцтва і пансіяната «Тэатральны» і Дома творчасці «Іслач». Рупныя кіраўнікі пансіяната не далі загінуць Дому творчасці. Знайшлі паліва, праявілі ініцыятыву, як прыцягнуць у Дом творчасці адпачываючых. Выстаялі да вясны. Цяпер — працэй. Дзякуючы ініцыятыве генеральнага дырэктара нашага аб'яднання С. Лысухі месцы амаль усе ў «Іслачы» запоўнены.

Пісьменніцкая паліклініка будзе таксама выратавана, дзякуючы аб'яднанню медпарсанала «Іслачы» і паліклінікі ў адзіны лячэбны блок. Знімецца балючае пытанне з аплатай працы медыкаў, будзе ліквідаваны наш «зубны боль» у прамым і пераносным сэнсе: неўзабаве — пасля рамонту паліклінікі — плануецца абсталяваць у ёй зубапратэзны кабінет...

І — галоўнае. З мая месяца пачынаецца прыём пісьменнікаў у санаторый-прафілакторый, які створаны на базе «Іслачы». Мы будзем мець штомесячна 27 пуцёвак, з якіх 10 — пацыпрацэнтных.

Што ж тычыцца нашага кафэ, то і тут апошнім часам ёсць станоўчыя зрухі: прыбытак, атрыманы за кошт багатых наведвальнікаў, памагае пакуль утрымліваць паліклініку. Але гэтага, безумоўна, недастаткова. Можна — і трэба — наладзіць лепш работу кафэ, прыцягнуць да працы ў ім кваліфікаваных спецыялістаў, разгарнуць рэкламу.

Хачу яшчэ праінфармаваць вас аб нашых адносінах з Міжнародным Літфондам. Нядаўна мы, члены савета Міжнароднага Літфонду ад нашай арганізацыі, Н. Пашкевіч, У. Някляеў і я, вярнуліся з Масквы, з пленума. Па сутнасці, на ім разглядаліся вынікі працы Міжнароднага Літфонду. Крымскія дамы творчасці застаюцца, і сёлета мы атрымаем некалькі льготных пуцёвак. Вяліся перамовы і накот дапамогі. Абяцаюць нам пакуль мільён расійскіх рублёў. І яшчэ адна навіна: праз год наш беларускі прадстаўнік зойме месца намесніка старшыні Міжнароднага Літфонду. Сёлета мы ўступілі гэта месца Украіне — у яе ёсць пытанні, якія трэба прапрацаваць накот дамоў творчасці.

# ПРА НАШУ ЧАЛАВЕЧУЮ І НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ГОДНАСЦЬ

## ВЫСТУПЛЕННЕ НІЛА ГІЛЕВІЧА

Паважаныя калегі!

Мы зноў, як і мінулы раз, сабраліся ў жалобныя дні ўгодкаў чарнобыльскай трагедыі. Думаю, што гэты наш незагойны боль дадаткова абавязвае нас весці размову пра рэчы першаступеннай важнасці. Вядома, на з'ездзе пісьменнікаў трэба гаварыць па літаратуру, пра творчыя набыткі апошняга часу, пра новыя цікавыя кнігі, новыя імёны. Гэта натуральна. Літаратура — наша жыццё, наш прафесійны клопат, наш адметны ад іншых спосаб рэалізацыі сваіх прыродных, з Божай ласкі, магчымасцей, кажучы высокім стылем — наш спосаб служэння Бацькаўшчыне. І калі нешта характэрнае пра сённяшні дзень нашай літаратуры будзе з трыбуны з'езда сказана — той дай Божа! Гэта будзе вельмі добра.

Асабіста я мушу некалькі слоў сказаць пра нашу чалавечую і нацыянальную годнасць. Увогуле пра гэта мы гаворым шмат — і ў прэсе, і па радыё, і з блакітнага экрана. Вядома ж, і ў мастацкіх рэчах таксама. Але нярэдка гаворым з нейкім перакосам, змяшчаючы акцэнты з момантаў прыватных на агульныя, на ўсё супольнае мноства.

Іншы раз мы так абагульняем, як быццам нацыянальнай годнасці ў нас, беларусаў, няма наогул, у тым ліку — і ў нашым пісьменніцкім асяроддзі. Але ж гэта няпраўда! Ёсць яно ў нас, пачуццё ўласнай годнасці, ёсць — і самапрыніжэннем, ці, прабачце, самааплёўваннем займацца не трэба. Ва ўсякім разе, у народзе, у большасці нашых простых людзей, гэтага пачуцця дастаткова, — намнога больш, чым некаторыя думаюць.



*Аляксандр ДРАКАХРУСТ і Навум КІСЛІК*

Годнасці — і чалавечай, і нацыянальнай — бракуе не народу, а тым, хто яго ашуквае, хто яго абдзірае да апошняй ніткі, хто на яго страшным збядненні, на нястачах і паўгалодным існаванні, на знясіленні і хваробах ладзіць сабе раскошнае жыццё, будуе сабе белакаменныя палацы, скупляе дзяржаўную, г. зн., народную маёмасць.

Годнасці бракуе тым, хто, узурпіраваўшы ўладу, прыкладае сёння намаганні, каб пазбавіць наш народ права самастойна распараджацца сваім жыццём, сваім лёсам.

У сувязі са сказаным вельмі хацелася б, каб у гэтай зале нічый голас не сарваўся на ўзровень, што ніжэй пісьменніцкай і чалавечай годнасці, на тое прыватна-дробязнае, што нашага брата, проста кажучы, не ўпрыгожвае. Давайце пазбегнем гэтага — хоць бы перад тварам той небяспекі, аб якой я толькі што гаварыў. Той вялікай небяспекі, якая можа стаць для нашага народа вялікай бядой, — калі яе не адолець, не адхіліць агульнымі сіламі.

Сёння ўжо можна з усёй пэўнасцю сказаць, што мы паспяшаліся парадавацца таму, як лёгка нам дастаўся дзяржаўны суверэнітэт. Так бы мовіць: перамога без бою. Па-першае, няпраўда, што лёгка. Да гэтай гістарычнай падзеі — абвяшчэння Беларусі незалежнай дзяржавай — наш народ ішоў стагоддзі і ішоў праз незлічоныя выпрабаванні, пакуты і ахвяры. І праз бітвы таксама. Па-другое, палітычная сітуацыя складваецца ў краіне такая, што ўсе цяжкасці і выпрабаванні, без якіх не здабываецца свабода, могуць нас чакаць наперадзе і ў самы блізкі час, таму што сілы супрацьлеглыя незалежнаму становішчу Беларусі не змірыліся і прымаюць рашучыя дзеянні, каб павярнуць кола гісторыі назад. Пры гэтым дэманструецца нейкая, я сказаў бы, цынічная клаунада, калі ўсю грамаду народу прымаюць за малых някемных дзяцей.

Ну сапраўды: перадаць пад верхавенства іншай дзяржавы сваю ўласную грашовую сістэму, свой нацыянальны бюджэт, мытную сістэму, пазбавіць сваёй уласнай валюты, зрабіць свой Нацыянальны банк філіялам Нацыянальнага банка гэтай іншай дзяржавы — і пасля гэтага з усіх трыбун заяўляць, што суверэнітэт нашай рэспублікі нітрохі ад гэтых антыдзяржаўных акцый не цярпіць і што ўсё гэта ў нацыянальных інтарэсах Беларусі!

Іншымі словамі: ідзіце добраахвотна ў няволю — там вам будзе лепш. Пры гэтым — растапчыце ўласную, толькі што прынятую Канстытуцыю. І гэта пасля таго, як нашу незалежную дзяржаву прызнаў і прывітаў амаль увесь свет!..

Ні ў кога не павінна заставацца сумненняў, што задумана інкарпарацыя Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі. Калі нашы дзяржаўныя мужы адкрыта не гавораць пра гэта — пра палітычны вынік падпісання маскоўскага дагавору, — то многія расійскія палітыкі і журналісты ніякага сакрэту з гэтага не робяць і пляскаюць у ладкі, што Расія і Беларусь аб'ядноўваюцца ў адну дзяржаву — як некалі Вялікае княства і Польшча ў Рэч Паспалітую.

Ведаю, што нашым бедным народам, у якога выматалі ўсю душу, публічныя звароты інтэлігенцыі да яго сёння ўжо не ўспрымаюцца, людзі страцілі да іх чуйнасць. І тым не менш, лічу, што наш з'езд павінен у гэтай палітычнай сітуацыі зрабіць адпаведны зварот да ўсёй грамадскасці рэспублікі.

Мы павінны звярнуцца да народа з заклікам, каб ён пастаяў за сваю нацыянальную годнасць, не даў растаптаць яе. У гэтым жа звароце адрасавацца і да грамадзян Расіі, да рускай інтэлігенцыі ў першую чаргу — са спадзяваннем, што нашы рускія браты зразумеюць і падтрымаюць нас. Падтрымаюць і тым самым засведчаць сваю добрую волю, сваю шляхетнасць і сваю братнюю павагу да Беларусі.

На гэтым я і канчаю свае слова. Калі хто паспеў падумаць: «а што ж ён на гэты раз нічога пра нашу родную мову не сказаў», то паспяшаюся. Скажу і пра мову. Праўда, толькі адну фразу. Дакладней — адно да вас усіх пытанне: ці чулі вы, каб дзе-небудзь у свеце прэзідэнт незалежнай дзяржавы не валодаў дзяржаўнай мовай гэтай сваёй дзяржавы — мовай народа, якому ён бацька і правадыр? Калі нам, беларусам, не хапіла зведанай за стагоддзі ганьбы — то мы можам зведаць яшчэ і гэтую.

## XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

# БЕЛАРУСЬ У НЕБЯСПЕЦЫ!

### З ВЫСТУПЛЕННЯ АЛЕГА ЛОЙКІ

Мы, пісьменнікі Беларусі — не дэпутаты-абраннікі народа, але мы, можа, у няменшай ступені і абраннікі, і што ад народа — гэта таксама. Хіба не ў меншай ступені? Абраннікі мы па лёсу, па наканаванасці, бо пісьменнікамі нарадзіліся, сталі імі дарам прыроды, дарам Божым, дарам бацькоў нашых і прашчураў, і тут ужо, можна сказаць, што і ўласна дарам народа. А што пісьменнікі выражаюць народ, нацыянальны характар, ды і геаграфічна з хатаў і муроў усёй цэлай Беларусі, таксама ж не трэба даказваць, як і званні народных паэтаў і пісьменнікаў нашаму брату ўрады даюць таксама ж нездарма...

Чаму ж я тут сёння нібы з самалюбавання, з самарэкламы пачынаю? Збег абставін! Ён, збег абставін, вымушае!

Справа ў тым, што ў гэтыя ж хвіліны працуе і Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, і мы не можам не легчы з ім як бы на паралельны курс, бо разумеем, што якімі б важнымі ні былі нашыя спецыфічныя пісьменніцкія клопаты, справы, якія будуць разглядацца ці ўжо разглядаюцца на сённяшнім пасяджэнні Вярхоўнага Савета, куды вышэй нашых, бо ад іх вырашэння будзе залежаць не толькі лёс пісьменнікаў Беларусі, беларускай літаратуры і культуры, а ўвогуле лёс Беларусі і яе народа, перш за ўсё гістарычны лёс беларусаў.

Можа, хто скажа, што гэта — умешванне не ў свае справы. У свае, — скажам мы, — і тым больш мы не можам не ўмешвацца ў іх, калі ўжо адбылося ўмяшанне ва ўнутраныя справы суверэннай Рэспублікі Беларусь з боку Расіі, калі галава Саўміна РБ падпісаў пагадненне з ёю, несуадпаведнае з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, зусім нядаўна нашым парламентам прынятай.

Рэспубліка Беларусь — у небяспецы. Пад пагрозай яе незалежнасць, суверэнітэт. Справа даходзіць да інкарпарацыі Беларусі Расіяй, справа ідзе аб праднамераным адмаўленні сённяшняга вышэйшага эшалона ўлады РБ як нацыянальнай дзяржавы. Свядома ім выбар робіцца ў карысць каланіяльнага, пад'ярэмнага, падкаманднага статуса для беларускай зямлі і ўсіх, хто яе насяляе. Ідзе здрада нацыянальнай, дэмакратычнай ідэі, угрунтоўваецца найвялікшая бяда для беларускага народа — адбіранне ад нас самастойнасці, абрынанне нас у гаспадарчы хаос, які пануе ў Расіі, асуджэнне нас на несумненна цяжэйшае эканамічнае жыццё. І трэба спыніць гэтую здраду, спыніць выкрыццём яе, раскрыццём усіх падманных міфаў, якімі натхняльнікі і творцы здрады прыкрываюцца.

Сёння задача суперважнасці — сарваць замах на эканамічную аснову суверэнітэту нашай дзяржавы — на Нацыянальны банк Беларусі. Сёння задача той жа суперважнасці — не дапусціць крамзання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, стаўшай ужо для Беларусі законам. І пісьменнікі сёння сваёй першай суперзадачай павінны паставіць адхіленне пагрозы нацыянальнай здрады, заявіць пра яе на ўсю Беларусь, каб скрозь і ўсюды пра яе ўсенародна чулася, усенародна гаварылася.

«Не!» — здрадзе будаўніцтва суверэннай Рэспублікі Беларусь. «Не!» — здрадзе ідэалам Беларускага Адраджэння! «Не!» — інкарпарацыі Беларусі Расіяй — згубе беларускага народа, беларускай мовы і культуры, беларускай літаратуры!

Выказваючы сваё катэгарычнае ўсёпісьменніцкае асуджэнне здрадлівых махінацыяў першаўладных структур Рэспублікі Беларусь, мы, пісьменнікі, павінны заклікаць падтрымаць яго і ўсе творчыя саюзы Рэспублікі Беларусь, каб яно стала выявай агульнай пазіцыі ўсёй творчай інтэлігенцыі Беларусі, каб яно стала і пачаткам выявы ўсебеларускага, усенароднага адмаўлення, ганьбавання, непрыняцця ліквідацыі і ліквідатараў суверэнітэту Беларусі.

# ПРА ЗАНЯПАД ГАВАРЫЦЬ НЕ ВАРТА

### З ВЫСТУПЛЕННЯ ГЕНРЫХА ДАЛІДОВІЧА

«Вось ужо трыццаць гадоў як я пішу і за ўсе гэтыя трыццаць гадоў мяне пастаянна і шмат разоў уражвае адно цікавае назіранне. Усе нашы крытыкі.., і былыя, і цяперашнія, усе адным словам, якіх я толькі ведаю, ледзь толькі пачыналі... якую-небудзь справаздачу пра сучасную... літаратуру, то заўсёды ўжывалі, больш ці менш, але з вялікай любоўю, усё адну і тую ж фразу: «У наш час, калі літаратура ў такім заняпадзе...»

Вось так пісаў болей стагоддзя таму вялікі Дастаеўскі ў сваім славутым «Дзённіку». Далей ён працягваў: «На тысячы ладоў адна і тая ж думка. А па сутнасці за ўсе гэтыя сорак гадоў з'явіліся апошнія творы Пушкіна, пачаў і скончыў пісаць Гогаль, з'явіліся Астроўскі, Тургенеў, Ганчароў і яшчэ чалавек дзесяць, ва ўсякім выпадку, вельмі таленавітых белетрыстаў...»

У гэтым сэнсе, безумоўна, трэба згадзіцца з дакладчыкамі, што ў нас таксама няма небяспечнага заняпаду літаратуры, Саюза пісьменнікаў, выдавецтваў і часопісаў, аўтарытэту літаратара і г.д. Але супакойвацца не варта. Нам трэба яшчэ многае з нашай гісторыі і спрэчнай сучаснасці асэнсаваць па-новаму, пра многае напісаць, трэба павышаць патрабаванні да глыбейшага філасофска-псіхалагічнага ды мастацкага даследавання, імкнуцца да больш прафесійнага ўзроўню, трэба быць больш шчырымі, зычлівымі, актыўнымі, каб пісьменніцкі голас гучаў у грамадстве чутней і салідней.

Бясспрэчна, наш з'езд не дапусціць пустамоўя, высвенне асабістых і часамі дробязных крыўд, гульні, своечасова спыніць бузацёраў і буянства, якога было ўдосталь на мінулым з'ездзе, і накіруе гутарку на наша галоўнае: папершае, пра літаратуру, дзеля чаго мы, уласна, жывём і сабраліся вось тут, а па-другое, паразважаць, як нам усім не толькі ацалець, але і далей ды яшчэ лепш рабіць тое, што найперш запавечана нам, — спрыяць духоўнаму станаўленню нашага народа, нашай дзяржавы, што так цяжка, нібы не зусім здаровае дзіця, становіцца на ногі.

За перыяд паміж з'ездамі на самай справе, як і гаварылася ўжо ў дакладах, не давалі апасці паэтычнаму сцягу як старэйшыя, так і маладзейшыя — М.Танк, П.Панчанка, А.Вялюгін, Р.Барадулін, Н.Гілевіч, В.Вітка, А.Русецкі, В.Зуёнак, Г.Бураўкін, Ю.Свірка, С.Законнікаў, К.Камейша і іншыя паэты. Не можам належна не ўшанаваць тое, што і як рабілі празаікі: як, да слова, па-ранейшаму ў кароценькіх мініяцюрах Я.Брыль умее змяшчаць па сутнасці буйныя творы, даваць яркія ўзоры і бліскучай мовы; як у першым нумары «Полымя» за гэты год абнавіў сваю і для ўсёй нашай прозы тэматыку В.Быкаў; які творча актыўны І.Шамякін, ужо сёлета надрукаваўшы дзве аповесці са сваім асэнсаваннем нашага часу, долі старэйшых дзеячаў культуры ў ім; як падобраму ўзраслі як празаікі аповесцямі «Цыркачка і маёр» А.Асіпенка і «Уратуй ад нячысціка» В.Гардзей; як удала асвоілі раманны жанр М.Кусянкоў «Яварам і калінаю» ды У.Рубанаў «Не аднойчы забітым», пры гэтым варта звярнуць увагу на тое, як Рубанаў спрабуе абнавіць раманную форму, спалучаючы наш традыцыйны рэалізм з іншымі плынямі.

Нельга не заўважаць п'ес І.Чыгрынава, В.Адамчыка, А.Дударава, якія ўзялі свой удзел у даследаванні нашай гісторыі і, думаецца, неўзабаве разам з іншымі драматургамі свае даследаванні дадуць і пра нашу сучаснасць, што проста просіцца на сцэну і на экраны.

А хіба не паглыбілася наша літаратура ад шчымлівай «Споведзі» Л.Геніюш, гулагаўскіх аповесцей і апавяданняў С.Грахоўскага, В.Хомчанкі, П.Пруднікава ды з зайздроснай маладосцю напісаных вершаў А.Звонака? А насычаная фактамі і з нацыянальнай ідэяй «Старажытная Беларусь» М.Ермаловічам? А даўно чаканыя творы нашых замежных землякоў, для знаёмства з якімі так шмат зрабіў Б.Сачанка? А карпатлівая праца нашых літаратуразнаўцаў, перакладчыкаў? Усплёскі публіцыстыкі, сродкамі якой многія з нас былі проста абавязаны «вопить»? А лепшыя творы нашых рускамоўных сяброў?

Урэшце няўжо не можам парадавацца за першыя кнігі А.Наварыча, А.Казлова, А.Федарэнкі, А.Глобуса, М.Клімковіча, А.Сыса, І.Пракаповіча, братоў Дэбішаў, Б.Пятровіча і іншых, якія працуюць не толькі ў традыцыйным рэчышчы, але і намагаюцца асвоіць фантастыку, дэтэктывы, фантасмагорыю і, трэба сказаць, часамі на прыстойным узроўні?

Так што не варта гаварыць пра заняпад. Ёсць іншае — цяжкасці, праблемы, а то і пралікі. Але якое было б жыццё без гэтага? У тым ліку і для нашага асяроддзя?

Нам усім неабходна зрабіць усё, каб захаваць наш пісьменніцкі саюз, які даўно ўжо са сталінскай пабудовы ператварыўся ў жыццёва неабходны духоўны цэнтр. Ён ці наш Дом літаратара, мабыць, не быў і не стане нейкім райскім кутком, і не ў гэтым уся віна абранага намі ж кіраўніцтва на чале з В.Зуёнкам і У.Паўлавым, якім было нялёгка, тым больш, што і ў раі нерэальна, каб амаль 500 розных літаратараў сядзелі побач і вялі толькі анёльскія размовы. Задача наша, мабыць, іншая: і далей, паўторым, рабіць усё, што трэба, а рабіць пісьменніку сваё прыходзіцца найперш сам-насам, а лучнасць, прыемная забава — справа крыху іншая. Ды захоўваючы наш саюз як наша апірышча і нашу моц, нам трэба выправіць сваю ж памылку, калі большасць з нас, спасаваўшы перад бузацёрамі і іхнімі падманнымі абяцанкамі, дазволіла аддзяліць ад саюза Літфонд, і на чале яго неабходна абраць не проста добрага дзядзьку, а, мабыць, аднаго з намеснікаў старшыні Саюза пісьменнікаў, каб той мог працаваць не на аматарскім узроўні і не толькі на сябе. Новаму кіраўніцтву трэба абнавіць адносіны з уладай, бо яшчэ на пэўным этапе без дзяржаўнай падтрымкі ўсім нам, нашым выдавецтвам і часопісам не абысціся, як, зрэшты, сапраўднай дзяржаве не абысціся і без нас, варта больш падбаць пра абнаўленне сувязей з пісьменніцкімі саюзамі іншых краін.

Некалькі слоў пра нашы выданні, пра што ўжо гаварыў В.Зуёнак. Вось, напрыклад, часопіс «Маладосць». У 1992 годзе былы ЦК камсамола адмовіўся яе фінансаваць і выкінуў, як кажуць, на двор, лічачы, што можна абысціся і без маладых пісьменнікаў, без культуры. Ратуючы выданне, літдадатак да яго, працоўны калектыў «Маладосці» ў тым жа 1992 годзе пачаў рыхтавацца да самастойнай дзейнасці, для чаго прыняў свой статут (ён зацверджаны на бюро рады СП, на аснове яго адбылася рэгістрацыя ў Міністэрстве інфармацыі) і стаў адным з заснавальнікаў выдання. Прызнаюся, была нават задума гэты літдадатак, а гэта, як ведаеце, 12 кніжак у год, ахвяраваць на камерцыйныя мэты, а гэта значыць фактычна забраць яго ў маладых аўтараў, а то і загубіць.

Дзякуючы вытрымцы калектыву, падтрымцы старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, Міністэрства інфармацыі, а гэта, зразумела, і ўрада, «Маладосць» ацалела, выдае вось ужо 495-ы нумар-томік і 70-ю кніжку (на сёння больш 30-ці маладых аўтараў на аснове гэтых кніг сталі членамі СП). З усёй адказнасцю можна заявіць: ні адзін таленавіты твор як старэйшых, так і самых маладых літаратараў у рэдакцыі не адхілены, а, з другога боку, зроблена нямала, каб лепшыя традыцыі, узровень «Маладосці» не размыць, захаваць яе паўнакроўны, свежы твар саракагадовай маладзіцы. Зрэшты, аблічча кожнага выдання найперш залежыць ад узроўню твораў усіх, хто сядзіць у гэтай зале ці хто ў гэты час знаходзіцца за пісьмовым сталом.

Вось, бадай, і ўсё, што хацелася сказаць вам, падкрэсліўшы думку, што мы можам крытыкаваць іншых і сябе на дзесятак ладоў, але мы, дзякуй Богу, усё ж маем магутнае Дрэва Літаратуры, і яно, выцэрпліваючы ўсе нягоды, жыве і расце.



*У кулуарах з'езда — Васіль ВІТКА, Рыгор ШКРАБА і Эсфір ГУРЭВІЧ.*



*Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ і Галіна ТЫЧКА.*

# ЛІТАРАТУРА ЁСЦЬ ПРАФЕСІЯ

## З ВЫСТУПЛЕННЯ ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

За чатыры гады ад апошняга з'езда змянілася так шмат, што тады гэта цяжка было ўявіць. Цяпер, пасля эйфарыі адных і роспачы другіх, усе пагалоўна займаюцца «выжыванием». Але праблема ў тым, што тое, што было, ужо не выжыве, а на месцы таго, што было, павінна паўстаць або нешта другое, або застанецца пустка. Гэта датычыцца і нашага саюза.

У свой час нехта хітранькі зрабіў з літаратараў гэтак званую «эліту» — маўляў, хто паступіў у СП БССР, той ужо і разумнейшы за другіх, і таленавіцейшы, і нават паперку пра тое мае... Хіба то быў спосаб для «ціхіх» і «нешматлікіх» самім трапіць у якую-небудзь эліту. Бо хто з нас сапраўды адчуваў, што ён «элітны», каму не трапалі нервы высокія начальнікі і каго не абражалі радавыя хамы?! І каго калі абаранію саюз? І якім спосабам ён мог гэта зрабіць?

Саюз па сённяшні дзень называецца «творчай арганізацыяй». Што гэта значыць, не ведаюць нават юрысты. Яны разумеюць, што ёсць палітычная партыя, кааператыў, прафсаюз, дзяржаўная кантора і таму падобнае — няма ў гэтым краі такога паняцця, як «творчы саюз»! Але, калі без эмоцый, ці павінен ён быць? Не так даўно хваліліся, хто колькі выдаў кніг, якім накладам, якога памеру і ў колькі аркушаў. Ці мае тое якое-небудзь значэнне? У Багушэвіча выйшлі дзве кніжкі, у Багдановіча — адна. А дацягніся да іх! А з другога боку, у аб'ядванні «вольных літаратараў» пры газеце «Гродзенская праўда» ёсць такі даволі сталага веку хлопец, які лічыць сябе першым пісьменнікам Беларусі, таму што ён падлічыў колькасць сваіх надрукаваных радкоў, перамножыў на колькасць асобнікаў газеты за пятнаццаць гадоў — і выйшла, што яго тут больш за ўсіх друкавалі! Другая бездар, якая там жа друкавала нейкія калгасна-крымінальныя гісторыі пра крадзёж трусоў з плоту і мястачковых Аніськіных, цяпер рвецца ў «Саюз пісьменнікаў Беларусі» — зазвяжце, *Беларусі!* — і адначасова гаворыць афіцэру з прэс-групы абласной міліцыі, што «он больше с ним не разговаривает, потому что зачем разговаривать на этом мужицком языке»... І аргументуе таксама тым, што ён «много печатался в Москве»!

А калі гаварыць паважна, то літаратура ёсць прафесія, а літаратар ёсць прафесіянал. А таму СП Беларусі мае быць *прафесійным саюзам*, «прафсаюзам», гэтаксама, як хімікаў ці энергетыкаў — а ніякім не «творчым» ці «элітарным». Літаратура сёння ёсць не толькі творчасць, але і проста вытворчасць, прамысловасць. І паўстае пытанне: ці можа быць членам саюза не аўтар, але рэдактар? Карэктар? Дырэктар выдавецтва? Журналіст? Крытык? Выкладчык?.. Талковы рэдактар лепш за 10 бяздарных аўтараў, талковы дырэктар выдавецтва лепш за сотню... Дарэчы, думаю, што «неэлітарнасць» СП Беларусі настрашыць зусім не тых, хто ўваўшоў у літаратуру, а тых, хто прагнуў увайсці ў СП і каго літаратура ўвогуле мала цікавіць. Сягоння гэта выглядае вельмі смешна, бо дзе тыя льготы, выгоды і т.п., як раней? Таму я — за Саюз пісьменнікаў Беларусі, але не за г.зв. «эліту», «творчую суполку» ці «клуб па інтарэсах», а за просты звычайны прафсаюз, які б рэальна абараняў ці хоць вучыўся б абараняць нашы *прафесійныя* інтарэсы. У гэтым плане я абсалютна згодна з нядаўнім інтэрв'ю Васіля Зуёнка газеце «ЛіМ», дзе сказана, што разганяць, распускаць і разваліваць «старыя структуры» хочуць адны дылетанты, а яшчэ дакладней, тыя дылетанты, хто самі хацелі ў той «пракляты саюз», але, як кажуць браты з усходу, «увы-ы!»...

Цяпер, раз я правінцыялка, то крыху скажу пра правінцыю. Аддзяленні на правінцыі апынуліся ў нейкай дзіўнай сітуацыі: па-першае, цэлы час нейкія панначкі з «налоговых инспекций» стала высвятляюць, «сколько у вас драгметаллов», цэлы час цягаецца нейкая міліцыя і пытаецца, «есть ли у вас разрешение?» (ну, тут трэба разумець, што пан Мяфр прысягаў Рэспубліцы Беларусь і бярэ з яе грошы, але сам служыць сваёй бабе-кааператарцы, якая за нешта зазлавала на «этот хамский язык»); па-другое, правінцыйныя аддзяленніператвораны ў нейкія прыёмнікі для «бомжаў» ад літаратуры — у любы дзень і ў кожны час можа явіцца любы графаман, патрабаваць, каб яго тэрмінова выдалі, накіравалі, прынялі, надрукавалі і г.д. — а калі не, то ён пачынае скардзіцца ў раду СП у Мінску, а таксама (вельмі цікава!) у мясцовыя аддзелы культуры, адукацыі, камунальнай гаспадаркі і нават унутраных спраў. З пачатку года такіх геніяў у мяне было сем. У сувязі ж з беспрацоўем, думаю, будзе больш. Таму пытаю: чаму гэта можна прыйсці і выліць увесь бруд у аддзяленне СП, чаму гэта мы ўсіх баімся, чаму самі сябе не паважаем, чаму самі на сябе з задавальненнем чытаем даносы? На Дануту пішуць?! Дык сёння — на Дануту, заўтра будзе другі, і другі атрымае сваё. Таму што мы самі прывучылі бездар сядаць нам на галаву. Да якога часу мы будзем няньчыцца з графаманамі і бездарамі? Хопіць ужо слухаць аргументы: «Если моей жене нравится, то почему вам не нравится и куда на вас можно пожаловаться?»..

Трэцяя справа. Так, няма сродкаў. Але так іх ніколі не будзе! Як гэта можна ў Гародні і вобласці «зарабляць», як нам раяць, калі кожны чыноўнік ведае, што аддзяленне існуе на птушыных правах, што нам фактычна забаронена нават карыстацца тэлефонам (няма чым плаціць), што праблемы ўзнікаюць за 10—15 тыс. рублёў і т.п. Куды ісці і з кім гаварыць, як пісаў класік, калі кожны дурань кідае табе ў твар: «Опять эти нищие писатели притянулись!» Гавару што пра прыватныя банкі, што пра дзяржаўныя канторы, — няма розніцы. З жабракамі ніхто не гаворыць і не будзе гаварыць, а таму выстаўляць сябе жабракамі — глупства. Ратунак-спонсар павінен сам з'явіцца, яго не выбіраць...

І апошняе. Паводле статута ў аддзяленні мае быць не менш 10 чалавек — чаму?! Чаму аддзяленне мае быць нейкім недарослым падабенствам рады?! У цяперашняй сітуацыі гэта прадстаўніцтва рады на месцы. А сёмы «закон Паркінсона» гаворыць: «цэнтральныя канторы паміраюць на другі дзень пасля філіялаў»... Вядома, каб ратаваць апарат на Фрунзе і персанал у «Іслачы», нас можна паразганяць хоць заўтра, але не забывайце: законы Паркінсона працуюць гэтак жа, як і законы фізікі — бездамоўна!

Наша слабізна бачна ў Гародні лепш, чым у другім месцы. Кнігі сюды не даходзяць, «торгі» завалены парнаграфіяй, магіяй і таму падобным паскудствам, практычна няма аніякай літаратуры... А тым часам «зьвёнзэк полякув» штомесяц дастае яшчэ не вагонамі, але ўжо аўтафурамі кніжкі і кніжкі з пані Варшавы. А Мінск аж хваліецца за «паланізацыю» і выдае гродзенцам строгія вымовы, што дрэнна з ёй змагаюцца. Якім то чынам?! Дзе што ні скажаш, то чуеш: «А вам какое дело?! Ваш союз молчит, министерство культуры молчит, и Вячеслав Францевич не возражает...»

Калі мы гаворым не проста так і пасля з'езда сапраўды будзе нейкая рэарганізацыя, то думаю, што, апрОч лібералізацыі статута, варта заняцца і ўмацаваннем прадстаўніцтваў СП на месцах, — не аддзяленняў, а менавіта прадстаўніцтваў рады! Апроч мінімуму сродкаў, яны павінна атрымаць хоць па стаўцы-дзве сталых супрацоўнікаў-рэферэнтаў, каб маглі ўзяць на сябе рэгулярны агляд літаратурнай работы і кнігагандлю ў сваім рэгіёне, праведзенне юбілейных вечарын, сустрэч, прэзентацый кніг і г.д.

# СВЕТЛЫМ ЦЕНЕМ НА ЧОРНАЙ СЦЯНЕ

## ВЫСТУПЛЕННЕ ВЯЧАСЛАВА АДАМЧЫКА

Ад людных задушлівых тралейбусаў да куртатых газетак з беларускімі назвамі і чамусьці іншамоўнымі тэкстамі пад імі, нашкталт пісаніны Сарокіна і Някрасава, астатнім часам ідзе запальчывая спрэчка вакол дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм, які падпісалі прэм'еры Расіі і Беларусі (астатні, заўважым, быў нават парушаючы Канстытуцыю сваёй дзяржавы).

Расійская прэса, адзначаючы гэты факт, здзекліва пасмейваючыся і паблажліва пацяшаючыся з беларусаў, як з маленькіх, пісала: «Белоруссия обменяла часть своего суверенитета на российские рубли» («Известия»). І гэтая ж газета «Известия» заўважыла: «... значит, Нацбанк Белоруссии утрачивает свое право на самостоятельную кредитную и денежную эмиссию и становится чем-то вроде Нацбанка Татарии». І далей: «Россия в обмен получает бесплатный транзит через территорию Белоруссии и бесплатную аренду военных стратегических объектов».

Я на гэты конт скажу, ці, праўдзівей, паўтару сказанае знакамітым энцыклапедыстам і мысліцелем-вальнадумцам перадрэвалюцыйнай Францыі, асветнікам Дзідро, які якраз 220 гадоў назад наведаў Расію. Вось яго зайвагі на кацярынінскі Наказ: «Нацыя, якая не ўмее суаднесці колькасць выпусканых папяровых грошай з колькасцю свае звонкае манеты, рызыкуе разрабаваць самую сябе і палавіну сваіх суграмадзян». І далей ён заўважае: «Будынкі разбураюцца, мармур дае трэшчыны, бронза распадаецца, але праз тысячы гадоў пасля таго, як сама нацыя знікае, знаходзяць у зямлі і выдабываюць адтуль манеты. Таму варта паклапаціцца, каб манеты былі прыгожыя... Пасля манет найбольш трывалымі з'яўляюцца будынкі. Унушальнае і прыгожае збудаванне не толькі робіць гонар народу, але і прыносіць яму карысць...»

На жаль, наш урад не хоча мець ні ўласнай прыгожай манеты, якую пасля нас маглі б знайсці нашы нашчадкі, як нараіў Дзідро, ні прыгожых збудаванняў, якія маюць Парыж, Нью-Йорк, Токіо. Ды нашы аднастайна-шэрыя дамы, найбольш знакамітыя хрушчобы, дзе жывуць збяднелыя, але працавітыя і сумленныя людзі, могуць, барані Божа, ператварыцца ў чорныя і мёртвыя руіны, і на абломках разбітых гмахаў, на крыгах сценаў застануцца ад нас толькі невыразна-мутныя цені, як засталіся яны на абломках горада ад людскіх цел шматпакутнай Хірасімы, калі 6 жніўня 1945 года на яе ўпала першая атамная бомба.

Няхай жа не ядзерныя прамені прасвецяць нас, пакідаючы на сценах будынкаў нашы сілуэты, а няхай нас абагрfavаюць толькі прамені Божыя! Няхай наш народ не ведае болей вайны, гвалту, забойства і чорнага атрутнага і заражанага дыму!

Мы сабраліся тут, каб гаварыць пра слова, што было напачатку, але мусім гаварыць пра жыццё, што ёсць працягам святога, узвышанага слова.

Мы жывём у пару непаўторнага аднаўлення свае прымусова забытае гістарычнае дзяржаўнасці, свае стаптанае і зняважанае мовы — мовы, якой пісаўся Літоўскі Статут; нарэшце свайго ўласнага гонару, што мы ёсць нацыя, што мы ёсць паўнакроўны рэальны народ.

Праўда, наш яшчэ нясмелы, няўпэўнены і неманаліты крок да адраджэння могуць захапіць тыя, хто, пагарджаючы воляй і памкненнем свядомых людзей, падпісвае дамовы на размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі іншаземнай стратэгічнай зброі. Тры заград-паласы: Магілёў—Орша—Віцебск; Паставы—Мінск—Слуцк; Ліда—Дзятлава-Баранавічы, на якіх вострымі іклаамі ашчэрыліся расійскія ракеты, нясуць найвялікшую неўгаданую шкоду нашай незалежнай Беларусі, беларускаму народу. Бо мы ведаем, што ядзерная зброя пры сённяшнім бязмежным лайдацтве, п'янстве, дзікай бездаказнасці, нізкай тэхнічнай бяспецы робіцца грознай найперш для той тэрыторыі, на якой яна размешчана. Бо мы ведаем, што будучыня нашага народа перагароджана не адным, а некалькімі вогненнымі і забойнымі чарнобылямі.

Кажуць, што яны, ракеты, пастаўлены на нулявы прыцэл і, значыць, узарвуцца ў выпадку чаго толькі на шматпакутнай беларускай зямлі.

І, вядома, паўстае заканамернае пытанне: чаму коштам нашых жыццяў, цаною беларускага народа хоча абараніцца іншаземная дзяржава, забяспечыць жыццё сваіх грамадзян і свае границы?

Мы помнім пакт Рыбентропа—Молатава, мы ведаем, як быў непамерна насычаны жывою сілаю, гарматамі, танкамі, самалётамі «особый Белорусский округ», а скончылася ўсё вялікай трагедыяй для нашага народа: загінуў кожны чацвёрты.

Мы, беларусы, як ні адзін з усіх славянскіх і неславянскіх народаў, нікому не прычынілі шкоды і зла, а пацярпелі найбольш. Нас усё толькі дзялілі, «нас не спытаўшы», як сказаў класік.

Дзве вайны, страты, панесеныя беларускім народам у гэтым стагоддзі, нават без нашага вымаўленага слова ўжо заяўляюць пра тое, каб з тэрыторыі Беларусі была вывезена стратэгічная зброя суседняй дзяржавы.

Над беларускім народам не павінен вісець дамоклаў меч! І прэч з беларускай зямлі небяспечная зброя, якая нясе бяду ўсяму чалавецтву, а найперш беларускаму шматпакутнаму народу!

На свеце неспакойна. Тлее бікфордаў шнур, што можа натрапіць на толавую шашку новай сусветнай вайны: то на Каўказе, то на Блізкім Усходзе, то ў Босніі ўспыхваюць крывавыя бойкі. Але мяне найбольш трывожыць украінска-расійскі канфлікт. Таго, каго гняце настальгія па былой імперыі, хто ходзіць па вастрыі нажа, хто хоча набыць цаною крыві аўтарытэт гаўляйтэра, той намагаецца любымі сродкамі справакаваць ваенную сутычку паміж Расіяй і Украінай.

Дык я пытаюся сёння: супраць каго нацэлены тыя ракеты, што трыма ранамі распалазвалі цела Беларусі? Дык прэч іх з нашай святой і пакутнай зямлі! Яшчэ раз кажу: мы не павінны застацца светлым ценем на чорнай сцяне абпаленай і абломленай чужынцамі нашай гісторыі.

Ёсць нарэшце пільная неабходнасць ад імя нашага з'езда, ад імя беларускай інтэлігенцыі звярнуцца да ўрада Беларусі, да ўрадаў суседніх дзяржаў Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, да ААН аб вывадзе ядзернай зброі з Беларусі. Мы павінны, што таго б ні каштавала, зберагчы ад знішчэння беларускі народ!

Мусім!
Павінны!

# БЕЛАРУСЬ СЁННЯ ПРАДАЮЦЬ...

## ВЫСТУПЛЕННЕ КАСТУСЯ ЦВІРКІ

На пісьменніцкім з'ездзе нам трэба было б, на добры лад, абмяркоўваць толькі творчыя пытанні. Наспела іх нямала. Перадусім трэба было б разам нам паглядзець, што зроблена пасля апошняга з'езда. Кожны ж хацеў бы пачуць шчырае слова пра сваю працу. Мне здаецца, мы яшчэ не навучыліся па-сапраўднаму радавацца творчым набыткам сяброў.

Нам трэба было б шчыра паразважаць і пра тое, што перашкаджае сёння развіццю нашай літаратуры. Напрыклад, пра важнейшы чыннік літаратурнага працэсу — крытыку. Яе ж па сутнасці ў нас няма — неабыякавай да таго, што выдаецца, прынцыповай і адначасна добразычлівай.

Ці шмат мы можам успомніць вострых, палемічных артыкулаў у перыёдыцы, усхваляваных рэцэнзій? Нейкі спакой, абыякавасць. У такой атмасферы надта ж добра адчуваецца шэрай, безаблічнай літаратуры, а часам і звычайнай халтуры. Поўны прастор тут і розным літаратурным дзялкам ды жулікам, асабліва тым, хто займае высокія выдавецкія пасады. Адгрэбаючы ўбок усё лепшае ў нашай літаратуры, асобныя з іх на вачах міністэрстваў і ведамстваў не саромеючыся закідваюць свет уласнымі нізкапробнымі тварэннямі.

Трэба, мусіць, гаварыць і пра грамадскую дзейнасць пісьменніка, ухваляць яе. Толькі як быць з тымі, хто выступае супраць нашай дзяржавы, супраць Беларусі, якой мы заклікаАны служыць — выступае супраць нашага нацыянальнага Адраджэння? Я маю на ўвазе тут створаную ў нетрах нашага саюза «Ассоциацию писателей-баталистов и маринистов», якая «ў купе» з самымі рэакцыйнымі сіламі актыўна вядзе барацьбу з «поднимающейся волной национализма», як пішацца ў лістоўках? Дзе ўбачылі гэтыя баталісты і маракі невядома якіх «морей» у нас нацыяналізм? У тым, што мы пачалі ўспамінаць сваю гісторыю, загаварылі на сваёй роднай мове?! Ці ж дзе ўдано яшчэ такога вось нацыяналіста быў вернай пуцёўкай у Курапаты? Наш саюз аб'ядноўвае пісьменнікаў розных палітычных поглядаў, членаў самых розных партый і рухаў. І гэта натуральна, з гэтым ніхто спрачацца не будзе. Але з боку ваяўнічых марыністаў і баталістаў мне бачыцца злавесны выклік усім нам, усяму

(Працяг на стар. 12)

# БЕЛАРУСЬ СЁННЯ ПРАДАЮЦЬ...

*(Пачатак на стар. 11)*

нашаму цярпліваму народу, выклік Беларусі. Таму я асабіста галасаваў бы пры нагодзе за выключэнне гэтакіх ваяроў з нашага мірнага саюза.

Нельга абысці нам у сваёй размове і нашы гаспадарчыя клопаты. Лічу недаравальным для нашага кіраўніцтва, што яно давяло да развалу паліклініку Літфонду. А ўзяць «Іслач». Толькі дзякуючы аднаму Дудараву ўдалося выратаваць наш Дом творчасці аб банкруцтва.

Усе нашы кіраўнікі — выдатныя пісьменнікі, цудоўныя хлопцы, але ж, відаць, не зусім здатныя арганізатары, гаспадарнікі. Таму, каб зрабіць наш саюз сапраўдным цэнтрам нацыянальнага Адраджэння, трэба нам выбраць у кіраўніцтва тых, хто праявіў ужо свае выдатныя арганізатарскія здольнасці ў новых, рыначных умовах... Сярод такіх я назваў бы, напрыклад, Барыса Сачанку, Аляксея Дударава, Яўгена Лецку, Анатоля Казловіча, Вольгу Іпатаву, Яўгена Будзінаса. Я ўжо не кажу пра пісьменнікаў — народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія вядуць на сесіях сапраўды гераічнае змаганне за Беларусь, яе культуру і мову.

У нас шмат ёсць пытанняў для абмеркавання і неадкладнага вырашэння. Але ўсе гэтыя пытанні адступаюць на задні план перад тым, што вытвараюць сёння з нашай дзяржавай тыя, хто воляй лёсу апынуўся каля яе руля. Мы добра ведаем з гісторыі, як усе народы на працягу многіх стагоддзяў са зброяй у руках змагаліся за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Чаму ім патрэбна гэтае вызваленне? Ды таму, што толькі свабодны чалавек, свабодны народ можа найлепшым чынам рэалізаваць свае творчыя магчымасці, праявіць сябе ў свеце. Незалежнасць — гэта першая, найважнейшая ўмова для працвітання любой краіны, любой нацыі.

Сёння ў выніку шматвекавога змагання беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць, стаў незалежны ад былых апекуноў-»дабрадзеяў». І вось цяпер былыя сакратары ЦК КПБ, якія самі сябе выбралі ў кіруючыя органы, дабраволька прадаюць нашу дзяржаўнасць, адным росчыркам пяра хочуць пакончыць з вялікай заваёвай нашага народа. Гэта не што іншае, як самае вялікае злачынства перад нашай шматпакутнай зямлёй.

Хто бачыў у гісторыі, каб якая-небудзь краіна сама адмаўлялася ад сваёй незалежнасці, ад свабоды — запаветнай мары ўсяго чалавецтва?! Ніхто не бачыў. Бо ад сваёй волі можа адмовіцца толькі «презренный» раб. Беларусь сёння прадаюць тыя сілы, якія ніколі не ўмелі ні думаць, ні гаспадарыць самастойна, якія прывыклі выконваць толькі ўказанні свайго гаспадара — усемагутнага ЦК КПСС.

Пазбавіўшыся гаспадара, беларускія халуі ізноў шукаюць яго пад тымі ж рубінавымі зорамі Крамля. Што ж, іх можна зразумець. Гэта ж там фармавалі, падбіралі нашу партыйную касту, там вышуквалі сярод дэнацыяналізаваных беларусаў верных сабе паслугачоў, адтуль жа прысылалі і сваіх наглядчыкаў ды душагубаў. Хіба ж у сённяшнім кіраўніцтве рэспублікі — прадстаўнікі нашага народа? Паглядзіце, як ваююць яны ў Вярхоўным Савеце супраць усяго, што дорага нашаму народу, супраць усяго беларускага! Ці не таму з гэтакай лёгкасцю і прадаюць яны Беларусь пад фарысейскія, разлічаныя на дзяцей, запэўніванні аб захаванні суверэнітэту.

Мая прапанова: ад імя з'езда пісьменнікаў выказаць самы рашучы пратэст камуністычным уладам Беларусі за гэтыя безадказныя, злачынныя дзеянні, прыняць адпаведны Зварот да народа.

# МОВА — ДУША НАША

## З ВЫСТУПЛЕННЯ ПАЎЛА ПРУДНІКАВА

Хацелася б спыніцца на двух балючых для ўсіх нас пытаннях. У апошні час цёмныя сілы павялі наступ на нашу родную мову. Пра гэта гаворыць змест урадавых газет, асабліва «Советской Белоруссии», а таксама некаторых тэле- і радыёперадач. Ворагаў беларушчыны апанаваў страх перад адраджэннем беларускай школы. Яны добра ведаюць, што адраджэнне мовы і наогул культуры менавіта пачынаецца з дашкольных і школьных устаноў. Вось гэта іх і напалохала.

Падумаць толькі, у беларускім парламенце нейкія сарокіны ўздымаюць пытанне аб прыцягненні да адказнасці міністра асветы і старшыні Камісіі ВС па адукацыі за тое, што яны згодна Закону аб мовах спрыяюць пераводу школ і дзіцячых устаноў краіны на родную мову. Дзіўна ўсё гэта. Дзіўна, але і ў той жа час страшна! Паспрабаваў бы генерал Сарокін, якога прытуліла і накарміла Беларусь, з такім пытаннем выступіць у парламенце адной з рэспублік Прыбалтыкі, Сярэдняй Азіі ці Закаўказзя!А ў нас яму нават у ладкі пляскалі. Хаця — чаму тут здзіўляцца? Як вядома, 80 працэнтаў нашага парламента складаюць былыя наменклатуршчыкі, большасць з якіх ніхто не выбіраў. У час абмеркавання і прыняцця новай Канстытуцыі РБ цэлы тыдзень дэпутаты тапталіся на артыкуле «Дзяржаўная мова». Як не хацелася ім пагадзіцца з тым, каб беларуская мова ў рэспубліцы была дзяржаўнай! Яны настойліва прапаноўвалі двухмоўе.

Добра вядома, рыба пачынае псавацца з галавы. Пацвярджае гэту прымаўку і парламент. Колькі чалавек размаўляе ў ім на дзяржаўнай мове? Адзінкі, якіх можна пералічыць на пальцах. Раней там у адносінах задаваў тон Старшыня — Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, які не прыйшоўся па густу партакратычнай большасці. Партакратаў палохалі дэмакратызм, сапраўдны патрыятызм і здаровы нацыяналізм Шушкевіча, і яны пазбавіліся ад яго з дапамогай «кухарчынага» сына. Цяпер там ціха. Ніхто не перашкаджае знішчаць беларускую мову на высокім узроўні, акрамя апазіцыі, канечне, і ператвараць незалежную рэспубліку ў расейскі бантустан. Эканамічнай незалежнасці ўрад нас ужо пазбавіў.



*Янка БРЫЛЬ і Анатоль ВЯЛЮГіН*

Я цалкам падзяляю трывогу Пімена Панчанкі наконт таго, што ў будучым беларускім пашпарце адсутнічае графа «нацыянальнасць», і разам з Ім пратэстую супраць такога вераломства. Гэта не што іншае, як хітры ход у агіднай справе па знішчэнні беларушчыны ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

Так, сапраўды, як далёка яшчэ нам да Беларусі!..

Другое, не менш балючае, пытанне, якое неабходна неадкладна вырашаць, гэта лёс нашай пісьменніцкай паліклінікі. У апошні час яна існуе, можна сказаць, выключна на падачках. Гэта паслужыла прычынай масавага звальнення кваліфікаваных работнікаў. Цяпер у ёй засталіся адны пенсіянеры. Але ж пенсіянеры — народ ненадзейны. Сёння яны будуць працаваць, а заўтра пададуць заявы на звальненне па стане здароўя. І паліклініка цалкам спыніць сваё існаванне, як спынілі дзейнасць лабараторыя, кабінет фізіятэрапіі, масажны кабінет.

І напрыканцы колькі слоў аб рабоце нашага кіраўніцтва, якое сёння адчытваецца перад намі. У яго адрас было шмат крытыкі — як адкрытай, так і закуліснай. І гэта заканамерна: крытыкуюць заўсёды таго, хто хоць што-небудзь ды робіць. А нашы кіраўнікі працавалі, хоць, вядома, не без памылак. Я не хачу сказаць, што кіраўнікі нашага саюза — «анёлы-херувімы». Але галоўнае тое, што яны ў нялёгкіх умовах нашага складанага часу не складвалі рук, а працавалі, вышуквалі сродкі для ўтрымання Дома літаратара, Дома творчасці «Іслач» і нашай гаротнай паліклінікі.

Галоўнае ж, што характарызуе кіраўніцтва СП, — яго выключны дэмакратызм. Дык няхай ён такім і надалей застаецца ў сценах нашага згуртавання!

# АБУДЖАЦЬ ПРАГУ ДУХОЎНАСЦІ

## З ВЫСТУПЛЕННЯ ЛЕАНІДА ЛЕВАНОВІЧА

Мы жывём у век суцэльнага дэфіцыту: не хапае грошай, тавараў, прадуктаў, часу, паперы... Хачу сказаць пра два галоўныя недахопы: дэфіцыт здароўя і дэфіцыт культуры.

Летась упершыню за апошнія дзесяцігоддзі ў Беларусі памерла людзей больш, чым нарадзілася. Прычыны? Гэта і Чарнобыль, і страшэнная дарагавізна, і неўладкаванасць маладых сем'яў, і беспрасветнасць сучаснага жыцця.

Гэта выклікае цяжкія, горкія, трагічныя пытанні. Мая суседка Гапка пражыла восемдзесят гадоў. А колькі будуць жыць нашы дзеці і ўнукі? Колькі і як будуць жыць тыя, хто зараз паяўляецца на свет. Пытанні, бы каменне, падаюць на душу. І хочацца крычаць: «Браткі, мы вымiраем! Беларуская нацыя ў небяспецы».

Не толькі радыяцыя нішчыць людзей. І ў так званых чыстых раёнах Віцебшчыны, Міншчыны, Гродзеншчыны ў вёсках зараз болей маладых удоў, чым пасля вайны. Косяць мужчын свая родненькая сівуха, замежны «Роял», косяць бескультур'е і безалабернасць: штодзень гінуць людзі ў агні, пад коламі машын на дарогах з-за сваёй і чужой неасцярожнасці. Расце колькасць наўмысных забойстваў, павялічваецца колькасць самагубстваў. На ўсё растуць цэны, адно — падае кошт жыцця чалавека. Зніжаецца кошт сумленнасці, годнасці, дабрыні, спагады.

Ужо некалькі гадоў я з'яўляюся засядацелем раённага суда. Колькі чаго я там нагледзеўся і наслухаўся! Судовыя працэсы штодзень сведчаць аб хваробе нашага грамадства.

Дажыліся мы да многага. Праспект Скарыны, праспект Машэрава спрэс застаўлены камерцыйнымі будкамі, у якіх сядзяць расфуфыраныя дзявіцы, крутыя хлопцы ў скуранках і жвакаюць бясконца, нібы жвачныя жывёлы. А побач нахабна лезуць у вочы будкі з кнігамі. Ды не абы-якімі: на кожнай вокладцы, прабачце, голая задніца. Прымаў рашэнне Мінскі гарсавет аб забароне парнаграфіі, але нічога не мяняецца. І зменіцца тады, калі перастануць купляць гэтую макулатуру. І мне здаецца, росквіт «галазадай» літаратуры канчаецца, мінскі рынак ёю перанасычаны, а кішэні аматараў ужо з дзіркамі. Большасць людзей, і літаратараў таксама, лічаць не даляры, а нашых «зайцоў» і «вавёрак», каб неяк звесці канцы з канцамі. Беларускую кнігу яшчэ бяруць: для сябе, для дзяцей, унукаў, бо як бы там ні было, а мова наша стала дзяржаўнай, і, трэба думаць, назаўсёды. Ёсць спадзяванне, што будзе расці нацыянальная свядомасць беларусаў, але дзеля гэтага трэба рабіць усё магчымае, не шкадуючы сілы, таленту і вопыту.

А цяпер пра культуру мовы, дакладней, бескультур'е. Моўнае бескультур'е кідаецца ў вочы на кожным кроку. І не толькі каверкаем родную мову, але і рускай дастаецца. Неяк пазваніў я ў адну ўстанову, спытаў, ці ёсць кіраўнік. Сакратарка адказала: «Вабшчэта ён тут, но вышэдшы». І смех, і грэх. Сакратарку чуюць адзінкі. Калі каверкае мову вадзіцель трамвая, яго чуюць тысячы. А калі радыё ці тэлебачанне — мільёны.

Напрыклад, народны артыст Беларусі чытае па радыё: такая скруха адолела... Я думаў, памыліўся чалавек, дык жа не — праз хвіліну зноў — скруха. І тут ужо мяне адолела сапраўдная скруха: гэтулькі гадоў жыве чалавек на Беларусі, гэткія тытулы мае, а прафесіяналам так і не стаў. Нездарма мудры Вядзьмак Лысагорскі пісаў:

**Быў век, быў час, была эпоха...**
**Калі другі артыст народны**
**Не знаў і двух народных слоў,**
**Затое меў тут харч нязводны**
**І ўволю цешыўся з аслоў...**

Дык ці не хопіць нам быць асламі? Можа, час гаспадарамі стаць у сваёй суверэннай дзяржаве! Калі б мы былі гаспадарамі, то не прайшлі б міма таго, што газета «Беларуская ніва» выходзіць на небеларускай мове. Што не мае выразнага нацыянальнага аблічча Тэатр оперы і балета. Між іншым, чаму не прысвоіць яму імя Максіма Багдановіча? Насупраць тэатра стаіць помнік, побач вуліца імя Багдановіча, дом, дзе ён жыў. На сцэнах нашых тэатраў рэдка ставяцца п'есы Купалы, Крапівы, зусім зніклі камедыі Макаёнка. Некалі, яшчэ ў застойныя гады славуты эстонскі рэжысёр Каарэл Ірд пісаў, што творы нацыянальнай драматургіі павінны займаць 90 працэнтаў рэпертуару, астатнія 10 — творы замежных аўтараў. А ў нас наадварот: 10 працэнтаў, для адчэпу, п'есы беларускіх аўтараў, а 90 — замежных.

Каб мы былі больш культурнымі гаспадарамі, то задумаліся б, чаму не выдаюцца кнігі беларускіх аўтараў у перакладзе на рускую мову. А між тым, у Маскве нас ніхто выдаваць не будзе, як раней гэта рабіў «Советский писатель». Калі б творы І.Мележа, В.Быкава не пабачылі свет на рускай мове, то мала хто ведаў бы іх у Еўропе, не кажучы пра Азію ці Амерыку.

У наш рыначны час вельмі важнае значэнне мае прапаганда твораў беларускіх аўтараў. На радыё літаратурныя перадачы выходзяць даволі часта, хоць, вядома, не ўсе яны адпавядаюць высокім патрабаванням. А вось на тэлебачанні літаратурных перадач вельмі мала. Некалі я працаваў на тэлебачанні і добра помню: штомесяц выходзілі «Літаратурная Беларусь», «Тэлебібліятэка». У ролі вядучых выступалі С.Грахоўскі, А.Грачанікаў, У.Някляеў, Я.Лецка. Былі аператыўныя перадачы «Навінкі кнігарні», «Пісьменнік і пяцігодка». Атрымліваецца, калі няма пяцігодак, то няма і пісьменнікаў, якія б выступалі з публіцыстычным словам.

Газеты амаль што перасталі друкаваць рэцэнзіі на новыя кнігі. Ды і часопісы адбываюцца агляднымі артыкуламі, у якіх немагчыма ахапіць, асэнсаваць усё, што выходзіць за год. Часам гэтыя артыкулы неаб'ектыўныя і тэндэнцыйныя.

У заключэнне скажу: наша галоўная задача цяпер — абуджаць у людзей прагу духоўнасці, любоў да жыцця, надзею на перамогу дабрыні і святла. У гэтым — наш святы абавязак перад беларускім народам. А народ мой, як некалі сказаў Максім Гарэцкі, народ — пясняр, народ — лірнік на працягу сваёй гісторыі заўсёды болей клапаціўся аб патрэбах душы, чым цела.

# ДУША БАЛІЦЬ...

## ВЫСТУПЛЕННЕ УЛАДЗІМІРА ДАМАШЭВІЧА

Восем гадоў назад гэтаю парою налучыла нас чарнобыльская бяда. Яе чорнае крыло вісіць над намі сёння і будзе вісець яшчэ доўга. Успомнім, што гэтая катастрофа адбылася праз 41 год пасля заканчэння вайны. Сорак першы год паўтарыўся яшчэ раз і паказаў, якія мы зноў былі непадрыхтаваныя да такой катастрофы, як і да вайны ў 41-ым. І зноў за чыесьці промахі і памылкі павінны былі расплачвацца і гінуць нашы людзі, каб выратаваць прэстыж СССР і яго кіраўніцтва. За іх памылкі і промахі павінны пакутаваць і гінуць без пары многія пакаленні людзей, якія толькі прыйшлі на гэты свет і прыйдуць яшчэ.

Ці маем мы сёння гарантыю, што такое больш не паўторыцца? Не маем. Ці адказалі перад судом народа тыя, хто ўтойваў ад нас маштабы радыеактыўнага заражэння, супакойваў людзей і называў радыефобіяй тое, што на справе азначала смяротэльную небяспеку? Не адказалі, значыць, верагоднасць небяспекі ўзрастае ўдвая. А хто адкажа за пакуты ліквідатараў чарнобыльскай катастрофы? А за пакуты адселеных з роднае зямлі людзей? За жыццё і здароўе нашых дзяцей, якія з пялёнак могуць стаць інвалідамі? Хто?

Вось такая была наша дзяржава. Людзьмі, іх целамі, як браняй, яна затыкала ўсе дзіркі і прабоіны ў сваім дзяржаўным караблі. І карабель плыў да недасяжных берагоў камунізму. А што так пакутавалі людзі, дык што ж тут такога? Гісторыя не робіцца без ахвяр і крыві. Нездарма Ніцшэ сказаў: дзяржава самая халодная з пачвараў.

Мы сёння будуем сваю ўласную дзяржаву. Ці павінна яна быць халоднай і бяздушнай, як была дагэтуль бальшавіцкая дзяржава — СССР? Усе мы скажам: не! Яна павінна быць гуманнаю, чалавечнаю, справядлівао, прававою. Мы прынялі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая гарантуе нам роднную дзяржаву.

Сёння мы стаім перад выбарам прэзідэнта. Які прэзідэнт нам патрэбен? Перш за ўсё, мне здаецца, нам патрэбен прэзідэнт, які абараняў бы наш суверэнітэт, нашу незалежнасць, нашу нейтральнасць. Каб ён быў патрыётам сваё Бацькаўшчыны. Каб ён адстойваў яе інтарэсы, каб думаў пра будучыню. Мы — маладая дзяржава. Нам цяжка, мы толькі становімся на свае ногі. Мы прывучаны былі быць памагатымі, мы былі адным з баявых колаў расейскай імперскай вайсковай калясніцы. Кола круцілася разам з усімі коламі і нам было проста і нават спакойна. А некаторым нават добра. Тым, што наверсе: ім не трэба было думаць. Выконвай толькі тое, што табе скажуць, і жыві спакойна. А тут раптам гэтая незалежнасць — нібы снег на галаву! Нібы гром з яснага неба! Тут яшчэ гэтыя энерганосьбіты. Адкуль іх набрацца? Як іх прыдумаць? Ды што тут ламаць галаву?! Хай будзе так, як было: зноў станем колам баявой расейскай калясніцы. Даўно прыцерліся, што тут гуляць у нейкую незалежнасць?

Палова прэтэндэнтаў у прэзідэнты лічыць вось так: навошта ламаць галаву? Яны, як быццам, згодны, што Беларусь павінна застацца незалежнай і г.д. Але, калі яны выканаюць усе патрабаванні другога боку, у дадзеным выпадку Расеі, дык ад нашай незалежнасці нічога не застанецца. І яны могуць застацца папяровымі прэзідэнтамі.

Ды ўсё ж — прэзідэнт, калі будзе, дык будзе адзін. Але будзе Вярхоўны Савет, будзе Савет Міністраў. Мне здаецца, калі будзе гэты савецкі Вярхоўны Савет, а не Вярхоўная Рада, не Рада Міністраў, дык так усё савецкім і застанецца. Савет — расейскае слова. Чым яно лепшае за наша роднае — рада, радзіць, парада? Не, ўбілі нам у галаву — савет! Нейкі дэпутат аднойчы даказаў, што саветы ёсць нават у Амерыцы. Але ён забыўся, што там яны завуцца па-ангельску, а яму перакладалі іх назву па-руску. Беларус іх успрыме як раду, а не савет.

Дык вось, калі мы выберам прэзідэнта, які пазірае толькі на ўсход, а за ім станучь глядзець на ўсход парламент і Савет Міністраў, які толькі ведае, што падымае цэны, дык наша незалежнасць скончыцца раз і назаўсёды. Нам трэба выбіраць чалавека, які думае сваёю галавой і кіруецца нацыянальнымі інтарэсамі, які ні за якія абяцанкі не здрадзіць свайму народу і не завядзе яго ў кабалу, у якой ён быў апошнія дзвесце гадоў. А калі ён такое зробіць, дык ганьба яму вечная і вечны праклён!

Я не называю тут прозвішчаў, іх мы ўсе ведаем... Мяне трохі здзіўляе колькасць прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла. З аднаго боку — трэба радавацца: шмат ёсць разумных і смелых людзей. З другога — дык падумаеш: ледзь не кожны гатоў стаць прэзідэнтам! Па прынцыпе: мая работа нецікавая, ды і не надта з ёю спраўляюся, а вось як выберуць прэзідэнтам, дык там я ўжо папрацую. Там усе ўбачаць, які я мудры! Ды і пашана! Ды і заробак не абы-які! Любата дый годзе!

Здаецца мне, што трохі несур'ёзна мы падыходзім да гэтага пытання. Хоць кожны чалавек — асоба, якая можа сябе вунь як паказаць, калі яму дадуць умовы, усё ж на пасаду прэзідэнта павінен быць абраны лідэр, якога людзі хоць трохі ды ведаюць, які ўжо сябе паказаў на палітычнай арэне, на сваёй пасадзе, у жыцці краіны ўвогуле.

Ці шмат у нас такіх людзей? Я лічу, што зусім мала.

І таму — хай пераможа мудрэйшы, а не дужэйшы!

Хацелася б сказаць яшчэ некалькі слоў пра тое, як у нашым Вярхоўным Савеце ставіцца да беларускай мовы, да беларускай незалежнасці, да беларускага патрыятызму. Па-ранейшаму ўсё гэта большасцю ўспрымаецца як часовае, як несур'ёзнае, як непатрэбнае, нават шкоднае, якое падлягае ледзь не суду — праявай нацыяналізму, ні больш ні менш.

Шаноўныя спадары дэпутаты Сарокін, Качан, Паўлаў, Казлоў, Гец! (Можна назваць яшчэ дзесяткі прозвішчаў.) Усе вашы словы і вашы справы мы, беларусы, запомнім, гісторыя заліша вашы імёны ў асобную кнігу, у кнігу антыгерояў — я так яе назваў бы. Не раздзімайце міжнацыянальнага пажару, не кідайце іскру, якая можа ўзарваць наш мірны дзень іператварыць яго ў кашмар народнага гневу. У нас мову адбіралі стагоддзямі, мы не маглі яе абараняць, бо ўсе законы былі пісаны не намі, за нас, а супраць нас.

Прыняты Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, дык, будзьце ласкавы, выконвайце яго першымі, а на вас будуць глядзець усе астатнія і таксама выконваць. Вам цяжка навучыцца беларускай мове — дык навошта вам такая праца, дзе трэба гаварыць па-беларуску? Вы можаце знайсці і іншую. Як казаў настаўнік Алесь Белакоз, можаце нават пакінуць гэты народ, які вы так не паважаеце, што ён гаворыць не так, як вы. Мы не забіраем вашай мовы, але вы не талчыце нашай, бо гэта мова нашай зямлі, нашага краю, яна тут нарадзілася і будзе жыць вечна — пакуль будзе жыць Беларусь.

# КНІГА СІЛКУЕ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ПАМЯЦЬ

## З ВЫСТУПЛЕННЯ СЕРАФІМА АНДРАЮКА

У сённяшніх умовах грамадска-палітычнай, эканамічнай, духоўна-нацыянальнай няўстойлівасці, ва ўмовах разгулу рынкача-мафіёзных адносін, панавання грубага, вульгарнага прагматызму кніга — адзінае, бадай (зразумела ж, кніга сапраўдная), што дапамагае захоўваць, захоўвае духоўную ўстойлівасць, мацуе яе. І гэта невыпадкова. Кніга фармуе і сілкуе нашу нацыянальную памяць. Менавіта яна, кніга, звязвае кожнага з нас, само грамадства з народнай, нацыянальнай памяццю. У першую чаргу дзякуючы кнізе мы з вамі ўбачылі, зразумелі, што ў нашага народа была багатая гісторыя, ёсць выдатныя духоўныя набыткі. І што ўсё гэта — *нашае*, адметнае, непадобнае ні на чыё іншае.

І нацыянальнае Адраджэнне, безумоўна, таксама ідзе праз кнігу, нават, напэўна, у першую чаргу праз кнігу. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўсё гэта добра разумее, таму яно ўсялякі і імкнецца, каб кніга, наша беларуская кніга жыла. Нягледзячы на ўсе і ўсялякія складанасці і цяжкасці — як на аб'ектыўныя, так і, скажам, суб'ектыўныя, прымаем захады, каб своечасова з'яўлялася неабходная літаратура. Толькі за апошнія два гады (а яны для нас былі асабліва цяжкімі) выпушчана 282 кнігі тыражом 3521 тысяча экземпляраў. З іх на беларускай мове дзесьці 235 тыражом 1160 тысяч экземпляраў. Сярод гэтых выданняў 144 новыя кнігі прозы, паэзіі, крытыкі, 15 першых кніжак маладых аўтараў (дарэчы, летась іх выйшла 11).

Выдавецтва імкнецца захаваць як ранейшыя серыі, так і стварае новыя. Выходзяць «Скарбы сусветнай літаратуры», чакаем першы зборнік серыі «Галасы беларускага замежжа». З'яўляюцца і унікальныя кнігі, як «Палата кнігапісная» М. Нікалаева ці «Кніга жыцій і хаджэнняў» (у серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі»). Такія кнігі красамоўна сведчаць, якая багатая, глыбокая, адметная наша спадчына.

Сёлета ў выдавецтве ўжо выйшлі 52 кнігі, таму будзем спадзявацца, што і гэты выдавецкі год будзе плённым, хаця... З кожным днём выдавецтву становіцца працаваць усё цяжэй і цяжэй. Найперш складанасці з паперай. Яна як быццам і ёсць, але перад кожным чарговым павышэннем мінімальнай зарплаты цэны адразу ўзрастаюць. Запасаў жа ў выдавецтве няма. Дзяржаўнае забеспячэнне паперай па сутнасці адсутнічае. Нядаўна з дзяржрэзерву атрымалі яе адзін вагон. Але, як высветлілася, было выдзелена тры. Аднак уведамлення мы своечасова не атрымалі, ды і грошай не было. А між іншым кнігі на беларускай мове за мінулы год «узялі» ўсяго трынаццаць працэнтаў паперы, выдзеленай нашаму выдавецтву. Дык што, выконваючы Закон аб мовах, дбаючы пра нацыянальнае Адраджэнне, дзяржава не можа забяспечыць гэтыя выданні паперай? Пытанне рытарычнае...

Востра стаіць і праблема тыражоў. Пры такой сітуацыі з паперай выдавецтва знаходзіцца перад дылемай: большыя тыражы ці больш назваў кніг. Мы прытрымліваемся другога пункту гледжання. Па-першае, большая колькасць назваў дапаможа нам захаваць калектыў выдавецтва. А, па-другое, можна змяншаць іх колькасць, калі наша творчая суполка, наш саюз расце. Акрамя таго, пачалі выпускаць кнігі пісьменнікаў беларускага замежжа. Усё больш выпускаем спадчыны, асаблівай увагі патрабуе перакладная літаратура.

А цэны на кнігі растуць. Чытачы эканамічна ды і псіхалагічна не гатовы да такога рэзкага павышэння іх. Асабліва на выданні малатыражныя: паэзію, крытыку. Добра было б, калі б на гэтыя віды літаратуры дзяржава зрабіла некалькі вышэйшыя датацыі.

На сённяшні дзень выдавецтва жыве, працуе за кошт датацый дзяржавы і за кошт рэалізаваных кніг. Але з рэалізацыяй у апошні час узнікаюць усё новыя клопаты. Кіраўніцтва «Белкнігі», якая сёння прадстаўляе дзяржаўны гандаль, патрабуе аплату за кнігі дзяржаўнага заказу праводзіць на працягу трох месяцаў. Можна ўявіць сабе, што у нас робіцца з грашыма за тры месяцы! У той жа час за паперу павінна быць перадаплата. У апошнім пісьме кіраўнікі «Белкнігі» наогул заявілі, што беларускую кнігу яны будуць прымаць толькі на камісію, г. зн. разлічвацца пачнуць толькі тады, як прададуць. У той жа час зацікаўленасці ў продажы ніякай. Выдавецтва аб'ектыўна вымушана будзе скарачаць тыраж, пераходзіць да разліку з аўтарамі пасля рэалізацыі кнігі.

Да чаго гэта можа прывесці, няцяжка ўявіць! У дадзенай акцыі кіраўніцтва «Белкнігі» бачыцца заканамерны працяг ва ўмовах нашага рынку іхняй пастаяннай палітыкі не асаблівага спрыяння нацыянальнай кнізе. Пакуль што мы чакаем рашэння міністэрства па гэтым пытанні... «Белкніга» ж не разлічваецца за кнігі.

Яшчэ адзін момант, звязаны з рэалізацыяй беларускіх кніг. Пра гэта мне ўжо даводзілася гаварыць, тым не менш нагадаю яшчэ раз. Сёння бібліятэкі, асабліва раённыя, сельскія па сутнасці не маюць навінак беларускай літаратуры.

І зноў пра датацыю... Чаму не датуецца выданне кніг беларускіх пісьменнікаў, перакладзеных на рускую мову? Чаму не атрымліваюць датацыі перавыданні твораў рускамоўных пісьменнікаў, якія жывуць на Беларусі? Чаму, напрыклад, Н. Кіслік і Б. Спрынчан не маюць такога ж права, як маюць яго М. Аўрамчык ці П. Макаль?

Выдавецтвы, у тым ліку і «Мастацкая літаратура», працавалі, працуюць і, напэўна, будуць працаваць. Але каб гэтая праца была больш эфектыўнай, плённай, больш дзейснай, патрэбна пастаянная падтрымка дзяржавы.

Толькі тады, калі беларуская кніга запануе на паліцах дзяржаўных бібліятэк, бібліятэк уласных, калі мы яе, а не баевікі, парнаграфію, убачым на вітрынах кніжных кіёскаў на цэнтральным праспекце Мінска, які носіць імя славутага Скарыны, толькі тады, напэўна, дзяржаве можна будзе сказаць, што яна дзеля беларускай кнігі, дзеля яе адраджэння зрабіла ўсё!

# ТОЕ, ШТО РОБІЦЦА — АВАНТУРЫЗМ

## З ВЫСТУПЛЕННЯ АЛЯКСЕЯ ДУДАРАВА

Я заўсёды прытрымліваўся і прытрымліваюся той пазіцыі, што творца павінен трымацца ўбаку ад палітыкі і ад спраў дзяржавы. Але гэта толькі ў тым выпадку, калі палітыка ёсць і ёсць справы дзяржаўныя. Тое, што мы маем на сёння ў сябе на Радзіме, ні палітыкай, ні дзяржаўнасцю назваць нельга.

Ёсць ёмістае слова, якое вызначае ўсё тое, што робяць цяперашнія нашы дзяржаўныя мужы. Авантурызм! І палітычны, і дзяржаўны. Лепшага спосабу пасварыць два братнія народы — рускі і беларускі — цяжка нават прыдумаць. А вось Кебіч з Чарнамырдзіным прадумалі і нават афармілі гэта як дамову.

Пры гэтым спадар Чарнамырдзін нічога, апроч павагі, у мяне не выклікае. Ён думае і клапоціцца пра сваю дзяржаву, пра свой народ і яго інтарэсы. Нават калі гэтыя інтарэсы забяспечваюцца і за чужы кошт.

Пра што думаюць нашы былыя камуністычныя і сённяшнія правадыры — не ведае ніхто. Увявіце сабе: недзе ў Пензе, у Варкуце ці ў Новасібірску галадаюць шахцёры, медыкі ці настаўнікі патрабуюць выплаціць за тры месяцы зарплату, каб было чым сваіх дзяцей карміць, а ім па тэлевізіі паказваюць сюжэт, як шчаслівыя беларусы выстраіліся ў чэргі ў Ашчадбанк і мяняюць сваё звяр'е на кроўныя расійскія рублі.

Ды яны ж праклянуць нас! Хто скажа, што гэта мая фантазія, а не рэальнасць, хай кідае ў мяне камень.

Крычаць, што знімуць мытні. А на які чорт вы іх паставілі з Расіяй? З якой мэтай? І хто ставіў? Хто ўводзіў «зайчыкі»? Хто выраў Беларусь з рублёвай зоны? Хто рабіў такі курс гэтага «зайчыка», што нашу смятану і каўбасу лягчэй купіць на Беларускім вакзале ў Маскве, чым у Беларусі?

Ведайце, што расійскі прэм'ер не дурань, ніводнага пункту гэтай дамовы на карысць Беларусі ён выконваць не будзе. А мы — ужо выконваем. Нам па гісторыі вядома... Масква заўсёды давала прытулак дзяржаўным нацыянальным банкрутам, калі іх пачыналі ненавідзець уласны народ. Але падумайце: ці дасць яна яго на гэты раз?

Падтрымліваю «Зварот да беларускага народа» і прапанову спадара Халіпа, што гэты Зварот абавязкова павінен быць даведзены да прэзідэнта Расіі. Можа, нават тэлеграмай. І ва ўсе сродкі масавай інфармацыі аддаць яго. Хай ведаюць, што думаюць пісьменнікі, а не няшчасная вясковая бабулька, якой старшыня можа не даць каня пасеяць бульбу, калі прагаласуе не за таго кандыдата.

Рускі народ нам брат. Кроўны і крэўны. Не дазволім, каб нас з ім пасварылі. Ён, як і беларускі народ, шмат напакутаваўся з-за таго, што ім доўга кіравалі прыдуркі.

Цяпер пра нашы справы, творчыя. Саюз трэба захаваць. Гэта наш дом. Гэта наш прытулак. Трэба па-гаспадарску ставіцца да маёмасці. Мы ледзьве не згубілі «Іслач».

Але саюзу патрэбна вельмі сур'ёзная структурная рэфармацыя. Вы зірніце, што робіцца. Ёсць бухгалтэрыя СП, бухгалтэрыя Літфонду, бухгалтэрыя Дома літаратара, бухгалтэрыя Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

Прапаную: абраць старшыню рады, абраць раду. Даручыць старшыні і радзе распрацаваць новы статут творчага саюза, зрабіць структурныя пераўтварэнні. Восенню, ці на пачатку зімы склікаць нечарговы з'езд.

## XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

# МЫ — ЧАСТКА МІНУЛАГА

### З ВЫСТУПЛЕННЯ МІКАЛАЯ ЧАРГІНЦА

Цяжка адказаць на пакутлівае пытанне: у які час, у якім вымярэнні сёння жыве наша грамадства, наша пісьменніцкая арганізацыя, якой сёлета спаўняецца 60 гадоў. Як быццам бы адышлі ад мінулага, пераканаўшыся, што пражытыя 70 гадоў поруч са станоўчымі момантамі мала чаго далі народу, асабліва ў пытаннях станаўлення асобы, права на свабоду слова, умацавання нацыянальнай самасвядомасці.

Толькі цяпер мы прыслухаліся да слоў Бярдзяева, які даўно ўжо тонка прыкмеціў, што ўлада адной кіруючай партыі вядзе да выраджэння асобы. Несумненна, кожнаму з нас даводзіцца пераадольваць пакутлівую паласу самааналізу, пошуку адказу на пранізліва-вострае пытанне: а ці ўсё, што ты рабіў, тварыў, сапраўды адпавядала інтарэсам нашага народа, самакрытычна прызнацца хоць бы сабе, свайму сумленню ў тым, што таксама прыклаў свой талент, каб павалока падману народа даўжэй трымалася на яго вачах.

Большасць з нашых пісьменнікаў, прайшоўшы гэтую паласу роздуму і аналізу сваёй ролі ў грамадстве, сумленна і адкрыта сказалі сабе і людзям аб сваіх памылках і, ачысціўшы душу і сумленне, пачалі тварыць, жадаючы аднаго — быць поруч са сваім народам, дапамагаючы яму ў гэты цяжкі, трывожны час хутчэй пабудаваць новыя адносіны, іншае, больш сумленнае, адпавядаючае нацыянальным інтарэсам і эканамічным патрэбам жыццё.

Балюча і гідліва сутыкацца і з такой катэгорыяй пісьменнікаў, якія, адшліфаваўшы свой язык аб каструбаватыя месцы мінулай улады, атрымаўшы ад яе ўсё, што маглі, цяпер ліжуць тыя ж самыя месцы, злёгку пакусваючы сцёгны новай улады і палітычных лідэраў, і зласліва абліваючы гразёй мінулае.

Ты можаш крытыкаваць, ігнараваць мінулае, але абавязаны памятаць, што ты сам частка таго мінулага. Не станавіся ў позу пракурора і суддзі над людзьмі, якіх ты сам сваімі творамі заклікаў і вёў іх да светлай будучыні.

Дальбог жа, падобныя пярэваратні міжволі прымушаюць параўнаць іх з пеўнем, які ў гноі шукае зерне, а яны ўсё робяць наадварот. Прычым бранзавеюць літаральна на вачах ад усведамлення, што яны зноў павучаюць і крытыкуюць. Кожнаму зразумела, што чым больш пісьменнік робіць дабра, тым менш яму застаецца часу на зло.

Чаму я аб гэтым гавару? Ды таму, што мы, пісьменнікі, часам сваім неасцярожна напісаным ці выказаным словам можам выклікаць у грамадстве праяўленне самых нізкіх інстынктаў. Калі брат ідзе на брата. Мне страшна ад думкі, што раптам нешта падобнае адбудзецца і ў нашым грамадстве. Адбываецца ж гэта ў цэлым шэрагу краін былога СССР.

Нельга нам забываць і нашых пісьменнікаў-ветэранаў. Мы абавязаны знаходзіць магчымасць, каб аказваць ім дапамогу. У гэтым плане нічога не адбудзецца, нічога мы не страцім, калі звернемся па дапамогу да ўрада. Трэба стварыць хоць нейкія спрыяльныя ўмовы для жыцця ў першую чаргу немаладых ужо літаратараў і стварыць магчымасць для творчасці ўсім.

Цяпер мы перажываем час, калі на вуліцах усё больш можна ўбачыць людзей у галёшах, падвязаных вяроўкай. Адбываецца раздзяленне грамадства на бедных і багатых. Добра, канечне, калі ўсё больш людзей ездзяць у «мерседэсах» і «пежо», адпачываюць на Багамах і Корсіках, але кепска, што ў той жа час усё большае людзей, якія не маюць сродкаў на лекі, хлеб і вопратку.

Нам трэба знайсці словы, каб пераканаць багатых, пераканаць улады праявіць больш клопату аб тых, хто мае патрэбу ў дапамозе.

І яшчэ аб адным. Завельмі некаторыя з нас катэгарычныя ў сваіх крытычных ацэнках кіраўнікоў рэспублікі. Прытым робіцца гэта ад імя ўсіх пісьменнікаў. У такія мінуты яны забываюць, што, называючы без юрыдычнага абгрунтавання канкрэтных кіраўнікоў «здраднікамі», «ворагамі» і г.д., яны, такія «абаронцы» дэмакратыі», разбураюць і знішчаюць першыя, яшчэ слабыя парасткі той жа дэмакратыі, якая нараджаецца.

Крытычнае, але ўзважанае, цывілізаванае слова пісьменніка куды больш важкае, чым знявагі і прыніжэнні чалавека.

Пры любой сітуацыі мы павінны звярнуцца да ўрада ў гэты цяжкі час з просьбай падтрымаць пісьменнікаў, наш саюз. Нельга даць загінуць беларускай літаратуры, ператварыцца ў жабракоў большасці літаратараў, пісьменнікаў, якія аддаюць свой талент свайму народу. Упэўнены, нас зразумеюць і падтрымаюць.

І апошняе. Аб пісьменніках, якія пішуць на рускай мове. Давайце ўсё ж вызначымся, што рабіць тым пісьменнікам, якія пішуць па-руску. З'езд павінен сказаць тут сваё слова. Пра сябе. Я нарадзіўся ў Мінску. Адразу ж пасля вызвалення Мінска паступіў у адзіную ў наваколлі 13-ую мінскую рускую сярэднюю школу, вучыўся ў інстытуце, затым ва універсітэце, дзе выкладалі па-руску. Пісаў больш дваццаці гадоў па-руску. Скажыце, змагу я на схіле гадоў перавучыцца пісаць па-беларуску? А такіх жа пісьменнікаў — нямала. Я звяртаюся да вас, сабраты па пяры: калі мы — літаратурныя ізгоі, то скажыце нам аб гэтым прама, выключце з саюза. Калі ж гэта не так, дык няхай гэта пачуюць нашы кнігавыдаўцы і не адмаўляюцца ад выдання кніг, тлумачачы гэта тым, што датацый на перавыданне рускамоўных кніг яны не атрымліваюць.

І самае апошняе. Я не думаю, што маюць рацыю тыя пісьменнікі, якія выступаюць супраць творчага супрацоўніцтва з іншымі, у першую чаргу, з расійскім Саюзам пісьменнікаў. У літаратуры не павінна быць платоў. Ад таго, што Быкава, Караткевіча, Шамякіна, Чыгрынава, Навуменку, Дударава і многіх іншых нашых пісьменнікаў чытаюць і выдаюць у многіх краінах, толькі выйграе беларуская літаратура і наш саюз.

У чэрвені спаўняецца 60 гадоў нашаму саюзу. Па-мойму, было б някепска падумаць аб увекавечванні памяці памерлых пісьменнікаў, адзначыць жывых літаратараў старэйшага пакалення і заахвоціць тых маладых братоў па пяры, хто сваім талентам і творамі сёння закладвае новае ў нашай літаратуры.

# ДУМКІ, РАЗВАГІ, ПАЖАДАННІ

***Атмасфера на з'ездзе ў цэлым была дзелавая і канструктыўная. Ці не кожны выступоўца імкнуўся пагаварыць, паразважаць аб набалелым, выказаць, як на яго думку, адзінапрымальнае выйсце са становішча, якое склалася. Гаворка ішла не толькі пра творчыя справы. Літаратары выказвалі сваё негатыўнае стаўленне да падпісання заявы аб уваходжанні Рэспублікі Беларусь у рублёвую зону, з трывогай гаварылі, што знаходзіцца нямала ахвотнікаў спыніць працэсы нацыянальнага Адраджэння, адмовіць беларусам у праве «людзьмі звацца», канстатавалі, што не ўсюды яшчэ належным чынам выконваецца Закон аб мовах.***

***Што ні выступленне, дык — думкі, развагі, пажаданні. Думкі — вострыя, развагі — горкія, пажаданні — канструктыўныя. Ды падаём іх эскізна. Не таму, што выступленні гэтых прамоўцаў менш цікавыя, чым тых, каго мы прадставілі паасобку. На гэта ў многім паўплывалі, так сказаць, тэхнічныя прычыны. Справа ў тым, што з-за адсутнасці сродкаў стэнаграма на з'ездзе не вялася, а выступалі прамоўцы не па паперцы. Праўда, усе выступленні запісваліся на магнітафон. Дарэчы, так рабілася і на папярэднім, дзесятым пісьменніцкім з'ездзе. Але тады запіс адразу расшыфроўвалі. Цяпер, зноў жа, справа ўперлася ў аплату працы тых, хто б узяўся за гэтую вельмі карпатлівую і нялёгкую работу.***

***І ўсё ж — слова дэлегатам з'езда.***



*Іван ЧЫГРЫН, Кузьма ХРОМЧАНКА і Павел ШРУБ.*

Канстатуючы, што сёння ўмовы пісьменніцкай працы зусім непадобныя на тыя, якія былі некалькі гадоў назад, старшыня Рэвізійнай камісіі Беллітфонду **Генадзь Пашкоў** запрасіў усіх прысутных у... невялікі і салодкі сон. І на самай справе тое, што прагучала з яго вуснаў, цяпер, на жаль, можна назваць толькі сном. Дакладчык згадаў літаратараў, якія яшчэ гады з два назад паспелі атрымаць кватэры. У гэтым спісе значыліся і тыя, хто займеў чатырохпакаёўкі. Многія атрымалі трохпакаёвыя кватэры, двухпакаёвыя. А цяпер, як тут не пагадзіцца з Г.Пашковым, пра гэта застаецца толькі марыць. Як і пра адсяленне дзяцей, калі не могуць займець жыллё нават тыя з пісьменнікаў, хто на сённяшні дзень не мае ні кала, ні двара. Г.Пашкоў падрабязна расказаў пра беды, якія абрынуліся на пісьменніцкі саюз. У гэтым сказалася і бяздзейнасць колішняга кіраўніцтва Літфонду. Увогуле, Г.Пашкоў выказаў прапанову стварыць спецыяльную камісію па маёмасці, без рашэння якой ніхто б не меў права распараджацца маёмасцю Саюза пісьменнікаў, Дома літаратара і г.д.

**Сяргей Законнікаў**, як і многія выступоўцы, адмоўна паставіўся да падпісанага пагаднення аб уваходжанні Беларусі ў рублёвую зону, пераканаўча гаварыў аб цяжкасцях, з якімі сутыкнуліся на сучасны момант калектывы рэдакцый часопісаў і газет. Узнімаў і пытанне аб павелічэнні ганарараў. Апошнім часам яны, як вядома, крыху павялічыліся, але гэта ўсё адно становішча не ратуе. Закрануў С.Законнікаў праблемы распаўсюджвання беларускамоўнай кнігі. Яму нядаўна давялося пабываць у Магілёўскай, Віцебскай абласцях. Там у кнігарнях — нейкія чатыры выданні, не больш. Або — кнігі аднаго аўтара ледзьве не ўсю паліцу займаюць. Паляпшэння патрабуе выпуск літаратуры для школ. Сёлета пастаянна падносіць сюрпрызы падпісная кампанія. Паштавікі былі паведамілі, што падпіска будзе праводзіцца на другое паўгоддзе. Ды нечакана — новае паведамленне: зноў на квартал. Усё гэта нервуе чытачоў, не кажучы ўжо пра калектывы рэдакцый.

**Галіна Каржанеўская** прысвяціла сваё выступленне ў асноўным «унутрыцэхавым» праблемам, маральнаму клімату пісьменніцкай суполкі. Пераважная большасць творчага саюза, лічыць яна, заняла ў адносінах да палітычных і грамадскіх падзей пазіцыю пасіўную, плыткую, неакрэсленую. Няўдзел, ухіленне ад выказвання поглядаў, досыць разmaіты спектр саміх гэтых поглядаў — вось што мы маем на сённяшні дзень. Актыўнічаюць якраз тыя, для каго адцягненая і бліскуча праваленая сацыялістычная ідэя падаецца больш важнай, чым рэальныя магчымасці незалежнасці і нацыянальнага самасцвярджэння.

Разбурэнне і ўпадак, на думку прамоўцы, пачынаюцца там, дзе асабістыя разлікі бяруць верх над усім астатнім, дзе пануюць эгаізм і сябелюбства. Калі «лепшая» беларушчына (лепшая толькі тым, што пазней нарадзілася) бярэцца выкрываць «горшую», якой выпала нарадзіцца раней ды жыць у іншых умовах, — то што гэта, як не хваравітыя комплексы, як не самаедства пад маскай «эўрапейшчыны», як не насмешка над памяццю братоў Луцкевічаў?

Агульная бяда ўсіх тутэйшых уладных структур — нежаданне што-небудзь мяняць — у нашым саюзе выявілася з асаблівай відавочнасцю. Далей былі выказаны крытычныя заўвагі ў адрас непрацаздольнай рады і творчых секцый, якія з году ў год дэградуюць, гаварылася пра аматарскі ўзровень літаратурных вечароў і заніжаную планку прыёму ў члены СП. Адзначалася, што даклад В.Зуёнка мала падобны на справаздачны, гэта хутчэй пашыранае выступленне з добрымі прапановамі. Незразумела толькі, што перашкодзіла старшыні за чатыры гады прыслухацца да ўласных слушных думак.

Закончыла Г.Каржанеўская сваё выступленне цытатай з першага нумара той, сапраўднай «Нашай Нівы»: «Будзем спакойна, цвёрда кідаць усім праўду ў вочы, пастараемся быць цярплівымі і панаваць над сабою: няхай халодны розум моцна трымае ў руках гарачае сэрца».

Пытанні нацыянальнага Адраджэння, стасункаў беластоцкіх літаратараў з пісьменнікамі Беларусі закрануў у сваім выступленні **Алесь Барскі** (Польшча). На яго думку, робіцца яшчэ далёка не ўсё ў справе беларусізацыі, што мусіць рабіцца згодна з Законам аб мовах. Разам з тым, як засведчыў А.Барскі, ёсць і прыемныя вынікі. Наконт гэтага ён прывёў і такі прыклад. Можна, канечне, і ўсміхнуцца, але... Затрымаў А.Барскага ў Мінску міліцыянер і па-руску прамовіў: так і так, маўляў, парушаеце правілы вулічнага руху. А спадар Барскі ў адказ па-беларуску: «А вы парушаеце Закон аб мовах!» Збянтэжыўся міліцыянер і... адпусціў парушальніка. Гаварыў госць і пра тое, што ў Польшчы пашыраецца колькасць вышэйшых навучальных установ, у якіх створаны кафедры беларускай філалогіі.

Пра беражлівае стаўленне да мовы разважаў **Аляксей Слесарэнка**. Ці будзе яна жыць, развівацца, залежыць ад розных аспектаў. І не ў апошнюю чаргу ад прапаганды лепшых твораў мастацкай літаратуры. У гэтай справе вялікая роля адводзіцца мастацкаму чытанню. А.Слесарэнка спаслаўся на ўласны вопыт артыста-чытальніка, заўважыўшы, што падтрымліваць, так сказаць, творчы, належны мастакоўскі ўзровень можна толькі пастаянна выступаючы, рэгулярна кантактуючы з аўдыторыяй.

Спасылаючыся на ўласны вопыт, **Пётр Лісіцын** гаварыў пра ўзаемаадносіны аўтара з выдавецтвамі, у прыватнасці, з «Мастацкай літаратурай». Атрымліваецца часам так, што

аўтар па сутнасці бяспраўны. Хоча выдавецтва — выдае рукапіс, не — затрымлівае яго на няпэўны перыяд. Тым самым, на думку прамоўцы, парушаюцца аўтарскія правы.

**Віктар Карамазаў** быў схільны да думкі, што раней яму ніколі не даводзілася слухаць такога слабога даклада пра творчасць, які прагучаў на гэтым з'ездзе. Ніякага аналізу ў ім не было, што не можа не здзіўляць. Ды і ўвогуле, перакананы прамоўца, Дом літаратара ператварыўся ў казённы дом, які даўно пакінулі творчасць, мастацтва. Як і па ўсёй краіне, разрослся ў саюзе бюракратызм. Нават і лобі ўжо з'явілася, пра што сведчыць, на думку В.Карамазава, склад прэзідыума з'езда. Прамоўца выказаў прэтэнзіі да В.Зуёнка як старшыні Саюза пісьменнікаў. На яго думку, неабходны новы, маладзейшы лідэр.

Значную частку свайго выступлення **Іван Чарота** прысвяціў праблемам перакладу і творчым узаемасувязям. Як ён мяркуе, ніяк не можа вырашыцца пытанне аб прэміі ў галіне перакладу, хоць яно было пастаўлена яшчэ ў 1975 годзе. А прэміі можна было б прысуджаць як тым, хто перакладае творы на беларускую мову, так і літаратарам, якія пераўвасабляюць беларускую літаратуру на замежных мовах.

На думку **Міколы Татура**, даклады на з'ездзе не былі аналітычнымі і грунтоўнымі, а павярхоўнымі. М.Татур не пагадзіўся з тымі, хто мяркуе, што творчая секцыя, як адна са структур саюза, аджыла. Наадварот, ён прапанаваў кіраўнікоў творчых секцый увесці ў склад рады СП Беларусі.

Беларуская літаратура дала свету куды больш, чым свет ведае пра яе — так пачаў сваё выступленне **Уладзімір Навумовіч**. Прамоўца расказаў пра школу беларусістыкі, што працуе пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Але, на яго думку, гэтая школа ўжо ў нечым перарастае сябе. Ёй трэба надаць новы статус. Яна магла б аб'яднаць у справе беларусізацыі і намаганні творчых саюзаў, міністэрстваў, каб усю работу паставіць на якасна новы ўзровень, на ўзровень дзяржаўнай палітыкі.

Пра тое, як неабходна беражліва ставіцца да мастакоўскай спадчыны, нагадала **Алена Кобец-Філімонава**. Гаварыла яна і пра тое, што Рэспубліканская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій мае намер выпускаць часопіс «Пакутнік», заклікала літаратараў-гулагаўцаў да супрацоўніцтва.

**Юлія Канэ** (Ізраіль), разважаючы наконт пытання, патрэбен ці не патрэбен творчы саюз, гаварыла: «Трэба пажыць без саюза, каб адчуць, што нельга без прытулку, без сяброў». Ю.Канэ ўжо два гады жыве за мяжой. Яна нагадала, у якіх неспрыяльных умовах знаходзіцца дом творцаў у Тэль-Авіве. «Саюз пісьменнікаў павінен жыць!» — так падагульніла яна сваё выступленне.

З выступлення **Алеся Кажадуба** (Масква) адразу стала відочна, наколькі ў больш спрыяльных умовах знаходзяцца ў нас выдавецтвы. У Расіі яны даўно адпушчаны на... волю. А ў выніку ў акцыянернае таварыства ператварылася былая вядомая «Художественная литература», амаль прыпыніла дзейнасць «Молодая гвардия»... А.Кажадуб заначыў, што выдавецтва «Современный писатель» (колішні «Советский писатель») магло б усё ж выпускаць кнігі і беларускіх аўтараў, калі б на тое з'явіліся сродкі з боку Беларусі. Але ж пры сродках гэта з поспехам можна рабіць і ў сябе дома.

**Анатоль Бутэвіч** выступаў на з'ездзе як міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь, хоць меў права гаварыць ужо і як калега — нядаўна Анатоль Іванавіч прыняты ў творчы саюз. Ён гаварыў пра дзяржаўную праграму ў галіне кнігавыдання, падтрымку творчых калектываў, рэдакцый газет і часопісаў. На думку А.Бутэвіча, саюз пісьменнікаў вельмі патрэбны, ён павінен быць цэментам, які згуртоўвае нацыю. Інтэлігенцыя і мусіць выконваць гэтую адраджэнцкую місію. Аб'яднанымі намаганнямі можна і трэба зрабіць больш, чым у адзіночку. Але творчы саюз павінен быць арганізацыяй творчай і цярпліва ставіцца да самых розных поглядаў. Аднадумства не спрые поспеху. А тое, што саюз не распаўся на розныя палітычныя групоўкі, безумоўна, заслуга яго кіраўніцтва. Яно вяло лінію на паяднанне мастакоўскіх, творчых сіл, а не на іх раз'яднанне.

**Ніна Загорская**, зрэшты, як і многія, гаварыла аб кансалідацыі сіл тых, хто не на словах, а на справе выступае за нацыянальнае адраджэнне, каму дорага захаванне Саюза пісьменнікаў як арганізацыі пасапраўднаму творчай і дзеяздольнай. Ад саміх беларусаў залежыць, як жыць далей, выходзіць з таго цяжкага, складанага становішча, у якім апынулася грамадства.

**Матэрыялы з'езда**
**да друку падрыхтаваў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА і А.МАЦЮША*

Сярод кніг

# ПРА ШОЎКАВІЧЫ І... УСЮ БЕЛАРУСЬ

Вядомае выслоўе: хочаш лепш зразумець пісьменніка — пабывай на ягонай радзіме. Але ж можна сказаць і так: жадаеш даведацца, што за літаратар перад табой, наколькі ён шчыры і адкрыты ў творах, прачытай тое, што піша ён пра родныя мясціны і пра людзей, сярод якіх вырас і з якімі паранейшаму не парывае сувязяў.

У дачыненні да Уладзіміра Ліпскага падобнае меркаванне асабліва да месца. Маю на ўвазе апошнія творы пісьменніка, а ў іх шэрагу — «аповесць пра адну вёску» «Адпяванне жывых», што дала назву новай кнізе пісьменніка, нядаўна выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура».

Шоўкавічы — родная вёска аўтара і знаходзіцца яна ў Рэчыцкім раёне. Захаваў тутэйшы люд любасць да свайго, кроўнага, роднага, блізкага. Як прызнаецца аўтар, яго землякі «праявілі характар», «каб за сто трыццаць тры гады рускага ўладання захаваць у душы сваю мову, любіць яе і карыстацца ёй, як паветрам і сонцам».

А вось і яскравае пацвярджэнне таму. Жыў у Шоўкавічах нічым, здавалася б, непрыкметны Рыгор Бабіч, калгасным конюхам апошнім часам працаваў. А памёр, дык «пад яго падушкай знайшлі пісьмо і старую газету». Ліст — свайго роду запавет родным і блізкім. А ў газеце — старой, пашарпанай, як толькі і зберaглася — «зварот кіраўнікоў рэспублікі Чарвякова і Адамовіча да працоўных». Наконт далучэння некаторых раёнаў, што былі раней у Расіі, да Беларусі. Віталі гэта вясковыя людзі. І не толькі віталі, а і выказаліся на сваім сходзе, каб зрабіць выкладанне ў мясцовай школе на беларускай мове. Не зрабілі, бо супраць гэтай прапановы выступіў прадстаўнік валвыканкома нехта Рымша. А начальству, як кажуць, відней!

Адзін толькі лёс — лёс вясковага каваля, але ў ім, па сутнасці, і лёс самой вёскі. Ды хіба толькі Шоўкавіч? Тут у нечым бачыцца і лёс Беларусі ў цэлым. Скажам, тое, як чыноўнікі адмаўлялі народу ў праве карыстацца роднай мовай, як вучылі жыць тых, хто і без гэтай навукі адчуваў сябе гаспадаром на бацькоўскай зямлі і хацеў толькі аднаго: каб яму не перашкаджалі.

Дык жа — перашкаджалі, ламалі людскія лёсы! Асабліва, калі калектывізацыя пачалася. Сяляне не надта спяшаліся запісвацца ў калгас, адгаворваліся. Тодар жа, які меў у спадчыну ад бацькі дзве дзесяціны зямлі і працаваў на ёй «да сёмага поту», «прыйшоў на сход з вяровачкай, сказаў: «Бярыце мяне на вяровачку. Як не парвецца, то буду ў калгасе. А як парвецца, то выбачайце...»

«Аценілі» жарт, «пад'ехалі да яго хаты на «чорным варанку». Быў чалавек і прапаў. Дзе след загубіўся — адзін Бог ведае...

Лёс за лёсам праходзіць у творы. Гэткімі ж каларытнымі, як Рыгор Бабіч і Тодар, атрымаліся баба Арына, Мікалаіха, Колька... Прозвішча, кажаце, патрэбна? А навошта, калі «яго ўсе завуць Колькам. А ён даўно не Колька. Жонку мае — прадаўшчыца ў шоўкавіцкім магазіне, дзвюх дачок-школьніц». Бо і гэтым Колька — нямала сказана. У вёсцы ж здаўна ведаюць, як каго клікаць. Часам у звычайнае Колька столькі цеплыні ўкладуць, што адразу стане відочна, як паважаюць чалавека, як ставяцца да яго са спагадай.

А поруч з раздзеламі-апавяданнямі — і невялікія аўтарскія адступленні. У іх і ацэнка пабачанага на радзіме, і экскурс у гісторыю. Хоць не вельмі шмат пра мінулае Шоўкавіч захавалася, тым не менш У.Ліпскі некаторыя звесткі ў архівах знайшоў. Найчасцей, так сказаць, ускосныя, але і яны ў нечым праліваюць святло, як жыў тутэйшы люд калісь.

А яшчэ ў аповесці ёсць вобраз, які, па сутнасці, розныя гісторыі, падзеі знітоўвае між сабой. У пэўнай меры чалавек гэты выступае і свайго роду маральным суддзёй, як бы збоку прыглядаючыся і да сваіх землякоў, і да самога аўтара таксама. Гэта — Пятрусь Братачка. «Братачка» — гэта яго любімы зварот да ўсіх і кожнага, таму так і празвалі чалавека. Зноў жа — душа нараспрыст, а дабрыні... Хто яе і калі змераў! Такія людзі, як Братачка, не толькі самі прыгожа жывуць, сваімі дзеяннямі, учынкамі, яны быццам падахвочваюць на гэта іншых. Маўляў, што ж гэта вы, людцы добрыя, не заўважаеце хараства на зямлі. Драбнееце ва ўчынках, мізэрнічаеце ў справах...

І трэба ж было так здарыцца, што той ноччу, 26 красавіка 1986 года, якой завяршылася на зямлі дачарнобыльская эра, Братачка, падняўшыся на досвітку, з замілаваннем слухаў салаўёў: «Было жаданне прайсціся па вёсцы, устурыць храпуноў, каб паслухалі... Але стрымаў сябе: гэта ж не пажар, хай як хто хоча».

Здавалася б, сама час і апошнюю кропку паставіць, завяршыць твор светла, узнёсла. Ды нечакана ў канву аповесці ўпісваюцца суровыя радкі: «Шоўкаўцам пачалі даваць «грабавыя». Кожнаму — па пятнаццаць рублёў у месяц». І крыху ніжэй — прозвішчы. Адно за другім. Як на помніку, які яшчэ не пастаўлены:

«Памерла баба Арына.
Пахавалі цётку Новічыху.
Сканала Кірыліха.
Адышла ў нябыт Жэня Калагова.
Загінуў Васіль Манін, Райчын муж».

І ўрэшце — аўтарскае запытанне, звернутае да кожнага, хто прачытаў кнігу: «Што ж атрымліваецца? Шоўкаўцаў жывымі адпявалі ў гады калектывізацыі. У вайну. У пасляваенную галыцьбу. Падчас развітога сацыялізму. І цяпер... Дык што ж гэта робіцца, людзі?!»

Вось і выходзіць — «адпяванне жывых».

Гэтым «адпяваннем» у многім пазначаны і дзённік «Бацькі і дзеці», што таксама ўвайшоў у кнігу. Таксама лёсы, драматычныя, складаныя — лёсы паслячарнобыльскіх дзяцей. І не толькі тых, хто адчуў на сабе ўздзеянне «мірнага атама». Лёсы і ахвяры іншых чарнобыльцаў — маральных, духоўных.

З гаворкі пра Шоўкавічы пачаў пісьменнік свой расказ, а завяршыў яго роздумам пра ўсю Беларусь, пра яе будучыню.

**А. М.**



**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міхаілу Шумаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

**Беларуская акадэмія мастацтваў смуткуе з выпадку заўчаснай смерці загадчыка кафедры дэкаратыўна-прыкладного мастацтва Угрыновіча Уладзіміра Вікенцьевіча і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**


ЛіМ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі**
**і Міністэрства культуры і друку**
**Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
**Юрась ЗАЛОСКА**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
*намеснік галоўнага рэдактара*
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі** ***332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара** ***332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі** ***331-985***
**літаратурнага жыцця** ***332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі** ***332-204***
**паэзіі і прозы** ***332-204***
**музыкі** ***332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання** ***332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў** ***332-462***
**навін** ***332-462***
**мастацкага афармлення** ***332-204***
**фотакарэспандэнт** ***332-462***
**бухгалтэрыя** ***268-640***





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**
**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 12.05.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

# Тэлетыдзень

## ПАНЯДЗЕЛАК, 16.05

**Беларускае тэлебачанне**
16.50 АВС-клуб
17.05 Мультфільм
17.30 Навіны
17.40 Рэзерв
17.45 Ашчадны банк: шляхі міжнароднага супрацоўніцтва
18.10 Навіны (Брэст)
18.25 Навіны Бі-бі-сі
19.00 Крымінальныя гісторыі. Э.Радзінскі. «Забіць мужчыну». Прэм'ера спектакля БТ. Ч. 1-я
19.45 Аэробіка
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пад купалам Сусвету
21.45 Студыя «Тэлесябрына»
21.50 Спартыўны тэлекур'ер
22.10 Тэлевізійны Дом кіно
23.00 Надвор'е
23.10 НІКа
23.25 «ЖАП», м/ф, с. 2.

**Канал»Астанкіна»**
17.00, 20.00, 23.00 Навіны
17.25 Гол
17.55 Дакументы і лёсы
18.05, 20.35 Надвор'е
18.10 «Гарачаў і іншыя»
18.40 Мініяцюра
18.55 Мы. Аўтарская праграма У.Познера
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Маналог
20.55 «Кланяюся вам, парогі»
21.40 Прэс-клуб
23.10 Анталогія гумару
23.50 Прэс-экспрэс

**Канал «Расія»**
6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Вуснамі дзіцяці
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі
8.25 Фундамент дэмакратыі
8.40 Вінілавыя джунглі
9.10 Зваротны адрас
9.40 Сялянскае пытанне
15.20 Бізнес у Расіі
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 Выратаванне 911
17.45 Тэлегазета
17.50 Свята кожны дзень
19.00 «Спрут-5», м/ф (Італія), с. 1
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Спрут-5». Працяг
20.40 Наш сад
21.10 Момант ісціны
22.05 «Жаночая астралогія, ці Незямное прыцягненне», мульт
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
22.55 Джаз-клуб

**Санкт-Пецярбург**
17.00 «Ніжагародскі Крэмль», т/ф
17.10 Адкрываю для сябе Расію
17.40 «На парозе ночы», м/ф
18.30, 21.45 Інфарм ТБ
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.05 Будні
19.20 Тэлемагазін
19.25 «Каханне і галубы», м/ф
21.10 Кансерватар
22.00 Спартыўныя навіны
22.10 Ваш стыль
22.20 Футбол. «Зеніт» — «Эрзу» (Грозны). 2-гі тайм
23.05 Дадатак да «Кансерватара»

## АЎТОРАК, 17.05

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Дзелавая хроніка
8.20 Пад купалам Сусвету
8.30 Надвор'е
8.40 Пяць хвілін на жарты
8.45 «Чарапашкі нінзя», мульт
9.20 «ЖАП», м/ф, с. 2
11.00 Рок-айленд
13.30 Навіны
13.40 Рэзерв
13.45 «Кошчын дом», мульт.
14.00 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Яшчэ гарыць Хатынь», «Генерал Корж», д/ф
14.45 «Нов і К»-топ-10
15.45 Тэлебачанне — школе. Музыка. Характэрныя асаблівасці джаза
16.15 Дарожная азбука
16.40 Скарбы беларускай гісторыі
17.00 На музычных паралелях
17.30 Навіны
17.40 «Роздум аб казцы», д/ф
17.55 Зачытайце маё пісьмо...
18.00 Дзелавая хроніка
18.10 Навіны (Віцебск)
18.25 Навіны Бі-бі-сі
19.00 Стоп-кадр
19.20 Эканамічная хваля
20.00 Мост
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пад купалам Сусвету
21.45 Пяць хвілін на жарты
21.50 Рэклама
22.00 «Семнаццаць імгненняў вясны», с. 11
23.05 Надвор'е
23.15 НІКа
23.30 «Славянскі базар». Адборачны тур

**Канал «Астанкіна»**
5.15 Ранішняя размінка
5.30 Раніца
7.45 Аглядрынку нерухомасці
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.55 Навіны
8.20 Дамісолька
8.40 «Бераг яго жыцця», м/ф, с. 1
9.45 Гол
10.20 «Гарачаў і іншыя»
10.50, 23.50 Прэс-экспрэс
14.25 Прадпрымальнік
15.10 Справа
15.20 «Прыгоды Тома Соера»
15.50 Чароўны свет, ці Сінема...
16.10 Наш музычны клуб
16.50 Азбука ўласніка
17.20 Чакайце адказу
17.45, 20.35 Надвор'е
17.50 «Раскол», м/ф, с. 4
18.45 З першых рук
18.55 Тэма
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Бамонд
21.00 «Клічу жывых...», м/ф
23.05 Песня-94

**Канал «Расія»**
6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Клуб «Жоўтая падводная лодка»
8.00 Навіны Эй-бі-сі
8.30 Ранішні канцэрт
8.45 Момант ісціны
9.40 Сялянскае пытанне
15.20 Тэлегазета
15.25 Там-там навіны
15.40 Новая лінія. «Адлюстраванне», «Курсіў»
16.25 М-трэст
16.40 Прыгоды ваўчара
17.00 Бар'ер
17.30 Не быць дыназаўрам
15.45 Свята кожны дзень
17.50 Арт-абстрэл
18.35 Ніхто не забыты
18.40 Фільм-прэм'ер
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Ці ўзляціць «Чайка»? На спектаклі садружнасці акцёраў Таганкі
21.15 Я — лідэр
21.40 Маскі-шоу
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
22.55 Экран крымінальных паведамленняў
23.05 Музыка Санкт-Пецярбурга

**Санкт-Пецярбург**
7.45 Чароўная лінія
8.00 «Ціхая дама» Сяргея Шолахава
9.00 Нямецкая хваля
9.30 «На парозе ночы»
10.15, 11.40, 15.40 Музычны момант
10.20 «Сунічны дождажык», мульт.
10.30 Хуткая дапамога
11.00 Тэледоктар
11.15 Тэлемагазін
11.20 «Чароўныя ўзоры», мульт.
11.30, 15.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
11.45 Чароўная лінія
15.45 Залаты ключ
16.00 Казка за казкай
16.45 Вялікі фестываль
17.00 «Рэха над плошчай», т/ф
17.10 Ваша права
17.40 «На парозе ночы»
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.05 Будні
19.20 Тэлемагазін
19.25 «Афганец», м/ф
21.15 Наўздагад
21.35 «Доктар Бартак і смерць», мульт.
22.00 Спартыўныя навіны
22.10 Ваш стыль

## СЕРАДА, 18.05

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Надвор'е
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.35 Ане Вескі. Фільм-канцэрт
9.00 Тэлебачанне — школе
9.40 «Семнаццаць імгненняў вясны»
10.45 Аэробіка
13.30 Навіны
13.40 «Зноў чую голас твой». Фільм-канцэрт
14.20 Відзьма-нявідзьма
15.20 «Зубраня» запрашае на юбілей
16.30 Еўрапейскі калейдаскоп
17.00 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Незабыўнае»
17.30 Навіны
17.40 Якія мы гаспадары?
18.10 Навіны (Гомель)
18.25 Навіны Бі-бі-сі
19.00 «Крок». «Пяць зорак»
20.00 «Малюем далягляд»
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пад купалам Сусвету
21.45 Пяць хвілін на жарты
22.00 «Семнаццаць імгненняў вясны», с. 12
23.05 «Дзесяць хвілін плюс стагоддзе»
23.15 Надвор'е
23.25 НІКа
23.40 «Камаедзіца-94». Фестываль сатыры і гумару

**Канал»Астанкіна»**
5.15 Ранішняя размінка
5.30 Раніца
7.45 Аглядрынку нерухомасці
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.15 Навіны
8.20 Сарока
8.40 «Бераг яго жыцця», м/ф, с. 2
9.45 Канцэрт народнай музыкі
10.00 Клуб падарожнікаў
10.50, 23.55 Прэс-экспрэс
14.25 Прадпрымальнік
15.20 «Прыгоды Тома Соера», мульт
15.50 Лялька маёй мары
16.20 Адказы
16.50 Загадка СБ
17.25 Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір»
17.50 Дакументы і лёсы
17.55, 20.35 Надвор'е
18.00 «Раскол», м/ф, с. 5
18.55 Новыя людзі
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Парыжская вясна расійскіх музеяў
21.05 Футбол. «Барселона» — «Мілан»
23.25 Акадэмія

**Канал «Расія»**
6.00, 10.00, 15.00, 22.20 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Добрай раніцы, Еўропа
8.00 Навіны Бі-бі-сі
8.30 Ранішні канцэрт
8.45 «Санта-Барбара»
9.35 Тэлегазета
9.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія. «Далёкі Усход»
16.55 Руская віза
17.25 Свята кожны дзень
17.35 Панове-таварышы
17.55 Футбол. «Дынама» (Масква) — «Тарпеда»
19.55 Падрабязнасці
20.05 «Санта-Барбара»
20.55 «Абрабаванне па...», мульт.
21.20 Знянацку, ці Газетныя гісторыі
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
22.55 Футбол. «Спартак» (Масква) — ЦСКА. 2-гі тайм
23.45 «Джын Харлоў», д/ф

**Санкт-Пецярбург**
7.45 Чароўная лінія
8.05 «Дзявочыя ўзоры», мульт
8.20 Залаты ключ
8.30 «Майская вясёлка»
9.00 Нямецкая хваля
9.30 «На парозе ночы», м/ф
10.15, 11.40, 15.40 Музычны момант
10.20 Тэлемагазін
10.30 Хуткая дапамога
11.00 Канцэрт па заяўках
11.30, 15.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
11.45 Чароўная лінія
15.45 «Павел Корын. Русь адыходзячая»
16.05 Крыжыкі-нулікі
16.45 Вялікі фестываль
17.00 «Летні сад», т/ф
17.10 Армія Расіі
17.40 «На парозе ночы»
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.05 Будні
19.20 Тэлемагазін
19.25 «Трава зялёная», м/ф
21.30 «Падсякай»
22.00 Спартыўныя навіны
22.10 Ваш стыль

## ЧАЦВЕР, 19.05

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Надвор'е
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.35 «Дзесяць хвілін плюс стагоддзе»
8.45 Рэклама
8.55 «Семнаццаць імгненняў вясны»
10.10 «Камаедзіца-94»
11.15 «І вечны будзе май», д/ф
11.35 «Жыла-была мара». Фільм-канцэрт
12.30 Студыя «Тэлесябрына»
13.30 Навіны
15.15 Тэлебачанне — школе. Помнікі культуры на Беларусі
15.45 На музычных паралелях
17.30 Навіны
17.40 «Узлёт Сіняй птушкі». Штрыхі да партрэта народнай мастачкі Г.У.Навасельцавай
18.10 Навіны (Гродна)
18.25 Навіны Бі-бі-сі
19.00 Зачытайце маё пісьмо...
19.05 Дзедка за рэпку. Парады агароднікам
19.35 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Так гэта было...»
20.10 Пазіцыя ўрада
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пад купалам Сусвету
21.45 «Крок». Студыя «Формула»: «Дзверы», «Арт-Крок», «Мужчынскі клуб»
23.15 Надвор'е
23.25 НІКа
23.40 «У джазе толькі дзяўчаты», м/ф (ЗША)

**Канал «Астанкіна»**
5.15 Ранішняя размінка
5.30 Раніца
7.45 Аглядрынку нерухомасці
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.55 Навіны
8.20 «Чужыя вокны», мульт
8.25 «Бераг яго жыцця», м/ф, с. 3
9.30 У свеце жывёл (з сурдаперакладам)
10.10 ... Да 16 і старэйшым
10.50, 23.45 Прэс-экспрэс
14.25 Прадпрымальнік
15.10 «Прыгоды Тома Соера»
15.40 Музыканты. Вядучы — А. Агаміраў
16.10 ... Да 16 і старэйшым
16.50 Тэхнадром
17.25 Закулісамі. Федэралізм. Вопыт Расіі і СНД
17.45 Дакументы і лёсы
17.50, 20.35 Надвор'е
17.55 «Раскол», м/ф, с. 6
18.55 «Споведзь абачлівага чалавека». Яўген Габрыловіч
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Лато «Мільён»
21.15 «Бедны багач», м/ф, (Італія)
23.05 Музагляд

**Канал «Расія»**
6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 «Настальжы»
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі
8.25 Антракт. К. Шаўрына
8.35 Паехалі
8.45 «Санта-Барбара»
9.35 Тэлегазета
9.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.10 Новая лінія. «Еўропа—Азія»
16.40 Конны спорт
17.40 Свята кожны дзень
17.50 Экспацэнтр прадстаўляе
17.55 У свеце аўта- і матаспорту
18.26 Свая гульня
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Ніхто не забыты
20.30 Рэпарцёр
20.45 Правінцыяльныя пісьмы
21.20 Чароўны свет балета. «Фарух Рузіматаў»
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
22.55 Экран крымінальных паведамленняў
23.05 Вячэрні салон

**Санкт-Пецярбург**
7.45 Чароўная лінія
8.05 «Школа памочнікаў», мульт.
8.20 Казка за казкай
9.00 Нямецкая хваля
9.30 «На парозе ночы»
10.20, 11.40, 15.40 Музычны момант
10.30 Хуткая дапамога
11.00 Сямейная праграма
11.30, 15.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
11.45 Чароўная лінія
12.00 Урок нямецкай мовы
15.45 Падарожжа па Усходзе
16.10 Музыка — дзецям
16.25 Тры колы, фаліянт і ...
16.45 Вялікі фестываль
17.00 «Ветразь, вецер і мы», т/ф
17.10 Рэформа і ўлада
17.40 «На парозе ночы»
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.05 Будні
19.20 Тэлемагазін
19.25 Улада і права. Прамы эфір
20.25 «Фраганар», т/ф, (Францыя)
20.55 «Доктар Бартак і смерць», мульт.
21.05 Блеф-клуб
22.00 Спартыўныя навіны
22.10 Ваш стыль
22.20 «Вячэрні звон»

## ПЯТНІЦА, 20.05

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Дзелавая хроніка
8.20 Пад купалам Сусвету
8.30 Надвор'е
8.40 Пяць хвілін на жарты
8.45 «Спявае Герард Васільеў». Фільм-канцэрт
9.00 Тэлебачанне — школе. Помнікі культуры на Беларусі
9.30 «У джазе толькі дзяўчаты», м/ф
12.15 «Крок». «Пяць зорак»
13.15 Пазіцыя ўрада
13.30 Навіны
15.30 Ці любіце вы тэатр?
16.10 Педагагічны экран
16.30 «На крылах кажана»
17.30 Навіны
17.40 Шукаем ініцыятыўных
18.00 Дзелавая хроніка
18.10 Навіны (Магілёў)
18.25 Навіны Бі-бі-сі
19.00 Рок-айленд-шоу
20.00 Рэйтынг
20.15 Студыя «Тэлесябрына»
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пад купалам Сусвету
21.45 Пяць хвілін на жарты
21.50 «Дотык рукі», м/ф
23.35 Надвор'е
23.45 НІКа
24.00 «Я + Я». Мужчына і жанчына

**Канал «Астанкіна»**
5.15 Ранішняя размінка
5.30 Раніца
7.45 Файнэншыял таймс
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.20 Навіны
8.20 У гасцях у казкі
9.55 Дні армянскай культуры ў Маскве
10.25 Каму жывецца весела
10.50, 24.00 Прэс-экспрэс
11.20 «Хаўт». Паломніцтва ў Меку
14.25 Прадпрымальнік
15.00 Бізнес-клас
15.15 У гасцях у казкі
16.50 Азбука ўласніка
17.25 Навіны культуры
17.40 Чалавек і закон
18.10, 20.35 Надвор'е
18.15 Прэм'ера рубрыкі «Дыялог з Еўропай». Вядучы — Д. Кісялёў
18.45 Поле цудаў
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Чалавек тыдня
21.05 «Дэн Огаст», м/ф
22.05 Том Джонс у Маскве
23.20 Аўта-шоу
23.35 Праграма «Х»

**Канал «Расія»**
6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Рэк-тайм
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі
8.25 Антракт. Н. Каралёва, І. Нікалаеў
8.35 Паехалі
8.45 «Санта-Барбара»
9.35 Тэлегазета
9.40 Сялянскае пытанне
15.20 Суседзі па планеце
15.50 Там-там навіны
16.05 Ваенны кур'ер
16.20 Новая лінія
16.50 Дысней па пятніцах
17.45 Свята кожны дзень
17.55 Экспацэнтр прадстаўляе
18.00 Тэлеконкурс юрыстаў
18.45 «Чалавек у рамцы», мульт
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Каханне — гэта весела, каханне — гэта сумна», м/ф (Францыя)
21.25 «К-2»: Абзац
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
22.55 «Чалавек з Карлеона», м/ф (Італія)

**Санкт-Пецярбург**
7.45 Чароўная лінія
8.05 Еўрапейскі калейдаскоп
8.35 Музыка — дзецям
8.50 Па сакрэту ўсяму свету
9.00 Нямецкая хваля
9.30 «На парозе ночы»
10.20, 11.40, 15.40 Музычны момант
10.30 Хуткая дапамога
11.00 «Сярэбраная ніць»
11.30, 15.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
11.45 Чароўная лінія
12.00 Паломніцтва ў Меку
15.45 Наўздагад
16.05 Кідайка
16.45 Вялікі фестываль
17.00 «Адлюстраванне», т/ф
17.10 Новы Пецярбург
17.40 «На парозе ночы»
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.05 Будні
19.20 Тэлемагазін
19.25 Тэатральная правінцыя
19.55 «Марыца», м/ф
21.00 «Густаў», мульт
21.15 «О-ля-ля» прадстаўляе: «Уся справа ў капелюшы»
22.00 Спартыўныя навіны
22.10 Ваш стыль
22.20 «Усяго за долар», м/ф (ЗША)

## СУБОТА, 21.05

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 Урокі здароўя
8.50 Футбол. «Дынама-93» — ФК «Маладзечна». 2-гі тайм
9.35 Здароўе. Тэлечасопіс
10.05 Паказвае Гомель
11.05 Тыдзень планеты
11.20 «Дотык рукі», м/ф
13.05 Мультфільм
13.15 «Сталіца». Тэлечасопіс
13.35 ТА «Раха». 20 хвілін рэдактара
133.55 «Мой маленькі поні», мульт
14.25 «Адзінаццатага ліпеня», м/ф
15.55 «Усе мы родам з дзяцінства», ч. 1
17.25 «Случанка». Сустрэча з паэтэсай В. Аколавай
18.25 «Гінес-шоу»
18.55 «Чарапашкі нінзя», мульт
19.30 «Нов і К»-топ-10
20.30 Пяць хвілін на жарты
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пад купалам Сусвету
21.45 «Гонар сям'і Прыцці», м/ф (ЗША)
23.55 НІКа
0.10 «Каскад»
0.25 Хакей. «Цівалі» (Мінск) — «Хімік» (Наваполацк). 3-ці перыяд
1.00 Відзьма-нявідзьма

**Канал «Астанкіна»**
6.20 Ранішняя размінка
6.35 Суботняя раніца дзелавога чалавека
7.05 Спорт-шанц
7.30 «Марафон-15» прадстаўляе...
8.00 Курбан-Байрам
8.40 Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір» прадстаўляе
10.05 Ранішняя пошта
10.35 Смак
10.50 Дапамажы сабе сам
11.20 «Яго вялікасць футбол», д/ф
11.50 «Тайна рукапіснага карана», м/ф
13.20 Тэлескоп
14.00 навіны
14.25 Вагон 03
14.35 «Таямнічы свет О«, мульт (Аўстралія)
15.05 Лабірынт
15.35 Служэнне муз не церпіць мітусні
16.05 Вайна ў Карэі (1950—1953 гг.). Аўтар — Д. Валкагонаў
16.35 У свеце жывёл
17.15 Каханне з першага погляду
17.55 Да і пасля
18.45 «Месца, дзе табе добра», м/ф, с. 3 (ЗША)
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс
20.35 Надвор'е
20.45 «Месца, дзе табе добра», м/ф, с. 4 (ЗША)
21.40 Што? Дзе? Калі?
22.45 Пад знакам задыяка. Цялец

**Канал «Расія»**
7.00, 13.00, 19.00, 22.20 Весткі
7.25 Мульці-пульці
8.00 Студыя «Рост»
8.30 Парламенцкі тыдзень
9.00 Вялікі хакей
9.30 Пілігрым
10.15 Як жыць будзем?
11.05 «Вёска Вутка», м/ф
12.30 Мульці-пульці
12.40 Сялянскае пытанне
13.20 «Дарогу адолее той, хто ідзе», Фільм 1-ы
13.50 Ізабэль. Забаўляльная віктарына
14.35 «І помніць нездарма ўся Расія», д/ф
15.35 Футбол без межаў
16.10 Магія Дэвіда Коперфільда
17.00 Валейбол. Расія—Японія
18.15 Свята кожны дзень
18.25 Вуснамі дзіцяці
19.25 «Раганосца», м/ф
20.55 «Гарадок»
21.25 Зусім сакрэтна
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
22.55 Праграма «А»
23.55 «Тры дні Віктара Чарнышова», м/ф

**Санкт-Пецярбург**
7.30, 11.45 Чароўная лінія
7.45 «Наваселле ў браткі Труса», мульт
8.05 «Пяць сустрэч на арэне»
9.00 Нямецкая хваля
9.30 «Вячэрні звон» у ранішнім эфіры
10.00 «Падзорная труба», м/ф
10.15 «Нехачуха», мульт
10.30 Хуткая дапамога
11.00 Канцэрт па заяўках
11.30 Тэледоктар
12.00 «Бывайце, галубы», м/ф
13.40 «Мільён прыгод. Востраў Іржавага генерала», м/ф
14.45 Спартыўны агляд
15.15 «Кінаўспаміны. Спадчына», т/ф (Францыя)
16.00 Зебра
16.45 Вялікі фестываль
17.00 Аўтапілот
17.15 Крымінальнае дасье
17.35 «Вечная памяць»
18.10 Экспрэс-кіно
18.30, 21.45 Інфарм ТБ
18.55 «Слова Андронікава». Фільм 2-гі.
20.00 «Ззяе мне». Спявае Яўгенія Смальянінава
20.15 «Соф'я Пятроўна», м/ф
22.00 Ваш стыль
22.10 Адам і Ева +
22.40 «Фатаграфіі на сцяне», м/ф, с. 1

## НЯДЗЕЛЯ, 22.05

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 Слова да чалавека
8.55 «Чарапашкі нінзя», мульт
9.30 Нядзельная пропаведзь
9.40 Справы вайсковыя
10.25 «Каралеўства алмазаў», м/ф (ЗША)
12.20 Мультфільм
12.35 Аэробіка
13.10 Белыя і чорныя
13.40 MTV. Лепшыя хіты
14.10 АВС-клуб
14.25 «Мульт-хіт-парад»
14.45 Вяскоўцы. Перадача з Гомеля
15.15 «Усе мы родам з дзяцінства», ч. 2
16.45 «Гінес-шоу»
17.15 «Чарапашкі нінзя», мульт
17.50 Тэлекрама
18.05 Настальгічны дывертысмент
19.10 Брама. Права на любоў
20.00 Панарама
20.35 Пад купалам Сусвету
20.40 Калыханка
21.00 Пяць хвілін на жарты
21.05 Рэклама
21.10 «Пан Валадыеўскі», м/ф (Польшча), 1-я і 2-я с.
23.40 Не забудзьцеся ўключыць тэлевізар
23.50 «Гонкі для Беларусі» (Формула-3, Формула-Юніор)

**Канал «Астанкіна»**
6.45 Ранішняя размінка
7.00 Гадзіна сілы духу
8.00 Без паўзы
8.30 Раным-рана
9.00 Палігон
9.30 Спортлато
9.45 Пакуль усе дома
10.15 Разумнікі і разумніцы
10.55 Марафон-15
11.40 Карэйскі эцюд
12.00 Ведзі
12.30 Дзень добры!
13.00 «Піф і Геркулес»
13.10 «Падводная адысея каманды Кусто»
14.00, 22.50 Навіны
14.20 Дыялог у прамым эфіры
15.00 Клуб падарожнікаў
15.50 Шпаргалка
16.00 «Кот Фелікс», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды» (ЗША)
16.50 Жывое дрэва рамёстваў
16.55 Футбол. Кубак Расіі. Фінал. «Спартак» (Масква) — ЦСКА
18.50 Тэлелоцыя
19.00 «Прафесіянал», м/ф (Францыя)
21.00 Нядзеля
21.45 Спартыўны ўік-энд
22.00 Вялікі тэатр. Дні і вечары
23,00 Вялікая прагулка
23.35 Начное жыццё гарадоў свету. Парыж

**Канал «Расія»**
7.00, 13.00, 19.00, 22.20 Весткі
7.25 «Любоў», д/ф
7.55 Студыя «Рост»
8.25 Добрай раніцы. «Снеданне для чэмпіёнаў»
8.55 Лепшыя гульні НБА
9.55 Аты-баты...
10.25 «Дэ факта». Міжнародная праграма
10.55 «Дарагі мой чалавек», м/ф
12.40 Сялянскае пытанне
13.20 Не высечы...
13.35 «Дарогу адолее той, хто ідзе». Фільмы 2-гі і 3-ці
14.35 Сусветная вёска
15.05 Белая варона
15.50 Расійская энцыклапедыя
16.20 Залатая шпора
17.00 Чароўны свет Дыснея
17.55 Свята кожны дзень
18.05 Валейбол. Расія—Японія
19.25 «Доказ», м/ф
21.15 Кіно ў чэрвені
21.30 У Ксюшы
22.00 Каробка перадач
22.40 Аўтаімгненне
22.45 Зоркі гавораць
22.50 Спартыўная карусель
23.00 «Прывід замка Марысвіль», м/ф

**Санкт-Пецярбург**
7.30 «Гаючае слова». Праграма-набажэнства
8.00 «Усяго за долар», м/ф (ЗША)
9.40 Куток Расіі. «Фарбы Шыкатана»
10.00 Экспрэс-кіно
10.15 Сам-насам з музыкай
11.00 Нядзельны лабірынт
12.30 «Сабака, які спыніў вайну», м/ф (Канада)
13.50 Этнасы Зямлі
14.15 Гістарычны альманах
15.00 «Тайны рэчыва», н/п фільм
16.25 Дж. Вердзі. «Аіда»
18.55 Інфарм ТБ
19.20 Наша кіно. «Забіць дракона»
21.20 Ваш стыль
21.30 «Дом кіно». У пошуках страчанага часу
22.30 «Фатаграфіі на сцяне», м/ф, с. 2

16-22 мая